лизированного журнала в СПб; в начале 90-х гг. этих материалов было больше за счёт нескольких газет, которые выпускал наш военный округ) и спорту (1–2 публикации; главным образом, это статьи о белорусских спортсменах, выступавших в СПб или за него, или известных международных мастерах, например, о шахматисте Б. Гельфанде, футбольном тренере Э. Малофееве, боксере А. Лебзяке и др.), религии и церкви (по 4–6 публикаций ежегодно; в основном это работы по истории белорусской церкви, различным её источникам и документам, персоналиям; в последние годы XX века появляются статьи и о современной белорусской церкви, её проблемах и материальном положении), литература и искусство (по 6–8 публикаций за год; в этих разделах сохраняется примерный паритет публикаций о современной Беларуси и ее творческом потенциале прошлых веков наряду со статьями о различных конкурсах, например, «Славянском базаре» и проблемах киностудии «Беларусьфильм»; статьях о Василе Быкове, Алесе Адамовиче, Эдуарде Ханке; немало материалов об уроженцах Беларуси прошлых веков — Адаме Мицкевиче, Марке Шагале).

Публикации по другим направлениям и областям жизни и деятельности Беларуси в первой и второй половине 90-х гг. в количественном отношении различаются уже достаточно существенно. Так, значительно уменьшилось во второй половине 90-х число статей по экологии и здравоохранению республики — от 10–15 статей в первой половине, до 3–4 — во второй. Главным образом это связано с уменьшением материалов о Чернобыльской аварии и её последствиях для жизни страны. С одной стороны, есть простое разъяснение, заключающееся в том, что с каждым годом становится всё меньше участников и жертв катастрофы, с другой — забвение этой проблемы очень опасно, и не только для Беларуси.

В значительной степени возросло в конце 90-х количество публикаций по различным аспектам и периодам истории страны, её языка, населения и народов, фольклора. Если говорить об истории отдельных народов, проживавших и проживающих на территории Беларуси, отметим почти паритетно представленные материалы о собственно белорусах и еврейском населении, традиционно, в силу черты оседлости, проживавшем в этом регионе. Отметим и целый ряд журналов по истории, образованию, этнографии еврейского народа, выходивших во второй половине 90-х гг. в Санкт-Петербурге. Что касается периодов истории Беларуси, а они в нашем списке условно поделены на 2 — с древнейших времен до 1917 г. и с 1917 по 1991 гг., то тут ситуация следующая.

Общее число статей по истории до 1917 г. в первой половине 90-х гг. составляет 36, тогда как во второй — 49, примерно такой же разрыв наблюдается для истории после 1917 — 20 и 27 публикаций. Тематически же преобладают военные события, происходившие на территории Беларуси — война 1812 года, Великая Отечественная война в целом и отдельные битвы и сражения; много персональных статей об известных военных и государственных деятелях, врачах, учёных-участниках этих событий; истории отдельных регионов и городов; исторических связях с другими народами.

Тремя самыми крупными разделами наших списков являются «Современная Беларусь (общество, экономика, хозяйство)», «Наука. Просвещение. Культура» и «Связи Беларуси с Петербургом». Белорусы и уроженцы Беларуси за ее пределами». Об аспектах современной жизни страны опубликовано 105 статей, причём подавляющее большинство (82) — во второй половине 90-х. В первые годы после распада СССР страна ещё не имела своей ярко выраженной политики, экономики, процесс только складывался, преобладали информационные публикации в газетах. Сейчас уже пришло время для аналитики, данной тематикой занялись экономические и политические журналы Санкт-Петербурга. В центре внимания — вопросы взаимосвязей России и Беларуси. Раздел, посвященный науке, культуре и просвещению, получился у составителей, пожалуй, наиболее крупным, но и слегка «рыхловатым». Всего 193 публикации (71 — в первой половине 90-х и 122 — во второй). Здесь преобладают различные материалы, посвященные научным съездам, конференциям, семинарам, в которых участвовали представители республики преимущественно за её пределами. При этом радует, что число участников этих мероприятий во второй половине 90-х возросло. Правда, в основном речь идет о всероссийских событиях, в международных форумах Беларусь, судя по прессе, задействована гораздо меньше.



Наконец, наверно, самый интересный для тематики конференции блок публикаций о связях республики с Санкт-Петербургом и о белорусах за пределами страны. Чрезвычайно радует то, что публикаций о различных контактах с нашим городом становится с каждым годом всё больше. Во второй половине 90-х таковых насчитывается 27, тогда как за всю первую половину — только 6. Это статьи об экономических, культурных, научных связях, о взаимном интересе и желании развивать отношения, даже несмотря на невыгодную политическую конъюнктуру, личные амбиции отдельных политических деятелей.

Поменялась палитра и тех уроженцев Беларуси, которые прославились за её пределами: если в первой половине 90-х большинство публикаций посвящено политическим деятелям (главные лидеры — Чубайс, Вольский), то во второй половине 90-х на первый план выходят деятели науки и литературы — Ж. Алфёров, А. Володин, Ф. Булгарин.

Теперь несколько слов о тех изданиях, которые наиболее активно публиковали материалы о Беларуси. В первую очередь это солидная научная периодика — «Вестники СПБГУ», «Известия русского географического и генеалогического обществ», «Русская литература», «Вспомогательные исторические дисциплины» и «КЛИО», различные отраслевые медицинские, биологические, физические и химические журналы АН, литературно-художественные журналы — «Звезда», «Нева» и «Аврора», новые экономические журналы «Россия и продовольственный рынок», «Россия и мировой продовольственный рынок» и др.

Обратимся к материалам о Бресте. Общее число публикаций за 1990-е годы составляет 38. При этом 25 публикаций появились во второй их половине. Лидерами среди журналов являются «Аврора», «КЛИО», «Ботанический журнал» и «Славянин» (по 2). Наибольшая доля публикаций приходится на исторический раздел с уже традиционной тематикой — Брестский мир, защита Брестской крепости и Беловежские соглашения, несколько серьёзных работ посвящены религии, церкви, географии, а также связям Бреста и Санкт-Петербурга.

Интерес наших стран друг к другу не ослабевает, скорее увеличивается. Это показывают и результаты анализа питерской прессы, и деятельность различных белорусских электронных порталов, в т.ч. перепечатывающих на своих сайтах и наш список литературы. И это не может не радовать.

*Герасімаў В.М.*

# Рукапісныя дакументы «берасцейскага паходжання» ў фондзе Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь як сведчанні дзяржаўнага і рэлігійнага жыцця рэгіёна XIX–пач. XX стст.



Профіль фарміравання калекцый аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь (каля 75 тыс. адзінак захоўвання) адпаведна з місіяй бібліятэкі ў першую чаргу складаюць рарытэты з ліку нацыянальнага дакумента ўвогуле і па дзяржаве і праву ў прыватнасці. Гэта самыя розныя дакументы ў жанравых і відавых адносінах: афіцыйная, ведамасная і мастацкая літаратура, кнігі і перыядычныя выданні, улёткі, карты, календары, абвесткі, плакаты і г. д. Але так гістарычна склалася, што рукапісаў мы практычна не мелі. У той жа час у апошнія гады на букіністычным рынку краіны даволі часта сталі з'яўляцца асобнікі менавіта гэтага віду пісьменства. Такім чынам, у 2010 г. намі былі куплены праз букіністычную краму два рукапісныя дакументы XIX–XX стст. Сумненняў у набыцці не было з-за таго, што, па-першае, яны змястоўна адносіліся да дзяржаўнай і царкоўна-прававой тэматыкі, а па-другое, мелі непасрэднае «берасцейскае паходжанне» (з тэрыторыі сучасных Іванаўскага і Столінскага раёнаў). Гэта, пасля выключных па сваёй інфармацыйнай і навуковай значнасці першых «Берасцейскіх чытанняў» 2008 г., мела для дакладчыка, як іх колішняга ўдзельніка, асаблівыя сэнс і значэнне. Сёння вашай увазе прапануюцца вынікі папярэдняга аналізу і вывучэння гэтых рукапісных здабыткаў.

Абодва дакументы не маюць вокладак, першых і апошніх старонак. Таму ўмоўна названы намі: першы — «Кніга афіцыйнай дакументацыі Янаўскага благачыння. 1852–1857 гг.», другі — «Кніга афіцыйнай дакументацыі праваслаўнага прыходу Радчыцкай царквы. 1934–1935 гг.». Што дае разгляд гэтых дакументаў? — Уяўленне пра інфармацыйныя патокі, сістэму арганізацыі інфармацыйнага ўзаемадзеяння ад вышэйшых да ніжэйстаячых органаў улады і кіравання і наадварот. Даведаемся пра прозвішчы, пасады і характар дзейнасці вышэйшых саноўнікаў і дробных чыноўнікаў розных ведамстваў Расійскай імперыі сярэдзіны XIX ст. і 2-й Рэчы Паспалітай сярэдзіны XX ст. Паколькі ў гэтыя перыяды ў абодвух дзяржавах царква як сацыяльны інстытут не была яшчэ аддзелена ад улады, дакументы такога кшталту зусім справядліва можна аднесці да блоку афіцыйнай дзяржаўнай дакументацыі. Пачнем з Янаўскага благачыння.

Благачынніцкая акруга — гэта царкоўна-адміністрацыйная адзінка, у склад якой, як правіла, уваходзіла да 10 навакольных цэркваў з прыходамі. Узначальвалася благачынным. Янаўскае благачынне адносілася да Літоўскай праваслаўнай епархіі (1839–1922 гг.), якая кіравалася кансісторыяй на чале з архіепіскапам (у Вільні). Мястэчка Янава (сёння Іванава) тады было на тэрыторыі Кобрынскага павету. На 70 аркушах кнігі знаходзяцца кароткія апісанні і копіі ўказаў, распараджэнняў і прадпісанняў Яго імператарскай вялікасці з С.-Пецярбурга, з Літоўскай духоўнай кансісторыі і мітрапаліта з Вільні, самога благачыннага з Янава. За тыя пяць гадоў, якія вялася кніга, на змену Мікалаю I прыйшоў імператар Аляксандр II. Мяняліся і благачынныя: Іаан Аляшкевіч, Рыгор Шастакоўскі, Іосіф Лехачэўскі. Перад намі паўстае невялікі храналагічна, але насычаны самымі рознымі падзеямі пласт сацыяльнага жыцця гэтага рэгіёна — пытанні аховы і распаўсюджвання праваслаўя, супрацьдзеянне ўплывам канкуруючых канфесій, гаспадарчы і фінансавы складнікі знешняй царкоўнай дзейнасці, маральны стан духавенства і прыхаджан, судовыя справы. Так, з загаду Яго Высокапраасвяшчэнства архіепіскапа ад 14 сакавіка 1852 г. за № 987 мы даведаемся, што благачынныя акруг павінны былі здаваць так званыя «кліравыя ведамасці» ў студзені, але ведамасці ад Валкавыскага, Пружанскага, Скідальскага, Брэсцкага, Янаўскага, Кобрынскага і Столінскага благачынных не паступілі і ў сакавіку. Таму яны не толькі мусілі даць начальству пісьмовыя тлумачэнні, але і былі аштрафаваны па адным рублі срэбрам на карысць «бедных духоўнага звання». Чытаючы «высачайшы» ўказ ад 28 ліпеня 1854 г. «Аб пера-

мозе над туркамі», разумееш, што царкоўны канал давядзення такога кшталту ўказаў да насельніцтва меў як інфармацыйную, так і ідэалагічна-прапагандысцкую функцыю: «...чтобы по получении указов и по подлежащем сношении с гражданским начальством, отправлено было в первый воскресный или праздничный день багодарственное Господу Богу молебствие с коленопреклонением и обыкновенным звоном». Звычайна абгаворваўся і парадак перадачы благачыннымі царскіх маніфестаў: «печатан в С.-Петербурге при Сенате, а с оного при Святейшем Синоде». Далей была Літоўская кансісторыя з загадам благачынным «препровождать ко всякой церкви по одному экземпляру». Указ ад 25 верасня 1854 г. за № 8688 адпаведна з рашэннем Св. Сінода акрэсліваў правы дзяцей святароў і дыяканаў у вайсковай службе. Пасля «экзамену ў навуках», або без яго, калі «меўся атэстат аб скончэнні курса навук у сярэдніх аддзяленнях семінарыі», або адпаведныя дакументы іншых навучальных устаноў, яны залічваліся ўнтэрафіцэрамі, а пасля чатырохгадавай выслугі прызначаліся на афіцэрскія пасады. Шмат якія дакументы адносіліся да забеспячэння кнігамі. У іх паведамлялася пра пасылку царкоўных старастаў па буквары «Начальное учение», рэкамендавалася духавенству набываць выданні «Творения Св.Отцов», «Путешествие по Германии или письма с дороги» М. Грэча, падпісвацца на часопіс «Христианское чтение» і «Земледельческую газету». Яшчэ тут адчувалася і водгулле нядаўніх рэлігійных спрэчак і разыходжанняў з уніяцкім духавенствам. Дарэчы, Літоўскую праваслаўную епархію ў гэтыя гады ўзначальваў вядомы (сумнавядомы?!) мітрапаліт Іосіф Сямашка, ініцыятар і праваднік ліквідацыі уніі ў 1839 г. Пасля чарговай рэвізіі цэркваў епархіі кансісторыяй было заўважана: «Замечено в украшениях иконостасов и церквей немало неприличных и несоответствующих духу православия надписей на польском или латинском языках, изображений святых, в числе коих находятся образа и таких святых, которые не принадлежат нашей церкви, например: Антония Падуанского, Иоанна Непомуцена, Иосафата и др. — местные священники не только не устраняют этих несообразностей, но даже иногда умножают новыми». Зразумела, благачынным прадпісвалася тэрмінова выправіць становішча. Пашыраўся таксама тады цэнтралізаваны збор нашых старажытных рарытэтаў пісьменства з усімі плюсамі і мінусамі гэтага працэсу. У прадпісанні Янаўскага благачыннага протаіерэя Аляшкевіча ад 29 мая 1853 г. за № 220 гаворыцца «о доставлении в Благочинию, где находятся шесть древних служебников и три величания». На гэтую ж тэму яго прадпісанне ад 15 мая 1854 г.

за № 198 са спасылкаю на ўказ кансісторыі № 3311 ад 29 сакавіка па прапанове мітрапаліта Сямашкі ад 25 кастрычніка за № 3460 (1853 г.?) «О доставлении из церквей Яновского благочиния книг бывших униатских [sic! — В. Г.] типографий: а именно Октоихов 18, Ирмологионов 16, Триодей 34, Миней 18, Трефологионов 4 и Величание 1. Имеющие такие книги тотчас обязуются доставить с ведомостями по первым формам с пояснением времени и типографии их издания — опасаясь за медленность строжайшего взыскания». Вось бы тыя выданні зараз Іванаўскай раённай бібліятэцы! Перапісаная Янаўскім благачынным Аляшкевічам копія ўказу ад 20 сакавіка 1853 г. за № 8493 датычылася ўжо і мовы: «Литовская духовная консистория по выслушании представления Преосвященного Игнатия епископа Брестского викария Литовской епархии ... о незнании молитв на славянском языке некоторыми просфирнями Волковысского и Подороского благочиний» загадала святарам пільна сачыць за малодшым духавенствам і забараніць усякія спробы «читать ещё употребляемые прихожанами-простолюдинами молитвы на польском или простонародном языке». Даводзілася да ведама святароў благачыння часам і амаль дэтэктыўная інфармацыя. У прадпісанні благачыннага Аляшкевіча ад 2 ліпеня 1855 г. за № 201 пераказваецца прашэнне калежскай рэгістратаршы з Смаленскай губерні Дамінікі Скугарэўскай забараніць жаніцьбу яе сына Івана, які служыў у Палаце дзяржаўных маёмасцяў у Вільні, дзе пазнаёміўся з Елісаветай Якомі, «девицей порочного поведения». «Девица эта уловкою своею так очаровала его, что он под видом болезни подался в отставку и вслед за тем неизвестно куда с нею уехал». Маці прасіла «отыскать сына её Ивана и отобрать от него паспорт... и учинить в оном в лице матери строжайшее запрещение на вступление в брак не только с означенной Елисоветой Якоми, но и со всякой другою». Самае цікавае, што благачынны рэкамендаваў духавенству акругі «иметь в виду прошение Скугаревской при могущем возникнуть со стороны Ивана Скугаревского желании на обвенчание его с вышеупомянутой Елисоветой Якоми».

«Кніга афіцыйнай дакументацыі праваслаўнага прыходу Радчыцкай царквы. 1934–1935 гг.» — гэта ўжо іншая эпоха. Сучасны Радчыцк — вёска ў Столінскім раёне. У 2-й Рэчы Паспалітай яна ўваходзіла ў склад Палескага ваяводства Столінскага павета Плотніцкай гміны. У дадзенай кнізе падшыты пераважна запыты плотніцкага самаўраду да кіраўніцтва Радчыцкага прыходу па самых розных метрычных звестках, а таксама копія адной метрыкі, перапіска з вышэйшымі кіраўнічымі органамі міжваеннай аўтакефальнай Польскай праваслаўнай царквы і т. п. Мова

дакументаў пераважна польская, частка іх — на рускай. Настаяцелямі Радчыцкай царквы былі тады Якаў Шамяціла, пазней — протаіерэй Васіль Мінковіч. Між іншым, у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў 805 фондзе захоўваецца 25 справаў па Радчыцкай Раства-Багародзіцкай царкве за 1797–1939 гг. Паколькі метрычныя звесткі часам носяць канфідэнцыяльны характар, запрашаем даследчыкаў сваіх радаводаў азнаёміцца з мажліва неабходнымі ім матэрыяламі непасрэдна ў нашай бібліятэцы. Адно, назавём некаторыя прозвішчы, якія прысутнічаюць на старонках кнігі. Сярод іх: Пракапчук, Барановіч, Пацукевіч, Гунько, Бандарчук, Карплюк, Калеснік, Ляўковіч, Трушко, Аўрамчук, Герасімчук, Касяровіч, Козел, Багалка, Краскоўскі і інш. З апытальнай анкеты па Радчыцкім прыходзе даведваемся: копіі метрычных кніг захоўваліся з 1846 г.; царкоўныя летапісы — з 1899 г.; кнігі богаслужбовыя «меліся» ў дастатковай колькасці, а вось кнігі, прызначаныя проста для чытання, у царкоўнай бібліятэцы адсутнічалі; пачатковыя школы працавалі ў Радчыцку, Калодным, Фядорах, Рухчы, Кастрове, Аўсяміраве, Цмені I і Цмені II; 116 гектараў прыходскай зямлі знаходзіліся пры Радчыцкай, Цменскай, Рухчанскай і Аўсяміраўскай цэрквах і прыносілі даход 3000 злотых у год. З інфармацыйнага ліста благачыннага 1 акругі Столінскага павета ад 23 снежня 1934 г., № 854 да духавенства акругі яскрава бачны паўсядзённыя рэаліі жыцця. На 2 студзеня ў мястэчку Высоцку прызначаўся саборык усяго кліра акругі. Галоўнай мэтай акрэслівалася Св. Прычасце сяброў кліру і абмеркаванне бягучых пытанняў. Так, былі атрыманы новыя календары: штотыднёвікі для 14 настаяцеляў па 1 зл., адрыўныя і настольныя, у колькасці — адпаведна папярэднім заказам па 63 грошы. У лісце аб'яўляўся шэраг указаў духоўнай кансісторыі адносна экзаменаў у Пінску для настаўнікаў рэлігіі, якія не маюць кваліфікацыі (плата за экзамен — 33 зл.), зборы для былога псаломшчыка Іваненкі (па 1 зл. 50 грошаў і інш.). Заканчвае благачынны арыгінальна: «Ввиду того, что я заказал себе крест, то прошу недоимщиков на канцелярию благочиния (450 зл.) привезти свой долг на соборик — это всё равно, что поднести мне крест. Благочинный протоиерей Ф. Перхорович». З лінгвістычнага пункту гледжання адзначым тут слова-пярлінку «соборик», якое, на наш погляд, асацыятыўна пераклікаецца з «соймікам» часоў ВКЛ і, безумоўна, падкрэслівае трываласць беларускамоўнай традыцыі ў мясцовай канцылярскай мове. Увогуле, у польскай і рускай мове дакументаў разглядаемай крыніцы сустракаюцца рэдкія царкоўнаславянскія ўкрапванні і беларусізмы. Напрыканцы канстатуем, што, улічваючы вялізныя

бібліятэчныя і архіўныя страты Беларусі за апошнія стагоддзі, — кожны зноў адшуканы і ўведзены ў навуковы зварот рукапіс мае неацэннае значэнне як для мінскіх даследчыкаў, так і для краязнаўцаў з рэгіёнаў. А ў іх вывучэнні неабходна аб'ядноўваць намаганні, бо часам толькі веданне мясцовай тапанімікі, легенд і паданняў дапамагае прачытаць той ці іншы дакумент, раскрыць «белыя плямы» айчыннай гісторыі і, як вынік, — расшыфраваць своеасаблівыя цывілізацыйныя пасланні нашых продкаў.

*Карапузова А.Г.*

# Состав и содержание научно-справочной библиотеки Государственного архива Брестской области



В Государственном архиве Брестской области, созданном в феврале 1940 г., хранятся документы по истории Брестчины с 1919 года. На сегодняшний день архивные фонды в своём составе насчитывают свыше 1 млн. единиц хранения. Это документы органов управления, учреждений, организаций и предприятий, действовавших и действующих на территории Брестской области в разные исторические периоды (в так называемый «польский» период, в годы немецкой оккупации, в советское время и в период суверенной Республики Беларусь).

Кроме архивных документов, в распоряжении архивистов и пользователей архива имеется научно-справочная библиотека, в которой насчитывается почти 21 тыс. книг и брошюр. Причём самые ранние из них датируются началом XIX века, а самые поздние — 2011 годом.

Представленные в библиотеке издания охватывают практически все области знаний. Здесь можно найти книги по истории, географии, естественным и техническим наукам, медицине, сельскому и лесному хозяйству, праву и юридическим наукам, филологии и многим другим наукам разных годов и стран изданий. Языки изданий также очень разнообразны: русский, польский, белорусский, украинский, французский, немецкий, идиш и иврит.

Библиотечный фонд архива отличает и видовое многообразие изданий. Исходя из целевого назначения, в составе библиотеки имеются

официальные, научные, научно-популярные, нормативные практические, ведомственные, учебные, массово-политические, справочно-информационные издания. По знаковой природе информации — текстовые, картографические, нотные, изоиздания; по составу основного текста — моноиздания и сборники и т.д. Эту классификацию, конечно, можно продолжать.

Безусловно, охарактеризовать весь библиотечный фонд архива в рамках одной статьи не представляется возможным, поэтому остановимся на характеристике некоторых его комплексов.

Основу библиотечного фонда архива составляют печатные издания, хранившиеся до сентября 1939 г. в учреждениях и организациях Полесского воеводства, прежде всего в местных органах управления и самоуправления (Полесское воеводское управление, Брестский и Пинский магистраты, поветовые староства). Данные материалы поступили на хранение в архив наряду с документами этих учреждений в 1940 году, после создания архива.

Этот комплекс изданий составляет около 70% всего книжного фонда архива.

Среди книг так называемого «польского» периода можно выделить: издания, содержащие законодательные акты Польского государства за 1919–1939 гг.; статистические издания, освещающие вопросы экономики, народонаселения, культуры, народного образования, здравоохранения, социального обеспечения в Польше за 1919–1939 гг.; исследования по истории, о деятельности общественно-политических и хозяйственных организаций; краеведческие издания (очерки, путеводители, этнографические обзоры), энциклопедические справочники, издававшиеся в Варшаве, Вильно, Львове, Бресте, Пинске и других городах на польском, белорусском, украинском, идиш и иврит языках.

В изданиях Главного статистического управления Польши содержатся статистические материалы о населении полесского края, его численности, вероисповедании, уровне образования, занятиях, в т.ч. материалы общих переписей населения 1921, 1931 гг.

В официальных периодических изданиях, выходивших в 1919–1939 гг., содержатся нормативные и правовые акты высших и местных органов власти. Это, прежде всего, вестник законов Республики Польша (Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej Polskiej), в котором публиковались законы польского государства, распоряжения, постановления президента, правительства и министерств; официальные вестники отдельных министерств (Министерство военных дел, Министерство фи-

нансов, Министерство сельского хозяйства и земельных реформ, Министерство почт и телеграфов Польши и др.); Полесский воеводский вестник (Poleski Dziennik Wojewódzki), в котором публиковались распорядительные и другие нормативные акты на уровне воеводства, объявления административных властей, а также других государственных органов, за исключением центральных, которые были обязательны для исполнения и всеобщего сведения на территории воеводства и др.

В данном комплексе материалов имеются также общегосударственные периодические издания, касающиеся вопросов польского права и законодательства, самоуправления, социального обеспечения и других вопросов.

Следует особенно выделить в комплексе книжного фонда межвоенного периода издания краеведческого и справочного характера, касающиеся полесского региона (например, «Rocznik Poleski» (Брест, 1926), «Polesie ilustrowane» (Брест, 1927), «Rocznik miasta Brześcia na rok 1930» (Брест, 1929), «Roczniki ziem wschodnich» (Варшава, 1934–1939) и др.). В данных материалах содержится географическое и историко-этнографическое описание региона, приводятся сведения об обычаях и быте полешуков, статистические сведения, освещаются хозяйственные вопросы. Как правило, эти издания снабжены богатыми иллюстрациями.



Интерес представляют также доставшиеся архиву «в наследство» от польских учреждений издания периода Российской империи. Это прежде всего своды законов Российской империи разных годов изданий (1842, 1903, 1911, 1913), сборники узаконений и распоряжений правительства (1898, 1911, 1912). Особенно хочется выделить издание 1832 г. под названием «Сенатские объявления о запрещениях и разрешениях на недвижимые имения». Оно интересно не только годом издания и содержанием, но и объёмом (3170 страниц), и шириной спинки (почти 25 см).

Следует отметить и внушительное собрание нотных изданий, содержащих нотные записи различных музыкальных произведений (оперетты, песни и др.), изданных как в период Российской империи, так и в 1919–1939 гг.

После окончания Великой Отечественной войны в библиотеку архива поступила общественно-политическая и художественная литература, находившаяся в оккупационных учреждениях, а также немецко-фашистские пропагандистские издания.

Rok I. Brześć n/B. dnia 26 sierpnia 1929 roku Nr. 3—4.

# MŁODY POLESZUK

ilustrowany organ Poleskiego Wojewódzkiego Komitetu W. F. i P. W.

Major dyplomowany Szostak.

## Wychowanie fizyczne na Polesiu w oświetleniu Kierownika Okręgowego Urzędu W. F. i P. W. — D. O. K. Nr. IX.

Dzięki inicjatywie Poleskiego Wojewódzkiego Komitetu Przysposobienia Wojskowego i Wychowania Fizycznego, pozwolę sobie poruszyć tematy, które dając szkic działalności wojskowych organów WF. i PW., pomogą uzgodnić zakres działania na tem polu Komitetów, stowarzyszeń i klubów z wojskiem dla osiągnięcia maximum współpracy, rezultatem czego będzie należyty rozwój wychowania fizycznego na terenie Województwa Poleskiego.

Praca szczególniej w dziedzinie wychowania fizycznego, obejmująca jaknajszersze warstwy społeczeństwa, jest obowiązkiem nietylko wszystkich organów państwowych, lecz w równej mierze całego społeczeństwa i tylko w ten sposób rozumiana, może przynieść pożądane owoce.

### Wychowanie fizyczne — środki do pracy.

W dążeniu do załaczania coraz szerszych kręgów wychowaniem fizycznem w społeczeństwie, wychowaniem które przez zorganizowanie i zajęcie młodzieży naszej i starszego społeczeństwa, ma dać podstawy zdrowia, wyrobienia odwagi, siły i zręczności tak niezbędnych obok zalet umysłu i ducha, każdej jednostce, a Państwu szczególnie w wypadku większych wysiłków dla jego dobra, musimy zastanowić się jakiemi środkami i w jaki sposób dążenia swoje w czyn wprowadzać.

Rozwój jakościowy tej pracy potrzebuje umiejętności prowadzenia jej przez odpowiednie kierownictwo, oparte na przemyślanych i życiowych planach i programach, potrzebuje wykwalifikowanych wykonawców-instruktorów, potrzebuje warsztatów pracy— (boiska, hale itp.), — potrzebuje wreszcie licznego udziału tych, dla których pracę tę prowadzi się.

### Kierownictwo sprawami WF. i PW.

Jeśli chodzi o kierownictwo, to powszechnie znaną jest jego organizacja. Istnienie Rady Wychowania Fizycznego pod przewodnictwem P. Marszałka Piłsudskiego daje możność posiadania ogólnych dyrektyw, istnienie Państwowego Urzędu WF. i PW. występującego z ramienia trzech ministerstw (spraw wojskowych, spraw wewnętrznych, wyznań religijnych i oświecenia publicznego) daje ogólne fachowe kierownictwo przelewające się dwiema drogami: z jednej strony przez Wojewódzkie Komitety, z drugiej zaś strony przez Okręgowe Urzędy WF. i PW.

Istnienie Komitetów powiatowych, miejskich i gminnych oraz równolegle rejonowych, obwodowych i powiatowych komend PW. zapewnia możność prowadzenia pracy WF. i PW. w terenie.

Organizacja taka daje coraz pomyślniejsze rezultaty na zachodzie Polski, na wschodzie ma duże widoki rozwoju przy bardziej wytężonej uwadze i większym udziale społeczeństwa w pracy na tym polu.

### Instruktorzy.

Przechodząc do pracy wykonawczej, omówić muszę sprawę instruktorów jako działu, w którym wojsko najbardziej jeszcze jest zaangażowane.

Złożyły się tak okoliczności, w konsekwencji istoty wojska, że wychowanie fizyczne przedewszystkiem racjonalnie rozpoczęto przeprowadzać w wojsku, tu powstały pierwsze szkoły WF., to też zanim Państwowy Instytut da odpowiednią ilość absolwentów— wojsko nadal instruktorów dostarczać będzie musiało.

Wobec wzrastającego zapotrzebowania na instruktorów, które rośnie z roku na rok, powołane zostały do życia przez Państw. Urz. Okręgowe Szkoły Wychowania Fizycznego tak zw. Ośrodki WF., gdzie szkoleni są pomocnicy instr. i przodownicy ćwiczeń cielesnych dla stowarzyszeń i klubów, a również policji państwowej i wojska.

Rezultaty pracy ośrodka w Brześciu w rb. i zamierzenia do końca roku są następujące:

Przeprowadzono szereg kursów stałych trwających od 2-ch do 10 tygodni, na których przeszkolono 274 uczestników w tem 87 kobiet. Oprócz tego na kursach dochodzących ćwiczono 460 uczestników w tem 200 kobiet.

Do końca br. budżetowego zostanie przeprowadzonych 5 kursów stałych, trwających 2—7 tygodni na ogólną ilość 170 uczestników niezależnie od kursów dochodzących.

*«Молодой полешук». Иллюстрированный орган Полесского Воеводского комитета физического воспитания и военной подготовки. 1929 г.*
*Из фонда Государственного архива Брестской области.*

В послевоенные годы библиотека архива комплектовалась, в основном, общественно-политической, исторической, краеведческой литературой и архивоведческими изданиями. Среди изданий советского периода преобладают издания по истории революционного движения, истории КПСС и КПБ, собрания сочинений Ленина, Сталина и т.п. Имеются книги по всеобщей истории, истории СССР, Беларуси, Великой Отечественной войны, различные сборники документов и материалов, разнообразные энциклопедии, словари и др.

В библиотеке архива имеется и специальная архивная литература, справочники и путеводители по архивам бывшего СССР и др.

Следует отметить, что библиотека архива не является самостоятельным подразделением, а выполняет вспомогательную функцию в архивной работе. В связи с этим специально её фонды не пополняются. В последние годы в библиотеку, в основном, поступают книги, переданные архиву в дар, либо необходимые для архивной работы, приобретаются издания других архивов. Беларуси. Там, за последние 10 лет в библиотеку архива поступило только около 100 изданий.



Книги из библиотеки выдаются только работникам архива, а также исследователям, работающим в читальном зале архива, которые для своих исследований наряду с архивными документами привлекают и библиотечные издания, в основном, периода 1919–1939 гг.

Следует отметить, что многие книги так и не нашли своего читателя. Проблема не в том, что они не представляют интереса, а в том, что, к сожалению, отсутствует полноценный каталог изданий, хранящихся в архиве (он имеется только на наиболее востребованные издания по истории, краеведению, экономике, статистике и др.). В перспективе планируется каталогизировать все хранящиеся в архивной библиотеке издания по библиотечным правилам и соответственно сделать их более доступными.

Таким образом, представленная кратким обзором научно-справочная библиотека архива является значимым дополнением документального комплекса архива.

*Доўнар Л.І.*

# Брэсцкія выданні міжваеннага часу ў кантэксце даследавання рэгіянальнай гісторыі кнігі



Мэтамі даследавання з'яўляюцца вызначэнне праблемных пытанняў рэгіянальнай гісторыі кнігі Беларусі і спроба выяўлення шляхоў іх вырашэння на прыкладзе бібліяграфавання брэсцкіх выданняў 1921–1939 гг.

У сувязі з гэтым, для асвятлення тэмы неабходна акрэсліць кола задач, звязаных з:

1) вылучэннем і актуалізацыяй у беларускім кнігазнаўстве такога кірунку даследаванняў, як рэгіянальнае кнігазнаўства;

2) методыкай і метадалогіяй даследаванняў кнігі як з'явы культуры, кніжнай культуры ў кантэксце рэгіянальных асаблівасцей;

3) неабходнасцю глыбокага і комплекснага даследавання гісторыі беларускай кнігі ў міжваенны час (1921–1939 гг.);

4) рэтраспектыўным бібліяграфаваннем выданняў, якія выйшлі ў Заходняй Беларусі ў межах II Рэчы Паспалітай на розных мовах.

Пытанню рэгіянальнага кнігазнаўства ў кантэксце даследаванняў гісторыі кнігі Беларусі быў прысвечаны наш артыкул, апублікаваны ў зборніку матэрыялаў VII Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў (2011 г.)[1]. У артыкуле звернута ўвага на вылучэнне і актуалізацыю ў

1 Доўнар Л. І. Рэгіянальныя даследаванні гісторыі кнігі ў Беларусі: да пытання аб рэгіянальным кнігазнаўстве // Материалы VII Международных книговедческих чтений «Библиотеки и политика открытого доступа к информации и знаниям» (Минск, 10–11 ноября 2011 г.) / Нац. б-ка Беларуси ; сост. Л. Г. Кирюхина. Мінск, 2011. С. 62–71.

беларускім кнігазнаўстве рэгіянальнага кірунку як прадмета асобнага вывучэння, зроблена спроба агляду і аналізу пэўных прац, прысвечаных гісторыі кнігі тых ці іншых рэгіёнаў Беларусі (пачынаючы з XIX ст.); адзначаны сучасныя цэнтры па даследаванні кнігазнаўчых пытанняў у рэгіёнах; вылучаны асноўныя тэндэнцыі і некаторыя праблемы ў дадзенай галіне. Распрацоўка агульных пытанняў рэгіянальнага кнігазнаўства, у прыватнасці тэрміналагічных, такіх як «край» і «рэгіён», «рэгіянальнае» і «нацыянальнае», іх суадносін і прыдатнасці ў бібліятэказнаўстве, бібліяграфазнаўстве і кнігазнаўстве, спрыяла б развіццю і прымяненню іх у практычнай дзейнасці.

З аднаго боку, для Беларусі характэрны сталыя традыцыі краязнаўчых бібліятэчна-бібліяграфічных даследаванняў (закладзеныя яшчэ ў XIX–пачатку XX стст., калі актыўна развіваліся працэсы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі), з другога боку за савецкім часам, БССР, з'яўляючыся адным з рэгіёнаў СССР, была прадстаўлена сярод іншых рэспублік адной з рэгіянальных бібліятэчна-бібліяграфічных сістэм[2], у якой адначасова было «замацавана права» на развіццё ўласнай сістэмы краязнаўчай бібліяграфіі.



Сёння ў галіне бібліятэчна-бібліяграфічнага краязнаўства Беларусі, як развітым навуковым кірунку[3], культываванне якога звязана і з практычнай дзейнасцю бібліятэк па краязнаўстве, застаецца дамінуючым выкарыстанне і адпаведнага паняційнага апарату. Слабае развіццё рэгіянальнага падыходу ў параўнанні з краязнаўчым, як здаецца на першы погляд, уступае ў супярэчнасць са зменамі і патрэбамі як сацыяльна-палітычнага, эканамічнага, так і культуралагічнага, навуказнаўчага характару. Тым не менш, гэтую з'яву хацелася б патлумачыць менавіта як характэрную асаблівасць нашай беларускай гісторыі і рэчаіснасці.

Што датычыцца падыходаў у вызначэнні тэрмінаў «рэгіянальны» і «краязнаўчы», то, на наш погляд, іх суадносіны не ёсць суадносіны тэрытарыяльных адзінак (якія могуць і супадаць), а з'яўляюцца суадноснымі агульнага і прыватнага[4], якія адрозніваюцца пэўнымі якаснымі ўласцівасцямі — змястоўнымі. Рэгіянальны падыход грунтуецца, ў першую чаргу, на прынцыпе адзінства разнастайнасці.

2 Леончиков В. Е. Библиографическая система союзной республики и критерии ее эффективности // Региональные библиографические системы: вопросы библиографоведения : сб. науч. тр. / ГБЛ. М., 1987. Вып. 9. С. 39–52.

3 Саітава В. І. Гісторыя краязнаўства Беларусі : вуч. дапам. Мінск, 2009. 203 с.

4 Маслова А. Н. Краеведение и библиотека : избранные статьи. СПб., 2010. С. 208.

У кнігазнаўстве такім яскравым прыкладам можа быць даследаванне ўсёй сукупнасці выданняў на розных мовах, якія друкаваліся ў пэўным рэгіёне, а не толькі на нацыянальнай мове ці «аб краі». Перспектыўнасць рэгіянальнага падыходу адзначаецца ў галіне даследаванняў кніжнай культуры, таму што кніга «<...> возникает, потребляется и передаётся в порядке культурной преемственности, в контексте не только этнического, но также и локального, и регионального своеобразия той или иной социальной формации»[5].

Прыкладам рэалізацыі комплекснага падыходу ў галіне даследавання кніжнай культуры пэўнага рэгіёна Беларусі з'яўляецца міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання», арганізаваная *Брэсцкай абласной бібліятэкай* у 2008 г. і сёлета, у 2012 г. Упершыню ў рэгіянальным кнігазнаўстве Беларусі кніга прадстаўлена ў рэтраспектыве і перспектыве стварэння, бытавання, распаўсюджання, захоўвання і захавання; у кантэксце гісторыі і культуры рэгіёна, тэрыторыі, «дзе славянскія культуры Захаду, Поўдня і Усходу, роўна як заходнеўрапейскія, прыходзілі ў непасрэднае, самае цеснае ўзаемадзеянне на працягу многіх стагоддзяў. Кніжнасць і літаратура сталі найбольш універсальнымі сродкамі ўзаемапранікнення, узаемаўзбагачэння, пазнання адзін аднаго»[6].

У даследаваннях гісторыі кнігі Беларусі ў рэгіянальным аспекце, на наш погляд, можна вылучыць наступныя кірункі: лакальна-рэгіянальны — Мінск, Брэст, Віцебск, Полацк, Гродна, Гомель, Магілёў, Слонім, Слуцк, Пінск і інш.; этнаграфічна-рэгіянальны — Падляшша, Палессе, Ветка; гістарычна-рэгіянальны — Заходняя Беларусь, Віленшчына; адміністрацыйна-рэгіянальны — Брэстчына, Гродзеншчына, Гомельшчына, Міншчына.

Нярэдка ў даследаваннях польскіх і расійскіх вучоных, якія, арыентуючыся на гістарычныя межы сваіх дзяржаў і актыўна развіваючы рэгіянальныя падыходы ў галіне кніжнай культуры, можна сустрэць і трактаванне беларускай тэрыторыі як рэгіёну (паўночна-заходняга ці ўсходняга) у складзе адпаведных краін (Рэчы Паспалітай ці Расійскай імперыі). Адначасова зазначым, што працы замежных аўтараў, у

5 Мыльников А. С. О советской концепции всеобщей истории книги // Книга. Исследования и материалы. М., 1985. С. 131.

6 Берасцейскія кнігазборы : матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. «Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання» (Брэст, 30–31 кастрычніка 2008 г.) / УК «Абласная бібліятэка імя М. Горкага» ; склад.: А. М. Мяснянкіна, Т. С. Кавенька ; [пад агул. рэд. М. В. Нікалаева]. Брэст, 2010. С. 5.

якіх назапашаны значны гісторыка-тэарэтычны вопыт асвятлення рэгіянальнай кніжнай культуры, складаюць неабходную базу навуковага інструментарыя і для беларускіх даследчыкаў.

Важныя метадычныя, метадалагічныя падыходы і аргументы прапанаваны ў працах А.С. Мыльнікава, А.А. Грачыхіна, М.С. Карташова, Б. Бянькоўскай, Л.А. Мандрынай, А.І. Манаенкавай, І.І. Міхлінай, В.А. Факеева, М.В. Шабаліной, А.М. Маславай і інш., якія абгрунтавалі неабходнасць і эфектыўнасць прымянення рэгіянальнага падыходу ў кнігазнаўстве, бібліятэказнаўстве, бібліяграфазнаўстве. Прапаноўваючы выкарыстанне менавіта сістэмна-рэгіянальнага падыходу, А.С. Мыльнікаў звяртаў увагу на тое, што дадзеная метадалогія патрабуе сукупнага разгляду грамадскіх, гнасеалагічных і асобасных фактараў, якія забяспечваюць сістэмнае адзінства даследуемых катэгорый культуры, і разгляду іх як сістэмы ў межах пэўнага рэгіёна[7]. Гэта, у сваю чаргу, прадвызначае храналагічны і прасторавы зрэз аналізуемай з'явы культуры (яе аналіз у маштабе асобнага рэгіёна ў пэўную эпоху ў межах краіны ці групы краін), а сёння і з улікам ужо існуючых распрацовак у галіне кніжнай культуры[8]. У практычнай жа дзейнасці ў галіне



кніжнай справы, як зазначыў А.А. Грачыхін, «<...>без разработки и внедрения регионального аспекта любая информационная система не будет эффективной»[9].

Відавочна, што метадалогія рэгіянальных даследаванняў патрабуе і міждысцыплінарнага, кампаратыўнага падыходу, выкарыстання сучасных тэарэтычных дасягненняў у галіне культуралогіі, гісторыі, філалогіі, кнігазнаўства (у іх ліку рэгіянальнага кнігазнаўства). Адначасова рэгіянальныя даследаванні кнігі і кніжнай культуры, заснаваныя на мясцовым матэрыяле, узбагацяць цалкам карціну навуковых прац у вызначаных галінах, паспрыяюць высвятленню асаблівага, разнастайнага і агульнага ў гісторыка-культурным развіцці Беларусі.

---

7 Мыльников А. С. О культурно-исторических аспектах регионального книговедения // Книга. Исследования и материалы. М., 1992. Сб. 64. С. 12–13.

8 Шабалина М. В. Книговедение: опыт региональных изысканий : учебно-методическое пособие. М. : Либерия-Бибинформ, 2006. 160 с. (Серия «Библиотекарь и время. XXI век» ; вып. 50) ; Міганъ К. Кніжная культура — спроба акрэслення паняцця як навуковай катэгорыі / пер. з пол. Ларысы Доўнар // Беларуская кніга ў кантэксце сусветнай кніжнай культуры: гісторыя і сучаснасць : зб. навук. прац / склад. Л. І. Доўнар, Т. А. Самайлюк. Мінск, 2011. [Вып. 3]. С. 17–39.

9 Гречихин А. А. Региональный аспект развития государственной системы НТИ // Региональные аспекты информационно-культурологической деятельности : тезисы докладов междунар. науч. конф. Краснодар–Новосибирск, 16–18 сентября 1998 г. Краснодар, 1998. С. 46.

Неабходнасць больш глыбокага і комплекснага даследавання гісторыі беларускай кнігі ў міжваенны час (1921–1939 гг.) цесна звязана і з пытаннем рэтраспектыўнага бібліяграфавання выданняў, якія выйшлі ў Заходняй Беларусі ў межах II Рэчы Паспалітай на розных мовах. Пакуль падобныя абагульняльныя, навуковыя і бібліяграфічныя працы ў Беларусі адсутнічаюць.

Гісторыя ж дадзенага пытання патрабуе звароту адпаведна да разнастайных крыніц, як беларускіх, так і асабліва польскіх, пачынаючы ад 1920-х гадоў і да нашага часу. Найперш звернемся да бібліяграфічных крыніц. І пачаткам такой працы з'яўляецца «Летапіс беларускага друку. Ч. 3. 1917–1924 гг., сш. 1» (ЛБД), які выйшаў у 1927 г.[10] У ім сабрана інфармацыя за адпаведны перыяд аб выданнях на беларускай мове не толькі Савецкай Беларусі, але і тых, што друкаваліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе II Рэчы Паспалітай. Усяго паводле ЛБД па-за межамі БССР у 1921–1924 гг. выйшла не менш як 144 беларускамоўныя выданні. З іх 132 — у Заходняй Беларусі, а таксама 7 — у Коўне, 3 — у Берліне, 1 — у Люцыне (Латвія), 1 — у Сербіі. Сярод першых друкаў на беларускай мове ў Заходняй Беларусі ёсць і адно брэсцкае выданне 1921 г. — «*Чаму ж ты маўчыш кабета сялянская?*»[11]. Месцам друку іншых выданняў выступаюць Вільня (121 найменне), Беласток (3), Пінск (2), Ваўкавыск (2), Гародня (1), Ліда (1), Нясвіж (1)[12]. Найбольшую колькасць складаюць выданні 1921 г. — 55, за 1922 г. — 26, за 1923 г. — 31, за 1924 г. — 32. Паказаныя вынікі паводле ЛБД у значнай ступені адлюстроўваюць карціну беларускамоўнага друку ў Заходняй Беларусі — актыўную ролю Вільні ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі, а таксама выдавецкі рэпертуар, у якім дапамагаюць арыентавацца і індэксы УДК да кожнага бібліяграфічнага апісання. Аднак, пачатая Юліяй Бібіла праца па ўліку як беларускамоўных выданняў па-за межамі БССР, так і выданняў на іншых мовах, у далейшы міжваенны час так і засталася ў рукапіснай форме (у 1969 г. быў апублікаваны толькі «Сшытак 2», прысвечаны выданням на рускай, польскай і яўрэйскай мовах, якія выйшлі ў БССР у 1917–1924 гг.). А з 1929 г. (да 1946 г.) так званыя «замежныя» выданні наогул «не падлягалі» у БССР дзяржаўнай рэгістрацыі.

---

10 Летапіс беларускага друку. Ч. 3. 1917–1924. Сшытак першы. Выданні на беларускай мове / Беларуская дзяржаўная бібліятэка. Беларускі аддзел. Матэр'ялы і каталёгі, № 1 ; [склад. Ю. Бібіла]. Менск, 1927. 56 с.

11 Гл. дадатак 1, 2.

12 Гл. дадатак 1.

Амаль адначасова, з 1928 г., у ІІ Рэчы Паспалітай пачынаецца бягучы ўлік усёй разнамоўнай выдавецкай прадукцыі, што выходзіла на тэрыторыі польскай дзяржавы ў бібліяграфічным паказальніку пад назвай «Urzędowy Wykaz Druków wydanych w Rzeczypospolitej Polskiej» (UWD)[13], які выпускаўся штотыднёва (на працягу года выходзіла па 52 выпускі). Для выяўлення разнамоўных выданняў з Заходняй Беларусі дадзеная бібліяграфічная крыніца з'яўляецца адной з асноўных і вартых пільнай увагі беларускіх бібліёграфаў і даследчыкаў. Сярод сучасных бібліяграфічных крыніц важкае месца займае і рэтраспектыўная «Bibliografia Polska, 1901–1939» (BP)[14], выпуск якой быў распачаты Нацыянальнай бібліятэкай у Варшаве ў 1986 г. Да 2009 г. выйшла 13 тамоў (да літар «Jad–Jok»), выданне працягваецца. Паводле названых бібліяграфічных прац, якія склалі аснову нашага даследавання, можна выявіць шэраг беларускіх рэгіянальных выданняў, вызначыць адпаведна і пэўныя выдавецкія цэнтры, моўны і нават змястоўны рэпертуар кніжнай прадукцыі, месцы захоўвання выданняў, а таксама і перспектывы далейшых даследаванняў.

У выніку суцэльнага прагляду адзначаных бібліяграфічных крыніц было выяўлена каля 250 рэгіянальных выданняў на пяці асноўных мовах: беларускай, ідыш, іўрыце, польскай і рускай; вызначаны каля 20 населеных пунктаў у Заходняй Беларусі, якія з рознай ступенню актыўнасці ўдзельнічалі ў выдавецкім працэсе. Асноўным выдавецкім цэнтрам заставалася, безумоўна, Вільня, асабліва што да выданняў на беларускай мове, якія друкаваліся амаль выключна ў гістарычным і культурным цэнтры Беларусі (для перспектывы даследаванняў улічваліся і ўсе разнамоўныя віленскія выданні, колькасць якіх толькі паводле «Bibliografii Polskiej» склала каля 1 500 найменняў). Брэст-над-Бугам, у параўнанні з іншымі рэгіёнамі, займаў таксама не апошняе месца ў галіне выдавецкай справы Заходняй Беларусі, праўда, уступаючы Беластоку і Гродна, супернічаючы з Пінскам і Навагрудкам. У выніку бібліяграфічнага пошуку выяўлена 40 брэсцкіх выданняў міжваеннага



13 Urzędowy Wykaz Druków wydanych w Rzeczypospolitej Polskiej i druków polskich lub Polski dotyczących, wydanych zagranicą. Warszawa : Ministerstwo Wyznań Religijnych i Oświecenia Publicznego, 1929. R. II, nr 1–52. 3830 słp.

14 Bibliografia Polska, 1901–1939. Warszawa : Biblioteka Narodowa, 1986–2009. T. 1–13. Гл. таксама: http://www.bn.org.pl/katalogi-i-bibliografie/bibliografia-narodowa/bibliografia-polska-1901–1939.

POLESK. MIĘDZYKOMUNALNY ZWIĄZEK MELJORACYJNY

JADWIGA BURY

# OGÓLNE WYTYCZNE POPRAWY WARUNKÓW ROLNICTWA NA POLESIU





Nakładem Poleskiego Międzykomunaln. Związku Meljoracyjnego
1 9 3 2.
B R Z E Ś Ć n a d B U G I E M

Zakł. Graf. Sejmiku Brzeskiego — Brześć n/B. Steckiewicza 30

*Издание «Бура Ядвига. Общие указания по улучшению условий ведения сельского хозяйства на Полесье». Брест, 1932 г. Из фонда Государственного архива Брестской области.*

часу: на польскай мове — 24, на рускай — 6, на іўрыце — 5, на ідыш — 4, на беларускай мове — 1[15].

У пошуку фактаграфічных дадзеных і характарыстыкі выдавецкай справы ў Заходняй Беларусі неабходна звяртацца як да архіўных матэрыялаў, так і да апублікаваных матэрыялаў, спецыяльных. Сярод першых беларускіх манаграфічных выданняў, у якіх закраналіся пытанні выдавецкай справы ў Заходняй Беларусі, праца С.В. Говіна «Друк Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.)» (Мінск, 1974), а таксама гістарычны нарыс А.А. Ваўка і А.І. Раковіча «Книгоиздательское дело в Белоруссии» (Мінск, 1977). З сучаснага пункту гледжання, названыя працы здаюцца занадта тэндэнцыйнымі ў сваіх ідэалагічных ацэнках, тым не менш, выкарыстаныя аўтарамі дакументы партыйных архіваў і тыхчасовыя перыядычныя выданні сведчаць самі за сябе. Так, напрыклад, Сцяпан Васільевіч Говін для напісання сваёй працы карыстаўся архіўнымі і бібліятэчнымі фондамі не толькі ў Беларусі, у прыватнасці ў Брэсце (Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці, Брэсцкі гісторыка-краязнаўчы музей), але і ў Літве. У выніку ім была прадстаўлена выдавецкая дзейнасць тых беларускіх арганізацый Заходняй Беларусі, якія «пераадольваючы памылкі, станавіліся на марксісцкія пазіцыі»[16], а значыць, знаходзіліся пад уплывам і кантролем КПЗБ і цярпелі пераслед ад польскіх улад: Беларуская рэвалюцыйная арганізацыя, Беларуская сялянска-рабочая грамада, Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб «Змаганне», Таварыства беларускай школы. Сярод фактаграфічных дадзеных пэўную цікавасць уяўляюць звесткі пра ўмовы існавання і распаўсюджвання «дэмакратычнай прэсы і радыкальнай літаратуры» (газет, часопісаў, адозваў, лістовак) Беларускім пасольскім клубам у такіх рэгіёнах Заходняй Беларусі як Ашмяны, Баранавічы, Беласток, Брэст, Вілейка, Гродна, Кобрын, Ліда, Маладзечна, Наваградак, Пінск, Слонім і інш.[17] Напрыклад, пад час аднаго з мітынгаў 21 лютага 1926 г. у Брэсце, на якім выступілі Б. Тарашкевіч і П. Валошын, было прададзена, — як пісала газета «Беларуская ніва», — 200 нумароў газеты[18]. «У снежні 1924 года было распаўсюджана 5 тысяч «*Інтэрпеляцый беларускіх паслоў*», выдадзеных Беларускім пасольскім клубам, 56 экзэмпляраў іх атрымаў Беласток, 1680 — Брэст, 950 — Пінск, 420 —



15 Гл. дадатак 2.

16 Говін С. В. Друк Заходняй Беларусі (1921–1939 гг.). Мінск, 1974. С. 5.

17 Там жа. С. 39, 61.

18 Там жа. С. 35.

онный орган украинской политической эмиграции. Так, его отдел в Гродно, действовавший в первой половине 1930-х гг., имел собственную библиотеку-читальню[46].

В местах компактного проживания литовцев действовало Культурно-просветительное общество Святого Казимира, которым на северо-востоке Польши была создана 131 библиотека. Из них 124 (95%) находились в Свенцянском повете, 21 — в Вильно, 5 — в Браславском и 1 — в Виленско-Трокском поветах[47]. Репрессивные акции польских властей против литовских организаций привели к закрытию в 1936 — начале 1938 г. 118 из них[48].

Свои библиотеки на территории Западной Беларуси смогли открыть также некоторые отделы Культурно-просветительного союза татар Польши (КПСТП), но их фонды были весьма малочисленны. Так, основанная в августе 1927 г. библиотека КПСТП в Слониме, содержавшаяся на средства А. и С. Смольских, стала самым крупным татарским книжным собранием — в 1934 г. там насчитывалось всего 544 книги. Библиотека Виленского отдела КПСТП в 1938 г. располагала 318 экз. книг[49].

Наряду с общественными в крае продолжали развиваться и личные библиотеки. Крупнейшей являлась библиотека Несвижской ординации Радзивиллов, занимавшая особое место в культуре Беларуси. Созданная во второй половине XVI в., она за несколько веков превратилась в крупнейшее частное собрание Речи Посполитой. После первого раздела Речи Посполитой в 1772 г. она по приказу Екатерины II как военный трофей была вывезена из замка. После конфискации в Несвижском замке осталась лишь небольшая библиотека, которая вместе с тем продолжала пополняться. Во время войны между Францией и Россией в 1812 г. Доминик Героним Радзивилл (1786–1813) выступил на стороне Наполеона, поэтому после вступления в Несвиж русской армии имение Радзивиллов снова подверглось разграблению — в конце октября 1812 г. из Несвижского замка в Санкт-Петербург было вывезено значительное количество ценных книг.

В 1813 г. прервалась старшая ветвь Радзивиллов, а ординация перешла к следующей по старшинству линии рода. Антон и Мария Радзивиллы — представители немецкой ветви рода, получившие право распоряжаться Несвижским замком, — приступили к восстановлению

46 Там жа. С. 229.
47 Там жа. С. 240.
48 Там жа. С. 245
49 Там жа. С. 254

замка и воссозданию библиотеки. В 1880 г. они перевезли в Несвиж из Берлина своё книжное собрание, которое стало основой новой коллекции замка, так называемой второй библиотеки Радзивиллов.

Во время Первой мировой войны и последовавших за ней военных и революционных столкновений Несвижский замок и его библиотека оказались втянутыми в водоворот политических и военных событий. Несмотря на то, что во время Первой мировой войны в замке находился военный госпиталь, его книжное собрание тогда осталось практически нетронутым. Определённая часть коллекции погибла несколько позже — в начале 1919 г., — когда с отступлением польских войск замок был подвергнут разграблению[50].

В межвоенный период Радзивиллы продолжали пополнять библиотеку. К сожалению, исследователи пока не располагают точными данными об объёме фонда второй Несвижской библиотеки Радзивиллов, хотя дошедшие до нас части коллекции свидетельствуют о её богатом содержании.

Проблематика развития книжного и библиотечного дела в западных регионах Беларуси в межвоенный период ждёт своих исследователей. Чем больше мы будем знать о развитии книжной культуры на западных этнических белорусских землях в то непростое время, тем более точно сможем восстановить историю своей страны.



50 Мотульский Р. С. Из прошлого в будущее. Библиотеки Беларуси… С. 114–117, 215–219.

*Вабішчэвіч А.М.*

# Друк і бібліятэчная справа на Брэстчыне ў 1939–1941 гг.



Тэрытарыяльныя межы даследавання выбранай навуковай праблематыкі гісторыі айчыннай бібліятэчнай справы ахопліваюць тэрыторыю Брэсцкай вобласці ў 1939–1941 гг. Тады ў склад яе 18 раёнаў увайшлі Брэсцкі, Кобрынскі, Пружанскі паветы, заходняя частка Драгічынскага і Косаўскага паветаў былога Палескага ваяводства, паўднёвая частка Бельскага і Ваўкавыскага паветаў былога Беластоцкага ваяводства.

Ужо ў час верасьнёўскага (1939 г.) паходу Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь былі накіраваны журналісты. Наколькі важнае значэнне надавалася ролі сродкаў масавай інфармацыі ў ідэйна-палітычным суправаджэнні дадзенай ваеннай кампаніі і наступных працэсаў саветызацыі заходнебеларускіх зямель, сведчыць абмеркаванне стану СМІ сталінскім кіраўніцтвам напярэдадні ваеннага выступлення. У дзённіку тагачаснага першага сакратара ЦК КП(б)Б П.К. Панамарэнкі адзначана, што яшчэ 12 верасня 1939 г. І.В. Сталін сярод шэрагу ўказанняў даручыў неадкладна заняцца выданнем і распаўсюджваннем прэсы. «...Першай справай пасля арганізацыі часовага ўпраўлення — паставіць газеты, захапіць для гэтага друкарні і паперу, дзе няма друкарні для выдання мясцовай газеты, то выкарыстаць армейскія друкарні. Насельніцтва павінна атрымоўваць найперш праз газеты палітычную інфармацыю пра становішча, пастаўленыя задачы, мерапрыемствы

і г.д., падабраць работнікаў газеты: а) рэдактар, б) літаратурны работнік, в) сакратар рэдакцыі...»[1]. Сярод камандзіраваных у заходнебеларускі край былі і студэнты Мінскага камуністычнага інстытута журналістыкі. Адначасова туды накіроўвалася неабходнае паліграфічнае абсталяванне для выдання газет. Першапачаткова газеты з'яўляліся органамі часовых упраўленняў. Пераважна ў іх перадрукоўваліся матэрыялы рэспубліканскіх і ўсесаюзных газет.

Новыя сродкі масавай інфармацыі павінны былі таксама задаволіць культурныя інтарэсы як беларускай большасці, так і нацыянальных меншасцей. Кіраўнік пісьменніцкай арганізацыі савецкай Беларусі М. Лынькоў у службовай запісцы ад 10 снежня 1939 г., адрасаванай у ЦК КП(б)Б, прызнаваў недастатковай сетку яўрэйскіх газет у гарадах Заходняй Беларусі: «Існуючы ў Мінску літаратурны часопіс не даваў рады з асваеннем усяго літаратурнага матэрыялу, бо яўрэйскія пісьменнікі складаюць рашучую большасць сярод пісьменнікаў заходніх абласцей Беларусі. Трэба вырашыць як справу яўрэйскіх газет, так і дадатковага літаратурнага часопіса». Прапаноўвалася наладзіць выданне новага яўрэйскага часопіса ў Беластоку. У рэкамендацыйнай частцы запіскі ўтрымлівалася патрабаванне аб выданні дзіцячай яўрэйскай газеты[2]. У пачатку 1941 г. група пісьменнікаў з Беластока на чале са старшынёй мясцовага аддзела пісьменніцкай арганізацыі П. Пестраком звярталася ў Маскву, у ЦК УКП(б), аб выданні на ідыш штодзённай газеты для ўсіх заходніх абласцей. Аднак атрымала адмоўны адказ — няма неабходнасці выдаваць такую газету, бо ёсць штодзённая рэспубліканская газета «Кастрычнік» на ідыш, штомесячны часопіс «Sztern», тыднёвая абласная газета ў Беластоку[3].

Станаўленне савецкага друку на Брэстчыне пачалося ўжо ў верасні 1939 г. З 26 верасня 1939 г. у Брэсце пачала выходзіць як орган часовага ўпраўлення па-беларуску газета «Рабочы», рэдактарам якой быў Арон Рабіновіч. У адным з тыднёвых нумароў былі старонкі на польскай мове і ідыш. З 69 нумара газета стала органам Брэсцкага абкама партыі і аблвыканкама як выключна беларускамоўная газета «Зара». Рашэнне аб яе адкрыцці было прынята спачатку ў Мінску ў ЦК КП(б)Б (21 лістапада

1 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...». Верасень 1939 г. — 1956 г. : дакументы і матэрыялы : у 2 кн. / склад.: У. І. Адамушка [і інш.]. Мінск, 2009. Кн. 1 : Верасень 1939 г.–1941 г. С. 252.

2 Zachodnia Białoruś 17 IX 1939–22 VI 1941 : wydarzenia i losy ludzkie. Warszawa, 1998. T. 1 : Rok 1939. S. 419–420.

3 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...»... С. 223, 225.

1939 г.), а потым у Брэсце — у абкаме партыі (29 снежня 1939 г.). Спачатку абавязкі адказнага рэдактара часова выконваў А. Рабіновіч. Быў устаноўлены штат газеты — 40 чалавек[4].

Амаль адначасова з брэсцкай газетай «Рабочы» ў верасні 1939 г. пачалося выданне газеты «Труд» у Кобрыне. У гэтым горадзе ў кастрычніку-лістападзе 1939 г. жылі і працавалі камандзіраваныя журналісты — вядомыя савецкія літаратары А. Твардоўскі і Б. Гарбатаў.

На мясцовыя партыйныя органы была ўскладзена задача аб наладжванні выдання раённых газет, кантролю за імі. Паводле рашэння Бюро ЦК КП(б)Б з 1 мая 1940 г. прадугледжвалася выданне беларускамоўных раённых газет[5]. Раённыя газеты павінны былі займацца ідэйна-палітычным выхаваннем працоўных у ходзе паўсядзённай прапаганды мерапрыемстваў партыі і ўрада, рабіць гэта на прыкладзе мясцовых устаноў і асобаў. Назвы гэтых выданняў адлюстроўвалі іх ідэйна-палітычнае прызначэнне — «Сталінская перамога» (Дамачава), «Сялянская газета» (Сямяцічы), «Шлях перамогі» (Высокае), «Бальшавіцкі шлях» (Дзівін) і інш. Нягледзячы на вялікі аб'ём як усесаюзных, рэспубліканскіх, так і мясцовых перыядычных выданняў, распаўсюджванне газет і часопісаў ажыццяўлялася з пэўнымі цяжкасцямі. На бюро Брэсцкага абкама партыі 23 верасня 1940 г. адзначалася зніжэнне падпіскі на рэспубліканскія выданні: за перыяд з ліпеня па верасень бягучага года колькасць падпісчыкаў газеты «Звязда» знізілася з 3350 да 2650, газеты «Чырвоная змена» — з 1723 да 1240, часопіса «Большевик Белоруссии» — з 858 да 630. Падобная сітуацыя была і з раённымі газетамі. Тыраж раённых газет «Труд», «Чырвоная звязда», «Новы шлях» знізіўся за адпаведны перыяд з 5,5 тыс. экзэмпляраў да 4183. Сярод раёнаў-аўтсайдэраў у гэтай справе называліся Антопальскі, Жабінкаўскі, Ружанскі, Дамачаўскі, Дзівінскі, Бярозаўскі. Значная частка сельскай мясцовасці Маларыцкага, Дамачаўскага, Антопальскага і іншых раёнаў вобласці пакуль яшчэ слаба забяспечвалася дастаўкай прэсы[6].

Аднак адбывалася арганізацыйнае станаўленне брэсцкай абласной газеты «Зара», рэдактарам якой стаў Георгій Цярэнцьевіч Мінчукоў, які раней быў на рэдактарскай працы на Магілёўшчыне. Газеце «Зара»

4 Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці (ДАБВ). Ф. 1п. Воп. 16. Спр. 1. Арк. 23. ; Туров В. Первый на капитанском мостике // Заря. 2008. 28 июня. С. 6.

5 Мисаревич Е. А. На освобождённой земле. Политическая работа в западных областях Белоруссии (сентябрь 1939 — июнь 1941 гг.). Минск, 1996. С. 56.

6 ДАБВ. Ф. 1п. Воп. 16. Спр. 5. Арк. 52.

дастаўся былы кадравы састаў, маёмасць папярэдняга перыядычнага выдання — газеты «Рабочы». Былы рэдактар А. Рабіновіч стаў загадчыкам аддзела прапаганды. Штат рэдакцыі газеты быў скамплектаваны з работнікаў, якіх камандзіравалі з усходніх абласцей БССР, а таксама з РСФСР («усходнікаў»). Аднак устаноўлены штат рэдакцыі з 40 чалавек сфарміраваць было вельмі складана[7]. Да красавіка 1940 г. газета не мела ўкамплектаванага рэдакцыйнага калектыву — не хапала 14 адказных работнікаў. З ідэалагічных меркаванняў было выключана прыцягванне да працы журналістаў выданняў былой Польскай дзяржавы. Кадравая праблема ўскладнілася яшчэ і пасля таго, як неўзабаве партыйныя органы абавязалі «ўпарадкаваць штат і перабудаваць апарат» газеты. На падставе дырэктыўных указанняў з Масквы на бюро абкама партыі 19 жніўня 1940 г. рэдактару газеты было прапанавана зменшыць штат да 30 чалавек (11 літработнікаў, 4 уласныя карэспандэнты, 15 чалавек абслугоўваючага персаналу), а таксама скараціць на працягу некалькіх дзён рэдакцыйныя і выдавецкія выдаткі не менш, чым на 30%, і забяспечыць паступленне зэканомленых сродкаў у партыйны бюджэт[8]. Тыраж газеты «Зара» складаў тады 20 тыс. экзэмпляраў.



Як самакрытычна прызнаваўся Г.Ц. Мінчукоў на 1-й абласной партыйнай канферэнцыі 18 красавіка 1940 г., газета нездавальняльна асвятляла не толькі ўнутрыпартыйнае жыццё, але і стан сельскай гаспадаркі, праблемы ўмацавання абароназдольнасці, працу савецкага апарату, гандлю, барацьбу са спекуляцыяй і інш.[9]. Журналісты імкнуліся выступаць і супраць існуючых сацыяльных заганаў. Прынцыповую пазіцыю заняла рэдакцыя адносна бюракратычнай практыкі ігнаравання скаргаў насельніцтва. Напрыклад, за перыяд з 1 студзеня да 10 жніўня 1940 г. Брэсцкі гарвыканкам не адрэагаваў на 26 лістоў грамадзян, апублікаваных на старонках газеты «Зара», дзе выкрываліся розныя недахопы і злоўжыванні. Намаганнямі рэдактара Г.Ц. Мінчукова бюро абкама партыі запатрабавала ад кіраўніцтва гарвыканкама на працягу 2-х тыдняў даць адказы на ўсе заўвагі, скаргі і рабіць гэта і ў далейшым, а таксама абавязала ўсе райкамы партыі ў 10-дзённы тэрмін рэагаваць на публікацыі ў друку, скаргі працоўных[10].

---

7 Минчуков Г. У истоков новой жизни: рассказывает первый редактор «Зари» // Заря. 1989. 23 сентября.

8 Туров В. Первый на капитанском мостике… С. 6–7.

9 ДАБВ. Ф. 1п. Воп. 16. Спр. 6. Арк. 100.

10 Туров В. Первый на капитанском мостике… С. 6–7.

Для разгортвання культурна-асветніцкай працы важнае значэнне надавалася арганізацыі ў валасных цэнтрах хатаў-чытальняў, а ў гарадах — дамоў сацыялістычнай культуры. Адпаведная пастанова бюро Брэсцкага абкама партыі была прынята 14 снежня 1939 г. Акрамя вясковых хатаў-чытальняў, прадугледжвалася адкрыццё дамоў сацыялістычнай культуры ў Кобрыне, Пружанах, Бярозе-Картузскай, Камянцы, Высока-Літоўску. Усе гэтыя ўстановы трэба было забяспечыць партрэтамі кіраўнікоў партыі і ўрада, плакатамі, шахматамі, шашкамі, даміно, праводзіць агітацыйна-прапагандысцкую, культурна-асветніцкую работу і інш.[11]

Паводле пастановы ЦК КП(б)Б «Аб мерапрыемствах па ўмацаванні пагранічных раёнаў» ад 27 ліпеня 1940 г. прадугледжвалася ў 1940/1941 годзе адкрыццё хатаў-чытальняў ва ўсіх сельсаветах прыгранічных раёнаў, забеспячэнне іх бібліятэкамі, радыёпрыёмнікамі, патэфонамі і інш. Планавалася выдзяленне сродкаў на будаўніцтва ў 1941 г. дамоў сацыялістычнай культуры ў Высокаўскім, Сямяціцкім раёнах. Абласныя і раённыя партыйныя ўлады абавязалі прасачыць за поўным выкарыстаннем адпушчаных у 1940 г. сродкаў для набыцця літаратуры для раённых і сельскіх бібліятэк[12].



Як сведчаць апублікаваныя архіўныя крыніцы, восенню 1940 г. з запланаваных для адкрыцця ў Брэсцкай вобласці 18 раённых дамоў сацыялістычнай культуры 2 не былі адкрыты — у Жабінкаўскім і Дзівінскім раёнах, з 160 хатаў-чытальняў — не былі адкрыты 14. З адкрытых хатаў-чытальняў больш за 30 размясціліся ў наёмных памяшканнях, якія не былі прыстасаваны для правядзення культурна-масавай работы — у Гайнаўскім, Бярозаўскім, Камянецкім, Жабінкаўскім раёнах. У Бярозе бібліятэка была арганізавана ў аднапавярховым будынку былой яўрэйскай бібліятэкі. У Антопалі бібліятэка спачатку размяшчалася ў клубным пакоі, а ў другой палове 1940 г. перасялілася ў прыватны дом, дзе заняла 3 пакоі. У вобласці было створана 136 чырвоных куткоў. Матэрыяльна-тэхнічная база хатаў-чытальняў заставалася слабай. Дрэнным было іх фінансаванне. Па стане не раней 15 жніўня 1940 г., у Брэсцкай вобласці за першае паўгоддзе 1940 г. было выкарыстана толькі 19% выдзеленых сродкаў, а асобнымі хатамі-чытальнямі — усяго 8%. У шэрагу раёнаў вобласці (Пружанскім, Жабінкаўскім, Сямяціцкім) было адпушчана кожнай хаце-чытальні толькі па 300 рублёў для падпіскі на га-

11 ДАБВ. Ф. 1п. Воп. 16. Спр. 1. Арк. 20, 67–69.
12 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...»... С. 173.

зеты і часопісы[13]. З-за непісьменнасці і малапісьменнасці часткі жыхароў, асабліва ў сельскай мясцовасці, слабасці сацыяльна-культурнай сферы і іншых прычын перыядычны друк знаходзіў распаўсюджванне далёка не ва ўсім тагачасным мясцовым грамадстве. Для вяскоўцаў бібліятэкары наладжвалі гучныя чытанні, тэатралізаваныя пастаноўкі (напрыклад, у в. Азяты Жабінкаўскага раёна)[14]. Польская супольнасць, былыя заможныя слаі праяўлялі скептычныя ці негатыўныя адносіны да савецкай прапаганды ў друку. «Савецкіх газет не чытаем, — адзначыла 31 сакавіка 1940 г. у сваім дзённіку жыхарка Брэста Х. Керская. — Навіны, што слухаюцца па прыёмніках, распаўсюджвае «абцасавая пошта»[15].

Выдзеленыя сродкі слаба асвойваліся асобнымі культурна-асветніцкімі ўстановамі. Напрыклад, у Бярозаўскім раёне з 7,1 тыс. рублёў, прызначаных на гаспадарчыя патрэбы хатаў-чытальняў, былі выкарыстаны толькі 19,6%, з 5 тыс. рублёў на іх рамонт — толькі 0,9% (44 рублі). Для параўнання — месячны пражытачны мінімум на аднаго чалавека па дзяржаўных цэнах складаў тады не менш 100 рублёў[16]. Наркамасветы рэспублікі лічыў нецярпімай такую сітуацыю з фінансаваннем культурна-асветніцкіх устаноў на месцах. Яго крытыка была адрасавана мясцовым партыйным органам Камянецкага, Жабінкаўскага, Маларыцкага, Бярозаўскага, Гайнаўскага раёнаў, якія не прынялі адпаведных мер па паляпшэнні працы хатаў-чытальняў, бібліятэк[17]. На 1-й гарадской партыйнай канферэнцыі ў Брэсце (14 красавіка 1940 г.) гаварылася аб тым, што дрэнна працавала бібліятэка, створаная пры Доме камуністычнай асветы.

Аднак план адкрыцця бібліятэк у Брэсцкай вобласці да канца 1940 г. быў выкананы: з запланаваных 1 абласной, 2 гарадскіх і 18 раённых бібліятэк усе былі адкрыты. Па некаторых паказчыках было нават перавыкананне: замест 1 дзіцячай і 37 сельскіх бібліятэк былі ад-



13 Там жа. С. 180–181 ; Нарысы гісторыі бібліятэк Брэсцкай вобласці / Брэсц. абл. бібліятэка ; склад.: Л. І. Рачкоўская, А. М. Мяснянкіна. 2-е выд., дап. і перапрац. Брэст, 2001. С. 85.

14 Нарысы гісторыі бібліятэк Брэсцкай вобласці… С. 49.

15 Сарычев В. В. В поисках утраченного времени. Брест, 2007. Кн. 2. С. 157.

16 Петровская О. В. Реалии советской жизни : культура и быт Бреста в 1939–1941 годах // Radzecka agresja 17 września 1939 r. i jej skutki dla mieszkańców ziem północno-wschodnich II Rzeczypospolitej : studia i materiały / Instytut Historii Uniwersitetu w Białymstoku ; pod red. M. Gnatowskiego. Białystok, 2000. S. 244.

17 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...»... С. 181–183.

крыты адпаведна 2 і 45[18]. Брэсцкая абласная бібліятэка была адкрыта паводле рашэння Брэсцкага аблвыканкама 4 студзеня 1940 г. У яе штаце акрамя дырэктара — Барыса Маркавіча Сінягава — было яшчэ 12 супрацоўнікаў[19]. З 1 ліпеня 1940 г. у Брэсцкай абласной бібліятэцы была адкрыта публічная чытальная зала. 23 мая 1941 г. у абласным цэнтры была адкрыта таксама дзіцячая бібліятэка.

Акрамя сеткі новых бібліятэк, у заходніх абласцях БССР наладжвалася сістэма кнігагандлю. Адпаведнае рашэнне на рэспубліканскім узроўні было прынята ў лютым 1940 г. Неабходна было стварыць пункты па продажы літаратуры ва ўсіх абласных гарадах і раённых цэнтрах. У верасні 1940 г. Брэсцкі абкам партыі прыняў рашэнне аб пашырэнні ў вобласці сеткі кнігагандлю. Акрамя кніжных крамаў, што ўжо дзейнічалі ў Брэсце і Кобрыне, планавалася адкрыць кніжныя крамы ў раённых цэнтрах — у Гайнаўцы, Пружанах, Сямяцічах, Высокім, Дамачаве[20].

Кніжныя фонды адкрытых бібліятэк фарміраваліся за кошт былых грамадскіх бібліятэк, што дзейнічалі да верасня 1939 г., прыватных кнігазбораў, а таксама літаратуры і перыёдыкі, прысланай з розных рэгіёнаў Савецкага Саюза. У Брэсцкую вобласць кнігі паступалі з Мінска, усходніх абласцей БССР (у сярэдзіне 1940 г. з Гомельскай вобласці накіравалі 46,1 тыс. экзэмпляраў[21]). З пачатку 1940 г. у ходзе арганізаванага ў Маскве збору кніг для Брэсцкай вобласці было накіравана 60,6 тыс. кніг. Як узгадваў загадчык бібліятэкі ў Антопалі Н. Дзмітрыеў, «прыкладна да мая 1940 г. кнігі паступалі з Мінска, Гомеля, Бабруйска, Масквы, Ленінграда і іншых гарадоў»[22]. Дзякуючы Дзяржфонду РСФСР, зборам прыватных бібліятэк Брэста, удалося ў 1940 г. скамплектаваць кніжны фонд Брэсцкай гарадской бібліятэкі, які налічваў 12 тыс. экзэмпляраў, дзе былі як працы класікаў марксізму-ленінізму, кнігі па гісторыі кампартыі, так і творы рускіх, беларускіх і замежных пісьменнікаў[23]. Кніжны фонд абласной бібліятэкі ў Брэсце таксама фарміраваўся за кошт кнігазбораў былых польскіх бібліятэк горада, прысланай з усходу рускамоўнай літаратуры, што складала 15 тыс. экзэмпляраў. Да пачатку 1941 г. Брэсцкая абласная бібліятэка

18 Там жа. С. 191.
19 Нарысы гісторыі бібліятэк Брэсцкай вобласці… С. 4.
20 ДАБВ. Ф. 1п. Воп. 16. Спр. 5. Арк. 34.
21 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...»... С. 178.
22 Нарысы гісторыі бібліятэк Брэсцкай вобласці… С. 85.
23 Там жа. С. 76.

мела ўжо 35 тыс. экзэмпляраў кніг, якімі карысталіся 3 тыс. чытачоў[24]. Кнігі паступалі таксама праз створаны ў Брэсце бібліятэчны калектар.

У ходзе станаўлення сеткі бібліятэк важнае значэнне надавалася іх кадраваму забеспячэнню. У снежні 1940 г. 6-месячныя курсы бібліятэкараў у Брэсце скончылі 75 чалавек. На кіруючыя пасады (бібліятэчных інспектараў аблана, дырэктараў абласных бібліятэк і інш.) бібліятэчнай сферы ў заходнія вобласці БССР накіроўваліся выпускнікі Маскоўскага бібліятэчнага інстытута, заснаванага ў 1930 г. (цяпер — Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў)[25].

Сфарміраваная ў БССР сістэма партыйна-ўрадавага кантролю за кнігавыдавецкай дзейнасцю, кнігагандлем, бібліятэчнай справай пашыралася і на тэрыторыю заходніх абласцей. Уводзіліся ў дзеянне ідэалагічныя абмежаванні з боку цэнзурнага органа — Галоўнага ўпраўлення па справах літаратуры і выдавецтваў БССР. Паводле яго загаду адбывалася «выдаленне варожай літаратуры» з бібліятэк грамадскага карыстання і кнігагандлёвай сеткі заходніх абласцей БССР[26]. У макулатуру трапілі польскія падручнікі, навуковая і мастацкая літаратура, кнігі заходнебеларускіх аўтараў, што непрыхільна ставіліся да камуністычнай ідэалогіі, і інш. Улічваючы тое, што ў 1937 г. у рэспубліцы быў спынены выпуск польскамоўнай літаратуры на падставе таго, што «кадры польскіх паэтаў і пісьменнікаў БССР нязначныя і засмечаныя варожымі элементамі»[27], абвастрыўся дэфіцыт кніг на польскай мове. Як адзначалася ў лісце ЦК КП(б)Б «Аб недахопах у працы партыйных і савецкіх органаў у заходніх абласцях Беларусі» ад 21 кастрычніка 1940 г., пры «ачышчэнні бібліятэчнай і кнігагандлёвай сеткі ад контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай літаратуры, у некаторых выпадках знялі з ужытку літаратуру, якая ўяўляе мастацкую і гістарычную каштоўнасць: творы Міцкевіча, Ажэшкі і перакладзеныя на польскую мову кнігі заходнееўрапейскіх і рускіх класікаў»[28].

Абмежаваны і няпоўны характар крыніц не дазваляе ў цяперашніх умовах прасачыць незайздросны лёс асобных прыватных кнігазбораў, што знаходзіліся ў былых памешчыцкіх маёнтках, уласных памяш-



24 Новыя кнігі: па старонках беларускага друку / Нац. б-ка Беларусі. Мінск, 2010. № 6. С. 13.

25 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...»... С. 191–192.

26 Там жа. С. 148.

27 Сумко А. В. Дзяржаўная палітыка ў кнігавыдавецкай справе БССР (1919–1941) : аўтарэф. дыс. ... канд. гіст. навук: 07.00.02, БДПУ імя М. Танка. Мінск, 2008. С. 17.

28 «Ты з Заходняй, я з Усходняй нашай Беларусі...»... С. 197.

каннях. Гэтая праблематыка фрагментарна, у некаторых выпадках суб'ектыўна і тэндэнцыйна закранута толькі ў асобных працах польскіх вучоных, польскамоўнай мемуарнай літаратуры[29], дзе прыведзены факты канфіскацыі, рабавання ці знішчэння кнігазбораў. Сярод іх трэба мець на ўвазе тыя кнігазборы, уладальнікі якіх былі арыштаваны ці дэпартаваны савецкімі спецорганамі. Напрыклад, былі страчаны ў выніку высялення прыватныя кнігазборы рамесніцкай сям'і Л. Рудліцкай (150 кніг) з Бучаўлянкі Пружанскага павета, М. Ягусяка (60 кніг) з Пружан, ляснічага С. Асавецкага (150 кніг) з Косава, разрабаваны кнігазбор С. Куфлеўскай (200 кніг) з Пружан[30]. Сетка новых бібліятэчных устаноў выкарыстоўвала як фонды польскіх грамадскіх бібліятэк, так і канфіскаваных прыватных кнігазбораў. Аднак падлічыць іх канкрэтныя суадносіны і рэальную прысутнасць не ўяўляецца магчымым, бо бібліятэчная сфера Брэсцкай вобласці моцна пацярпела ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Велізарныя страты кнігазбораў у ваенны час былі незваротнымі.



29 Głowacki A. Legalna książka polskojęzyczna w Białoruskiej SRR (1939–1941) // Społeczeństwo białoruskie, litewskie i polskie na ziemiach północno-wschodnich II Rzeczypospolitej (Białoruś Zachodnia i Litwa Wschodnia) w latach 1939–1941 : materiały z konferencji naukowej, Warszawa, 24–26 listopada 1993 r. / Instytut studiów politycznych PAN ; pod red. M. Giżejewskiej i T. Strzembosza. Warszawa, 1995. S. 214–232.

30 Biblioteki na wschodnich ziemiach II Rzeczypospolitej : informator / red. B. Bieńkowska. Poznań, 1998. S. 93, 480–481, 301.

*Мароз В.В.*

# Выявы кніжнасці ў іканапісе Заходняга Палесся



«Здолейце пачытаць старанна святыя кнігі, наталіцеся божых слоў і будучага веку невыказныя даброты атрымаеце: ёсць гэта нябачны сэнс, але бясконцы і вечны, цвёрды і непарушны. ...Салодкія мядовыя соты і добры цукар, але лепшы ад іх абодвух розум кніжны: гэта ёсць каштоўнасць жыцця вечнага»[1]. Словы з вядомай прытчы Кірылы Тураўскага пра чалавечую душу і цела, захаванне Божага запавету, уваскрэсенне, будучы суд і пакуты адлюстроўваюць значэнне кнігі як інструмента сакральнасці. Калі пісаная мудрасць была недасягальнай для шырокіх колаў вернікаў, іх маральнаму ўдасканаленню спрыяў абраз. Іканапісныя творы, абмежаваныя па змесце адлюстраваннем асобных сюжэтаў або персанажаў хрысціянскай гісторыі таксама, як і кніга, дапамагалі ў разуменні «нябачнага сэнсу, але бясконцага і вечнага, цвёрдага і непарушнага». У маральнай дыдактыцы і перадачы сакральнай інфармацыі функцыі кніг і абразоў супадаюць.

У царкоўнай свядомасці абраз і кніга маюць непарыўную тоеснасць. Сюжэт кожнага абраза заснаваны на прадгісторыі — пэўнай частцы біблейскага тэксту. На думку тэолагаў, «жывапіс такі ж праўдзівы, як і кніжнае Пісьмо», «ікона ёсць прыгажосць багаслоўя». Сыходзячы

1 Старажытная беларуская літаратура : зб. / уклад. Л. С. Курбека, У. А. Марук ; прадм. У. Г. Кароткага. Мінск, 2002. С. 54.

з гэтага, да абразоў адносіцца тое, што сказана пра Біблію: яны, як і Святое Пісьмо, валодаюць «дыянаэтычнай» функцыяй — вучаць ісціне і «дынамічна» — напоўнены сілай, перадаюць Боскую дабратворнаць і з'яўляюцца рэальнай часцінкай «сімвалічнага багаслоўя»[2]. Паводле падручніка для іканапісцаў, «у літургічным служэнні сілай прамоўленых слоў святар з'яўляе нам Цела Гасподняе, іканапісец жа робіць гэта вобразам»[3]. З гэтага вынікае, што падчас набажэнства літургічныя тэксты і абразы спалучаюцца як непадзельныя часткі.

Мастакі-манахі і іх духоўныя настаўнікі імкнуліся пераадолець асобнасць, абмежаванасць іканапісных сюжэтаў у параўнанні з біблейскімі тэкстамі. Жадаючы як мага шырэй падаць хрысціянскія паданні і жывапіснымі сродкамі ўвасобіць змест Бібліі, яны спалучылі абразы ў буйнамаштабныя мастацкія кампазіцыі — так з'явіўся іканастас, стварэнне якога ёсць сведчанне, што з развіццём багаслоўя кніжнасць рабілася духоўнай рысай старажытнага грамадства. Па іканастасе можна «чытаць», не кранаючы кніжныя старонкі, згадваць чытанае святаром, пры яго сузіранні спасцігаць Святое Пісьмо. На думку тэолагаў, іканастасы — выказ літургічнага анамнэзу як успаміну пра Хрыста і ўсю гісторыю выбаўлення[4].

Іканастас як мастацкая сістэма быў засвоены на Палессі ўжо ў XV ст. У 1482 г. уладыка пінскага Лешчанскага манастыра Васіян даў 100 рублёў іканапісцам, якія, паводле апісання, стварылі «чудны вельмі Деисус (іканастас — *аўт.*) с праздниками и пророками»[5]. Паводле апісання 1549 г., «сполный на золоте» з разнастайнымі абразамі іканастас знаходзіўся ў манастырскай царкве Св. Спаса (да 1465 г.) у Кобрыне[6].

Агульная кампазіцыя іканастасаў вызначалася дакладнай іерархіяй сюжэтаў. Вядомыя сёння старажытныя палескія іканастасы мелі пэўныя асаблівасці: складаліся з чатырох радоў — мясцовага, святочнага, апостальскага і прарочага. Святочны рад (кампазіцыі пра жыццё Маці Божай і Ісуса Хрыста) змяшчаўся над ніжнім — мясцовым радам.

2 Шпидлик Т. Русская идея : иное видение человека / пер. с франц. В. К. Зелинского и Н. Н. Костомаровай. СПб., 2006. С. 326–328.

3 Подлинник иконописный / издание С. Т. Большакова ; под ред. А. И. Успенского. М., 1903. [2] II. С. 3.

4 Шпидлик Т. Русская идея... С. 337.

5 Довгялло Д. И. Пинский Лещинский монастырь в 1588 г. // Минская старина. Труды Минского церковного историко-археологического комитета. Минск, 1909. Вып. 1. С. 106–107.

6 Акты Кобринской магдебургии // Акты, издаваемые Виленской археографической комиссией... Вильна, 1872. Т. 6. С. 492–494.

Над святочным выявы 12 апосталаў утваралі прарочы рад. У яго цэнтры знаходзіліся выявы Саваофа або Спаса[7]. Такую сёння ўжо вельмі рэдкую схему маюць іканастас другой чвэрці XVIII–XIX стст. у царкве св. Георгія (XVII ст.) у Давыд-Гарадку (Столінскі раён) і іканастас 1868 г. у царкве Пераўтварэння Гасподняга (1783) у Олтушы (Маларыцкі раён). Названыя творы — разгорнутае жывапіснае адлюстраванне падзей хрысціянскай гісторыі і — з увагі на колькасць абразоў і маштаб кампазіцыі — эпічнае па сваім характары.

У даўніяцкую эпоху беларускі іканастас меў дэісусны чын (увасабляў ідэю малення, выкуплення), пазней заменены апостальскім радам, які прынёс пастулаты настаўніцкага дзеяння, духоўных ведаў, адказнасці[8]. Змены ў кампазіцыі іканастаса, распачатыя, верагодна, у другой палове XVI ст., сведчаць, што іканастас — не толькі «літургічны анамнэз», але і выказ галоўных экзегетычных ідэй свайго часу, пад уплывам якіх мянялася багаслоўская канцэпцыя мастацкай кампазіцыі іканастаса.

З'яўленне апостальскага рада ў іканастасе трэба адносіць да ўплыву Рэфармацыі, якая ўнесла новыя інтэнцыі ў духоўнае жыццё еўрапейскага грамадства і распаўсюдзіла іх на Усходнюю Еўропу. Перш за ўсё гэта быў зварот да першаасновы хрысціянства — вучэння прарокаў і апосталаў. На гэтай падставе адзінай аўтарытэтнай крыніцай у справе выратавання, пытаннях веры і царкоўнага жыцця абвяшчалася Святое Пісьмо[9]. У апостальскіх радах іканастасаў XVII ст. з царквы Нараджэння Багародзіцы (1794) у Шчэбрыне Брэсцкага раёна[10], да 1700 г. з капліцы (XIX ст.) у Кажан-Гарадку Лунінецкага раёна[11], сярэдзіны XVIII ст. з Пакроўскай царквы (1775) у Андронаве Кобрынскага раёна[12], другой паловы XVIII ст. з царквы Нараджэння Багародзіцы (1760) з Шарашова ў Пружанскім раёне[13], першай паловы XIX ст. з царквы Св. Тройцы (1778



7 Вецер Э. І. Іканастас // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. Мн., 1985. Т. 2. С. 566–567.

8 Хадыка Ю. А. Рэнесанс у беларускім новым іканапісе / Ю. А. Хадыка, Ю. В. Хадыка // Помнікі мастацкай культуры Беларусі эпохі Адраджэння. Мінск, 1994. С. 69.

9 Падокшын С. А. Этычная думка ў культуры Беларусі XVI–XVII стст. Мінск, 2004. С. 8.

10 Музей старажытнабеларускай культуры: альбом / уклад. А. А. Ярашэвіч ; аўт. раздз.: В. Ф. Шматаў, М. М. Віннікава, М. М. Яніцкая, А. К. Лявонава, А. А. Ярашэвіч, А. А. Варатнікова, С. С. Бяляева. Мінск, 2004. С. 40–41.

11 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII вв. : альбом / авт. текста и сост. Н. Ф. Высоцкая. Мінск, 2007. Іл. 81–84.

12 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 84–85.

13 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII вв... Іл. 162–165.



*Апосталы. Абраз (XVIII ст.). З іканастаса царквы Св. Георгія (XVII ст.) у Давыд-Гарадку (Столінскі раён Брэсцкай вобласці).*

або 1784) у Бездзежы Драгічынскага раёна[14] адлюстраванні апосталаў створаны пад відавочным уплывам ідэй Рэфармацыі і мастацтва свецкага партрэта. У іх руках Біблія — закрыты або разгорнуты фаліянт (толькі асобныя трымаюць скруткі). З вышыні іканастаса яны паўстаюць гледачу як грамада вялікіх настаўнікаў. Маральны сэнс урачыстага апостальскага стаяння перад вернікамі суадносіцца з павучэннямі з Кнігі

14 Музей старажытнабеларускай культуры… С. 135–136.

выслоўяў Саламонавых: «Пачатак мудрасці — страх Гасподні; толькі дурні пагарджаюць мудрасцю і настаўленнем (1:7). Бо Гасподзь дае мудрасць; і з вуснаў Яго — веды і розум (2:6)... Калі мудрасць увойдзе ў сэрца твае, і веды будуць прыемныя душы тваёй: тады разважлівасць будзе берагчы цябе, розум будзе ахоўваць цябе (2:10–11)...»

Старажытныя манастыры Заходняга Палесся былі асяродкамі духоўнага злучэння розных відаў мастацкай творчасці, мелі бібліятэкі, скрыпторыі. У апошняй чвэрці XV ст. кобрынскі Свята-Спасаўскі і пінскі Лешчанскі манастыры з'яўляліся кнігапіснымі цэнтрамі Палесся[15]. Тут жа працавалі і мастакі.

З Лешчанскага манастыра (верагодна, з іканастаса) паходзіць іканапісны шэдэўр з Траццякоўскай галерэі — знакамітае «Блакітнае Успенне» (першая чвэрць XV ст.)[16], пасля скасавання манастыра (1839 г.) вывезенае ў Мінск, а адтуль у 1920 г. з саборнай званіцы — у збор І.С. Астравухава ў Маскву[17]. Гэты твор — найстаражытнейшы з вядомых абразоў Заходняга Палесся і ўсёй Беларусі з адлюстраваннем кніг у руках апосталаў Пятра і Паўла. У складанай шматфігурнай кампазіцыі апосталы з'яўляюцца сведкамі найважнейшага моманту біблейскай гісторыі, выявы кніг — знакамі хрысталагічнасці гістарычнага працэсу.



З Лешчанскім манастыром звязана мастацкая дзейнасць пінскага разьбяра Ананіі (другая палова XV — першая палова XVI стст.), творы якога ўяўляюць сабой найлепшыя ўзоры старажытнай выцінанай (рытай, разной) мініяцюры XV–XVI стст. Ананія з'яўляецца аўтарам двухбаковага абразка «Мудрасць стварь сабе храм», выкананага ў час валадарства пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча (? — жнівень 1520 — люты 1522) паміж 1499–1525 гг.[18]. Духоўную семантыку твора можна праілюстраваць урыўкамі з Кнігі выслоўяў Саламонавых: «Гасподзь мудрасцю ўтварыў зямлю, нябёсы паставіў розумам; Яго мудрасцю адчыніліся бездані, а воблакі кропяць расою. Яна — дрэва жыцця тым, што называюць яе, — і шчаслівыя тыя, што маюць яе!»

15 Гісторыя беларускай кнігі : у 2 т. Мінск, 2009. Т.1 : Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага / М. В. Нікалаеў ; навук. рэд.: В. В. Антонаў, А. І. Мальдзіс. С. 67.

16 Ярашэвіч А. Гістарычныя ўмовы развіцця заходнепалескага жывапісу // Іканапіс Заходняга Палесся XVI–XIX стст. / В. Ф. Шматаў [і інш.] ; навук. рэд. В. Ф. Шматаў. Мінск, 2005. С. 64–66.

17 Жывапіс Беларусі XII–XVIII стагоддзяў / склад. Н. Ф. Высоцкая, Т. А. Карповіч ; аўт. уступ. тэксту Н. Ф. Высоцкая. Мінск, 1980. С. 6, іл. 15.

18 Пластыка Беларусі XII–XVIII стагоддзяў / аўт. і склад. Н. Ф. Высоцкая. Мінск, 1983. Іл. 21, 22.

(3:19–20). З багаслоўскага пункту гледжання, дасканалае злучэнне света з Богам магчыма толькі тады, калі Трансцэдэнтны Пачатак сваёй стваральнай сілай ахоплівае ўвесь зямны свет. Непадзельнасць існага з трансцэдэнтным можа стаць дасягальнай, калі Бог сыйдзе на зямлю праз Сафію — Боскую Мудрасць, а свет узыйдзе да Бога праз Мудрасць створаную, якой валодае кожная істота па меры сваёй «сафійнасці»[19]. Зварот мастака да складанага тэалагічнага сюжэта «Мудрасць ствары сабе храм» і яго ўвасабленне ў невялікім пластычным творы сведчыць, што багаслоўскія веды перасталі быць духоўным набыткам абмежаванага кола ўсходніх экзегетаў і разам з рукапіснай кнігай шырока расцякліся па хрысціянскім свеце.

У выцінаных малюнках невялікай пласціны вышынёй каля 7 і шырынёй 5 сантыметраў прасочваецца несумненная сувязь з іканаграфічнай традыцыяй Візантыі. На думку даследчыкаў, адлюстраваныя на адваротным баку «Нараджэнне Хрыста», «Пераўтварэнне Гасподняе», «Узнясенне», «Успенне Багародзіцы» з'яўляюцца ўнікальным іканаграфічным матэрыялам для вывучэння загінуўшага палескага іканапісу XV–XVI стст.[20]. Дасканала выкананы пластычнымі сродкамі малюнак ужо пазбаўлены іканаграфічнай архаікі, гарманічная свабода кампазіцыі адпавядае рэнесансным узорам. Да адлюстраванняў падададзены тлумачальныя надпісы, што выяўляе асветніцкі дух Адраджэння і кніжнасць як адзнаку новага часу.

Мастацкае значэнне гэтага твора пераўзыходзіць славянскія межы і ў кантэксце сусветнай культуры дасягае найвышэйшага ўзроўню. Пачынаючы з XIX ст., яму прысвечана вялікая навуковая літаратура. Першымі яго ўнікальнасць адзначылі французскія мастацтвазнаўцы. Абразок разьбяра Ананіі — выключная мастацкая з'ява ў шэрагу іншых рэльефных твораў XV–XVI стст.[21]. Іканаграфічная схема не мае аналагаў у візантыйскім мастацтве, уплыў якога аднак адчувальны. Твор — безумоўнае сведчанне іканаграфічнай і літургічнай творчасці на старажытнабеларускіх землях XV–XVI стст.[22]. З увагі на ўнікальную культурна-гістарычную вартасць у наш час абразок быў распілаваны на

19 Шпидлик Т. Русская идея... С. 352–353.
20 Ярашэвіч А. Гістарычныя ўмовы развіцця заходнепалесскага жывапісу... С. 64.
21 Пуцко В. Резная деревянная икона пинского князя // Гістарычная брама. 2008. № 1. С. 103–111.
22 Баженова О. Византийская традиция в белорусской иконописи XV столетия // Обретение образа : православная белорусская культура в славянском мире. Минск, 2009. С. 86.

дзве часткі для лепшай дэманстрацыі рэльефных малюнкаў і змешчаны ў сталай экспазіцыі Дзяржаўнага Рускага музея ў Санкт-Пецярбургу, куды за савецкім часам патрапіў з Пінска.

З мастацкай спадчыны Ананіі вядомы таксама аднайменны тоесны санкт-пецябургскаму шэдэўру твор, які ў XIX ст. знаходзіўся ў калекцыі графа Бланжы ў Парыжы, і чатырохчасткавы абразок «Святы». Надпіс на апошнім утрымлівае каштоўнае паведамленне: «Робіл попъ Ананиа»[23]. Подпіс пра асобу мастака — выключная з'ява, надзвычай рэдкая навацыя і сведчанне таго, што ў створаным духоўнай асобай сакральным прадмеце кніжнасць набывае рысы свецкай, аўтарскай індывідуалізацыі (!). Той факт, што ў манастырскім асяроддзі Пінска канца XV—першай чвэрці XVI ст. прысутнічаў святар, творчасць якога знаходзілася пад моцным уплывам Рэнесансу, выяўляе культурную спецыфіку Беларусі — традыцыі Візантыі перапрацоўваліся, увасабляліся ў адпаведнасці са светаадчуваннем еўрапейскага Адраджэння і жывіліся ім — новыя ўплывы сягалі за высокія манастырскія сцены і змянялі рэлігійную свядомасць яе носьбітаў.



Для руху наперад было неабходна «назапашванне кніжнай «навіны», у больш шырокім сэнсе — «навіны», што ўтвараецца сукупнасцю культурных падзей»[24]. Хрысціянства пашырала межы культурных дасягненняў сярод аб'яднаных верай народаў. Творчы абмен узбагачаў мясцовыя культуры і ў іх разнастайнасці раскрываў духоўнае багацце хрысціянскага свету. Па вялікіх гандлёвых шляхах разам з купцамі і манахамі з аддаленых краін рухаліся кнігі, якія поўнілі манастырскія бібліятэкі, везліся абразы з канцэнтраваным вопытам у перадачы святасці (імпульсы жывога цела знікаюць, выява прасякаецца Св. Духам, сіла сыходзіць толькі ад Бога). Звернемся да прыкладаў уздзеяння культурнай «навіны» на сакральнае мастацтва Заходняга Палесся.

У аздабленні балканскай вяззю Лемяшэвіцкага Евангелля (XVI ст.) са скрыпторыя пінскага Лешчанскага манастыра[25], знакамітых Шарашоўскіх Евангелляў (другая чвэрць XVI ст.)[26], Евангелля (XVI ст.) з берасцейскай царквы св. Міхаіла (XV ст.)[27], якія былі выкананы

23 Пазднякоў В. Ананія // Вялікае княства Літоўскае : энцыкл. Мінск, 2005. Т. 1. С. 226.
24 Гісторыя беларускай кнігі... С. 79.
25 Там жа. С. 109
26 Жывапіс Беларусі XII–XVIII стагоддзяў... С. 6–7, іл. 24–25.
27 Есипова В. А. Евангелие тетр XVI в. из Брестской церкви в фондах Научной библиотеки Томского государственного университета // Берасцейскія кнігазборы... Брэст, 2010. С. 224.

мясцовымі майстрамі, ідавочны ўплыў балканскага мастацтва. Старанна выкананыя далікатныя мастацкія аздобы (вязь, багатыя ініцыялы і інш.) былі выказам павагі да сакральнага тэксту, які ўпрыгожваўся мініяцюрамі з адлюстраваннем Евангелістаў, — кнігі духоўнага зместу «абагаўляліся». Аўтарамі кніжных мініяцюр і іншых «штук» былі мастакі-манахі, якія на пэўны час перапынялі іканапісную працу, пры ілюмінацыі кніг дазваляючы свайму пэндзлю большую вольнасць.

Па вялікім міжнародным гасцінцы з Польшчы да Берасця і адтуль да Вільні, які працінаў Шарашоўскі маёнтак[28], у сівой старажытнасці з Грэцыі ў Шарашова (Пружанскі раён) прыбыла ікона Багародзіцы, пазней праслаўленая як цудадзейная. Паводле падання, невядомы чырвонарускі баярын пад'ехаў да мясцовай царквы, дзе коні сталі і не рушылі з месца — абраз нібы спыніўся і не хацеў працягваць шлях. Гэта вымусіла баярына пакінуць выяву ў святыні. Па апісанні XIX ст., на абразе вялікага памеру былі адлюстраваны Багародзіца з Немаўлём (верагодна, тып Адзігітрыі — *аўт.*), для выказу асаблівай пашаны вянчаныя каронамі і акрытыя срэбнай залочанай шатай[29].

Абраз «Маці Божая Замілаванне» (XV ст.) верагоднага аўтарства грэчаскага мастака Нікаса Ламбудзіса з царквы св. Мікалая (1907) у Маларыце (скрадзены з Музея старажытнабеларускай культуры Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь 4 снежня 1991 г.) з'яўляецца сведчаннем шырокага мастацкага імпарту[30]. Вынік гэтага працэсу адлюстраваны ў абразе «Маці Божая Адзігітрыя Смаленская» (XVI ст.)[31] з царквы Нараджэння Багародзіцы (1717) у Дубянцы (Столінскі раён). У творы выразна выяўлена своеасаблівасць мясцовай мастацкай традыцыі, якая захавала старажытнарускія каноны і засвоіла ўплыў італа-крыцкай школы жывапісу канца XV — пачатку XVI стст.[32].

Рух кніг і абразоў выводзіў мастацкія кантакты хрысціянскіх народаў за межы культур: на абсягах хрысціянскага свету яны набывалі сутнасць няспыннага міжцаркоўнага дыялогу, неабходнага для захавання кафалічнасці Царквы.

---

28 Wysłoych S. Dobra Szereszewskie: Ze studiów nad podziałem terytorjalnym W. Ks. Litewskiego przed reformą 1565–1566 // Ateneum Wileńskie. 1933. S. 57–135.

29 Иосиф (епископ). Гродненский православно-церковный календарь или Православие в Брестско-Гродненской земле в конце XIX века. 2-е изд. Воронеж, 1899. Т. 1. С. 250–251.

30 Музей старажытнабеларускай культуры… С. 21.

31 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков… Ил. 18.

32 Там жа С. 9.

Абразы Заходняга Палесся фіксуюць працэс засваення хрысціянскай духоўнасці і ролю ў гэтым пісанага слова. Сярод іканапісных твораў XVI–XVII стст. найбольш распаўсюджанай пасля ікон Багародзіцы з'яўляецца выява Хрыста Усятрымцы (Пантакратара)[33]. Адзін з абразоў XVI ст. у калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь паходзіць з мураванай царквы Успення Багародзіцы (1640–1654) у Быцені (Івацэвіцкі раён)[34]. Правай рукой Збавіцель трымае Евангелле, левай — дабраславіць люд Божы. У гэтым і ў іншых падобных творах з розных мясцін Беларускага Палесся: «Хрыстос Пантакратар» (1640) з Жыткавіч і Турава (першая палова XVII ст.)[35], XVII ст. з царквы Нараджэння Багародзіцы (1902) у Дывіне Кобрынскага раёна, сярэдзіны XVIII ст. — з царквы Пераўтварэння Гасподняга (1725) у Хмелеве Жабінкаўскага раёна, царквы свсв. ап. Пятра і Паўла (1675) з Ружан Пружанскага раёна[36] і інш. адлюстраванню Біблii нададзена асаблівая ўвага. Яно — не дапаможны, не другарадны элемент кампазіцыі, але адзін з галоўных тэматычна-вобразных складальнікаў сюжэта нароўні з адлюстраваннем Богачалавека. Прадметная сутнасць кнігі рассейваецца, застаецца яе сімвалічна-павучальны вобраз — тэкст на развароце старонак даносіць галоўныя маральныя імператывы Новага Запавету. Дзеля большай чытэльнасці ён заўсёды напісаны вялікамі літарамі. Яго змест мае варыянты («Приидите, благословенные Отца Моего, наследуете Царство, уготованное вам от создания мира...» (Мф. 25:34); «Покайтеся, приближеся Царствие Небесное...» (Мф. 4:17); «Приидите ко Мне все труждающиеся и обремененные, и Я успокою вас...» (Мф. 11:28); «Си заповет даю вам, Да любите друг друга...» (Іаан. 13:34), можа падавацца ў пашыраным або скарочаным выглядзе, але нязменнымі ў ім застаюцца прапанаваныя чытачу этычны ідэал і спосаб выратавання. У шматслоўі сучаснага свету цяжка зразумець, як многа значылі гэтыя словы для тых, хто пакутаваў, маліўся, спадзяваўся і чакаў на вышнюю міласць. Папулярнасць іканапіснага сюжэта «Хрыстос Усятрымца» вынікае з глыбіні апостальскіх традыцый, успрынятых старажытнарускай «Аповесцю мінулых гадоў», у якой чытаем: «Христе Боже, сотво-

33 Карэлін У. Р. Распаўсюджанне іканапісных сюжэтаў і мастацкія асаблівасці іканапісу Заходняга Палесся // Іканапіс Заходняга Палесся XVI–XIX стст. / У. Р. Карэлін, М. П. Мельнікаў, В. Ф. Шматаў ; навук. рэд. В. Ф. Шматаў. Мінск, 2005. С. 318.

34 Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў / аўт. тэксту і склад. Н. Ф. Высоцкая. Мінск, 1992. Іл. 7.

35 Там жа. Іл. 14, 16.

36 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков… Іл. 42, 174, 175.



*Ісус Пантакратар. Абраз (XVI ст.). З царквы Успення Багародзіцы (XVII ст.) у Быцені (Івацэвіцкі раён Брэсцкай вобласці).*

рывый небо и землю! Призри на новыя люди сия, и даждь им, господи, уведети тобе, истиньнаго бога...»[37].

На новую вышыню аўтарытэт Ісуса Хрыста ўзняла Рэфармацыя, сцвярджаючы праз яго значэнне чалавечай асобы, незалежна ад яе сацыяльнага, маёмаснага або інтэлектуальнага стану[38]. У 1565 г. у Берасці выйшла з друку кніга каментарыяў да Новага Запавету з Берасцейскай радзівілаўскай Бібліі кальвіністскага міністра (святара) у Клецку і аўтара рэлігійных песень Тамаша Фальконіуса (сапр. — Крачатоўскі Хама; ? — пасля 1566) «Sprawy i słowa Jezusa Krystusa Syna Bożego ku wiecznej pociesze wybranym Bożym napisane przed świadki i pisarze na to od Boga zrządzone, a tu wykłady krótkimi są objaśniony» («Справы і словы Ісуса Хрыста, Сына Божага, на вечнае суцяшэнне выбраннікам Божым, напісаныя сведкамі і пісьменнікамі на то ад Бога прызванымі, а тут кароткімі выкладамі растлумачаныя»). Праца мела велізарны ўплыў на ўсю экзегетычную традыцыю Вялікага Княства Літоўскага[39].

Контррэфармацыя не пасягала на аўтарытэт Богачалавека. Выразным адлюстраваннем Евангелля на абразах Пантакратара іканапісцы падаваліт лумачэнне Провіду Божага, які абарванае смерцю зямное быццё злучае з Уваскрэсеннем — «жыццём будучага века». У заходнепалескіх абразах Хрыста Усятрымцы XVI–XVII стст. кніга трактуецца як крыніца богадайнай мудрасці — такой, як яна прыйшла са скарынаўскага варштата — «Богу ко чти и людем к доброму научению»[40]. Адлюстраваны на іх Хрыстос — не суровы валадар, які на Страшным судзе пакарае за кожны найменшы грэх, але спагадлівы настаўнік і шчыры памочнік людзям дзеля атрымання імі вечнага несмяротнага існавання. Такі вобраз Збаўцы адпавядае народнай багаслоўскай традыцыі Палесся. У кожную з гістарычных эпох іконы пашыралі магчымасць індывідуальнга ўспрыняцця і інтэрпрэтацыі Святога Пісьма, дапамагалі пераадолець бар'ер непісьменнасці. Неспакушоны багаслоўскімі ведамі сузіральнік «чытаў» і сёння «чытае» па абразах, спасцігаючы біблейскія сюжэты *экзатэрычна* — у агульнадаступнай шырокім колам форме. Аднак з сівых прабацькоўскіх часоў ранняга хрысціянства вядомы іншы спосаб духоўнага ўзвышэння. Візантыйская экзегетыка расцякалася па свеце разам з візантыйскай культурай. Захаваныя да нашых дзён найстара-



37 Старажытная беларуская літаратура... С. 44.

38 Падокшын С. А. Этычная думка ў культуры Беларусі... С. 45.

39 Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі : Адраджэнне і ранняе барока. Мінск, 1998. С. 53.

40 Францыск Скарына і яго час : энцыкл. давед. Мінск., 1988. С. 7.

жытнейшыя абразы Заходняга Палесся адпавядаюць *эзатэрычнаму* спосабу пазнання Святога Пісьма, які быў дасягальны толькі колу абраных інтэлектуалаў, чыё жыццё адзначана Боскім пакліканнем — Іаану Залатавуснаму (нар. у 347 г.), Васілю Вялікаму (329–378), Рыгору Багаслову (328–390), іншым Айцам Царквы, багасловам і прапаведнікам візантыйскай і іншых праваслаўных цэркваў. У кола такіх іканапісных помнікаў, безумоўна, уваходзяць знакамітае «Блакітнае Успенне», а таксама іканапісныя шэдэўры «Маці Божая Адзігітрыя Ерусалімская» першай паловы XV[41] або, па іншых меркаваннях, XVI ст.[42] з царквы св. Варвары (1642–1647 гг.) у Пінску і згаданая раней «Маці Божая Адзігітрыя Смаленская» (XVI ст.) з Дубянца. Найвышэйшая дасканаласць таленту іх стваральнікаў адпавядае эзатэрычнаму спосабу вывучэння Бібліі багасловамі старажытнасці: уражвае сэнсавая глыбіня выказанага мастацкімі сродкамі роздуму пра выкупіцельны лёс Хрыста, у кожным выпадку — надзвычайны лаканізм і дасканаласць кампазіцыі, непаўторныя індывідуалізацыя і псіхалагізм вобразаў. Пры гэтым іканапісцы не парушылі правілаў візантыйскага ісіхазму, не падалі нічога, што магло б перашкодзіць чыстай, сардэчнай малітве або спарадзіць памылкі ў разуменні сэнсу адлюстраванага. Без сумнення, аўтарам названых іканапісных шэдэўраў былі вядомыя творы Айцоў Царквы — майстэрства памнажаецца ад духоўнага і інтэлектуальнага ўзвышэння, іканапісныя шэдэўры ўзнікаюць у выніку натхняльнага спалучэння мастацкага таленту з глыбокімі багаслоўскімі ведамі.

Беларускія пісьменнікі XVI ст. шмат разважалі на тэму канца Свету, другога Прышэсця Хрыста і Суднага дня, якая праходзіла праз сярэднявечныя літаратуры ўсіх хрысціянскіх народаў, уплывала на розныя віды мастацтва, шмат у чым вызначала змест культуры[43]. Прысвечаныя ёй жывапісныя творы мелі эпічна-панарамны характар. Да нашага часу дайшлі толькі адзінкі з іх. Прыкладам з'яўляецца карціна «Страшны суд» (канец XVII ст.?) з царквы ў в. Вялюнь былога Пінскага павета, вядомая па фотаздымку з Музея Беларускага Палесся ў Пінску, зробленаму 11 красавіка 1939 г. вядомым музейным дзеячам Д.С. Геаргіеўскім. У верхняй частцы твора на аблоках адлюстраваны апрануты ў цёмны хітон Хрыстос з прамяністым зззяннем вакол галавы. З абодвух бакоў ад яго стаяць біблейскія прарокі з сівымі барадамі і ахоўнік з кап'ём. Скрыжалі Божага запавету ляжаць перад Ісусам на аналоі, пад якім ля-

41 Хадыка Ю. А. Рэнесанс у беларускім новым іканапісе... С. 63.
42 Жывапіс Беларусі XII — XVIII стагоддзяў... Іл. 21.
43 Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі... С. 191.

цяць два анёлы з доўгімі трубамі, абвяшчаючы Судны час. Унізе паказана зямля, адкуль на неба ўзыходзяць велізарныя калоны людзей. Над імі з правага і левага бакоў на воблаках вялікімі гуртамі стаяць праведнікі ля Крыжа, які ахоўваюць два нябесныя воіны. Твор мае дасканалую кампазіцыю і ўражвае перадачай апакаліптычнага настрою. Карціна ілюструе папулярнае ў XVI ст. і ў пазнейшы час вучэнне каталіцкіх пісьменнікаў С. Градзіцкага (1541—1613), П. Скаргі (1536—12.9.1612), уніяцкага мітрапаліта Я. Руцкага (1573 або 1574—5.2.1637) і іншых мысліўцаў пра Чысцец (Мытарства, Пургаторый), адкуль, на іх думку, ачышчаныя агнём ад грахоў душы ўзнімаюцца на неба. Задума мастака тлумачыцца словамі апостала Паўла з «Першага паслання да Карынфянаў»: «...Дзея кожнага выявіцца...» (3: 13).

У спадчыне Беларусі вядомы аналагічны абраз — менш значны па сваіх мастацкіх якасцях «Страшны суд» (1740-я гг.) іканапісца з Латыгава (Віцебскі раён)[44].

Контррэфармацыя і Берасцейская царкоўная унія (1596) спрыялі ўтварэнню новага жывапіснага рэчышча. Контррэфармацыя перамагла іконаборніцкія настроі і вярнула шанаванне абразоў. Спрычыніліся да гэтага і праваслаўныя пісьменнікі — аўтары ананімных твораў «Пра абразы, крыж і хвалу Божую», «Спісанне супраць лютараў» і інш. Унія стварыла спрыяльныя ўмовы для пашырэння ўплыву заходнееўрапейскага мастацтва. Надышлі часы, калі спаконвечныя візантыйска-старажытнарускія традыцыі трансфармаваліся і спалучаліся з новымі еўрапейскімі павевамі. Напрыканцы XVI–XVII стст. з'явілася найбагацейшая палемічная літаратура, традыцыі якой на працягу доўгага часу жывілі духоўнае пісьменства[45]. Прыхільнікі і супраціўнікі Уніі спрачаліся адносна пастулатаў веры і правільнасці царкоўнага парадкаўладкавання. Духоўныя пошукі закранáлі шырокія грамадскія колы і мусілі паўплываць на іканапіс, наблізіць яго змест і выразныя сродкі да светаадчування вернікаў. Вынікам гэтага сталі перамены, калі абсалютная дакладнасць іканаграфічных сюжэтаў змянілася немагчымым у ранейшыя часы разняволеннем ў адлюстраванні евангельскіх сцэн і вобразаў святых, якія сталі прыпадабняцца да людзей, але не ачалавечыліся. Прыкладам могуць быць раннебарочныя творы Маларыцкага майстра — «Пераўтварэнне Гасподняе» (1648) і «Пакрова» (1649) з царквы



44 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков... Ил. 144.
45 Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі... С. 156–168.

св. Мікалая (1907) у Маларыце[46]. Што гэта — творчы крызіс ці думка аб тым, што кожны чалавек здольны дасягнуць духоўных вышынь і святасці? Мастацкі метад Маларыцкага майстра сугучны з шырока вядомымі сатэрыялагічнымі ідэямі айчынных мысліўцаў, на думку якіх чалавек створаны Богам паводле «дваістай бытнасці» — зямной і нябеснай. Нябесная «бытнасць», утвораная з невядомай існасці душа, унесена ў цела «непрыкметным Божым дыханнем» (К. Транквіліён-Стаўравецкі; ? — пасля 1646). «...Чалавек не ёсць цела, чалавек ёсць душа ў целе, розум ёсць нябесны і Боскі» (І. Труцэвіч; ? — 1654)[47].

У абразах «Успенне» (пач. XVII ст.) з царквы Успення Багародзіцы (1791) у Паніквах (Камянецкі раён), «Старазапаветная Тройца» (сярэдзіна XVII ст.) з Моладава[48] і ў іншых іканапісных творах узрастае матэрыяльнасць постацяў і лікаў, іх пластычнасць дасягаецца не выкарыстаннем святлоценяў, а каларыстычнай лепкай, якая нагадвае раннevізантыйскі імпрэсіянізм. Дзе і як аўтары гэтых твораў маглі азнаёміцца з раннехрысціянскім мастацтвам? Пэўна, адной з крыніц былі ілюмінаваныя рукапісы[49].

У сярэдзіне XVII ст. іканапісная школа Беларускага Палесся дасягнула свайго росквіту. У іканапісе Заходняга Палесся стылістычна акрэслілася творчасць мастакоў з Берасцейскага, Маларыцкага, Пінскага, Столінскага і Давыд-Гарадоцкага рэгіёнаў.

Іканапіс Заходняга Палесся, які да гэтага часу ўжо стаў пераважна ўніяцкім, захаваў візантыйскую кананічнасць тэмы, сістэму сімвалаў, адухоўленасць вобразаў, але ўдыхнуў у іх жыццё. Мастакі пачалі ўглядацца ў навакольную рэчаіснасць[50]. Уніяцтва злагодзіла багаслоўскія і стылістычныя адрозненні праваслаўнага і каталіцкага мастацтваў, што стала істотнай прыкметай Асветніцтва, падчас якога на культурнай прасторы Вялікага Княства Літоўскага канчаткова замацаваліся еўрапейскія каштоўнасці. У той час, калі распаўсюджанне ідэй Асветніцтва ўзбагаціла рэпертуар мясцовай кніжнай прадукцыі Вялікага Княства Літоўскага (у т.л. літургічных кніг і Ірмалояў — натаваных зборнікаў з духоўнымі песнаспевамі)[51], у іканапісе адбываецца

46 Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў... Іл. 30, 36.
47 Саверчанка І. Aurea mediocritas. Кніжна-пісьмовая культура Беларусі... С. 184–186.
48 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 32.
49 Хадыка Ю. А. Рэнесанс у беларускім новым іканапісе... С. 68.
50 Карэлін У. Р. [і інш]. Распаўсюджанне іканапісных сюжэтаў і мастацкія асаблівасці іканапісу Заходняга Палесся... С. 325.
51 Гісторыя беларускай кнігі... С. 280–300.

інтэрпрэтацыя традыцыйных, з'яўленне або распаўсюджанне асобных новых сюжэтаў: абразы сярэдзіны XVIII ст. «Маці Божая Замілаванне Жыровіцкая» з Быценя (Івацэвіцкі раён)[52] і з Опаля (Іванаўскі раён); «Маці Божая Адзігітрыя Таудэліанская» (?, 1730-я гг.) з в. Гулічы[53]; «Маці Божая ў славе» (?, канец XVII — пачатак XVIII ст.) з Гарадзішча (Камянецкі раён)[54]; «Маці Божая Снежная» з Іванава і Пінскага раёна (абодва творы — XVIII ст.); «Разасланне апосталаў» (XVIII ст.) з Кобрынскага раёна; «Аплакванне Хрыста» (1800) з Брэста і інш. Верагодна, гэты працэс быў абумоўлены актыўнай духоўна-асветніцкай працай базыліян, уплыў якіх у XVII–XVIII стст. значна ўзрос.

Заходняму Асветніцтву, у якое Еўропа ўступіла ў канцы XVII ст., папярэднічаў рацыяналізм Новага Часу. Гэтага не мела Вялікае Княства Літоўскае, у якім Асветніцтва пачыналася з пераадолення сярэдневяковай схаластыкі, водгукі якой знаходзім у іканапісных творах XVII—XVIII стст. На дайшоўшым да нашага часу цудадзейным абразе Маці Божай з Немаўлём (канец XVII ст.) з царквы св. Міхаіла (да 1694) у Осаўцах Драгічынскага раёна злева ад Багародзіцы на століку адлюстравана кніга, на якой ляжыць мёртвы голуб. З пэўнай ступенню верагоднасці можна меркаваць, што птушка сімвалізуе смяротную прыроду людзей, марнасць зямнога жыцця, кніжны фаліянт — апакаліптычнае заканчэнне біблейскай гісторыі Судным Днём і Уваскрэсеннем. Адлюстраванне мёртвага лебедзя ёсць на абразе ля падножжа «Укрыжавання» (канец XVIII ст.) з царквы св. Мікалая (1725) у Чарнякаве (Бярозаўскі раён)[55]. Тры птушкі ўкладваюць клювы ў крывавую рану на яго грудзях у выказ ахвярнай сутнасці Хрыста. Звяртаючыся да сярэдневяковых сімвалаў, мастакі імкнуліся больш поўна выказаць змест твора, але архаіка сімвалічных рэфлексій ужо супярэчыла новым поглядам на свет, якія паступова аддаляліся ад сярэдневяковага багаслоўя.



Меншыўся ўплыў раней усёабдымнай тэалогіі, і ў духоўным ужытку з'явіліся некананічныя тэксты. Своеасаблівым чыннікам духоўнага і культурнага стану свайго часу з'яўляецца апакрыфічны абраз «Багародзіца з хорам анёлаў» (XVII — пачатак XVIII стст.) з царквы свсв. ап. Пятра і Паўла (1698, перабудова 1864) у Гарадзішчы Камянец-

52 Сакральная живопись Беларуси XV-XVIII веков... Іл. 132.
53 Там жа. Іл. 125.
54 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 54.
55 Сакральная живопись Беларуси XV-XVIII веков... Ил. 180.

кага раёна[56], іканаграфію якога можна ўмоўна атаясаміць з сюжэтам «Багародзіца ў славе». Адлюстраваная на зямной сферы Дзева Марыя трымае на каленях Немаўлятка. Над ёю на воблаку ў светлым ззянні паказаны Бог-айцец, ад якога сыходзіць Св. Дух. Па баках ад Найчысцейшай Дзевы, а таксама з правага і левага бакоў уверсе над ёй аркестр з шаснаццаці анёлаў спявае па нотах і грае на двух кларнетах, дзвюх скрыпках, дудзе, басэтлі, ліры і лютні. Твор перадае багацце ўніяцкай музычнай культуры, калі ў парафіях меліся аматарскія аркестры, якія гралі на святы і ў найбольш урачыстыя моманты набажэнства. Абраз з Гарадзішча паўтарае мастацкую ідэю Аляксандра Тарасевіча — аўтара гравюры «Маленне за праведных манахаў» з «Разарыума» (Вільня, друкарня Акадэміі, 1677 г.): на аблоках сядзяць анёлкі, якія граннем на скрыпцы, лютні, басэтлі, ліры і спевамі па нотах суправаджаюць малітву ўкленчаных манахаў, погляды якіх скіраваны на манаграму Дзевы Марыі ў прамяністым ззянні[57]. Папулярныя гравюры рабіліся кужбушкамі — вучэбнымі дапаможнікамі для пісання абразоў[58]. Адлюстраванне апакрыфічных сюжэтаў знаходзім у «Цалаванне Іакіма і Ганны. Дабравешчанне Ганне» (1648–1650) Маларыцкага майстра з царквы Пераўтварэння Госпадняга (1783) у Олтушы, сюжэты якога сыходзяць з Псеўдаевангелля Матфея (2:2; 3:5) і Евангелля ад Нараджэння (4:1)[59]; у абразе «Дабравешчанне Дзеве Марыі» (яна атрымлівае звестку аб будучым нараджэнні Сына Божага не ад анёла, а ад самога Айца Нябеснага, рука якога ёй дабравесціць з ззяючай мандорлы) са святочнага рада ў іканастасе другой паловы XVIII ст. з царквы Нараджэння Багародзіцы (1760) у Шарашове (Пружанскі раён)[60].

Развіццё філасофіі, грамадска-этычнай думкі, адукацыі стварала новыя ўмовы, у якіх царкоўныя дагматы мелі змясціцца ў рэлігійнае мысленне, згарманізаванае з новымі навуковымі поглядамі і свецкай свядомасцю. Этнаграфізм, жанравасць сцэн, увядзенне бытавых матываў, эмацыянальная насычанасць, партрэтнасць, а не ўмоўнасць вобразаў, адлюстраванне элементаў пейзажа, нацюрморта і іншыя асаблівасці іканапісу XVII—XVIII стст. з'яўляюцца сведчаннем таго, што сакральныя культура набывала новы змест. Евангельскія сцэны разгортваліся

56 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 54.
57 Гісторыя беларускай кнігі... С. 285.
58 Высоцкая Н. Ф. Искусство Беларуси XII — XVIII вв. Минск, 1994. С. 35.
59 Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў... Іл. 32, заўвагі.
60 Жывапіс Беларусі XII–XVIII стагоддзяў... Іл. 94

ў знаёмым жыццёвым асяроддзі так, што вернікі маглі адчуць сябе іх удзельнікамі.

Ствараласяновая этыка ў адносінах з нябеснымі жыхарамі. Мясцовы іканапіс падараваў вобразы пекных Багародзіц з ружовымі, як мальвы, вуснамі і ласкавым паглядам прыгожых вачэй («Маці Божая Бялыніцкая Каралева Нябёсаў» (XVII ст.?) з касцёла Пераўтварэння Гасподняга (1824) у Новай Мышы Баранавіцкага раёна[61]; «Маці Божая з Немаўлём» (сярэдзіна XVIII ст.) са Свята-Пакроўскай царквы (1901) у Іванаве; «Маці Божая Адзігітрыя» з царквы св. Параскевы Сербскай (1502) у Збірагах Брэсцкага раёна і інш.), спагадлівага і добрага Хрыста (Грыгорыус. «Хрыстос Пантакратар» (1678) з могілкавай царквы (1823) Пінска[62]; «Хрыстос Усятрымца» (сярэдзіна XVIII ст.) з царквы св. Мікалая (1762) у Рэмелі Столінскага раёна[63] і інш.), выявы Старазапаветнай Тройцы ў вобразе трох прыязных маладых анёлаў (абраз другой чвэрці XVIII ст. з царквы Уваскрэсення Гасподняга (1817) у Альгомелі, якi паходзіць з царквы Іаана Багаслова (1792) у Вялікім Малешаве Столінскага раёна[64]). У XVIII ст. мастакі часцей звяртаюцца да тэмы Новазапаветнай Тройцы (абразы з Пакроўскай царквы (1775) у Андронаве Кобрынскага раёна, з царквы Нараджэння Багародзіцы (1871) у Чарнянах Маларыцкага раёна)[65], з царквы св. Параскевы Сербскай (1502) у Збірагах Брэсцкага раёна і інш.). У своеасаблівай іканаграфіі ахвярная роля Хрыста ілюстравалася трыманнем ім вялікага крыжа, першазначнасць Бога-айца — адлюстраваннем у яго правай руцэ скіпетра, роўнаважна над імі лунаў Св. Дух. Ідэя Св. Тройцы як Абсалюту (у XVI — першай палове XVII ст. гэтаму шмат увагі надавалі пісьменнікі праваслаўнага і каталіцкага станаў Арцёмій (? — 1570), Лаўрэнцій (1550–1560-я гг. — 1634) і Стафан (? — 1600) Зізаніі, Л. Карповіч (пасля 1580 — верасень 1620), С. Косаў (? — 24.3.1657), І. Пацей (1541 — 1613), П.Скарга, Я. Руцкі і інш.) не пярэчыла дэізму і дуалізму філасофіі XVIII ст. і ўжо не разглядалася ў сувязі з супярэчнасцямі адносна *filioque* — спосабу сыходжання Св. Духа. Іканаграфія абразоў адпавядае сфармуляванаму ў XVI ст. кампраміснаму тэзісу, што «Св. Дух сыходзіць ад Айца праз Сына» (І. Пацей, М. Сматрыцкі

61 Спадчына Беларусі : альбом / аўт. тэкста і склад. А. А. Аляксееў, А. В. Лукашэвіч. Мінск, 2004. С. 68.

62 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков… Ил. 68.

63 Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў… Іл. 107.

64 Там жа. Іл. 75.

65 Музей старажытнабеларускай культуры… С. 114, 116.

(1577–1633). Аднак галоўны змест абразоў — не пытанне пра *filioque*, а пранікнёнае ачалавечванне іпастасяў Айца і Сына, якія ў такі спосаб набліжаюцца да людзей. Згодна з духам Асветніцтва абраз робіцца аповядам для народа пра яго патрэбы і шляхі збавення.

Шырокае распаўсюджанне ва ўніяцкіх цэрквах атрымалі напоўненыя болем алтарныя карціны «Укрыжаванне Ісуса Хрыста» (усе — XVIII ст.) з царквы св. Мікалая (1725) у Чарнякаве Бярозаўскага раёна[66], царквы св. Параскевы Сербскай (1502) у Збірагах Брэсцкага раёна, царквы Нараджэння Багародзіцы (1786) у Дзмітровічах Камянецкага раёна і інш.), большасць якіх да нашага часу страчана ў XIX ст. або выдалена з алтароў у бліжэйшы да нас гістарычны перыяд. Несумненнай з'яўляецца сувязь гэтых твораў з мастацтвам кніжнай гравюры, напрыклад, з Укрыжаваннем Хрыста, выкананым для кнігі Акафістаў і канонаў (Магілёў, 1693 г.) гравёрам Максімам Вашчанкам[67]. Празмерная барочная экспрэсія ў дэманстрацыі выкупіцельнай ахвяры Богачалавека адпавядае літаратурнай форме надрукаванай у Вільні ў 1766 г. кнігі доктара тэалогіі езуіта Юзафа Бакі (1707, Менскі павет — 1780) «Uwagi śmierci niechybnej» («Разважанні пра непазбежнасць смерці»), напісанай дзеля большай уражлівасці з выкарыстаннем гратэска (!) — метада надта нязвыклага, але эфектнага і дзейснага. У кампазіцыю познебарочных «Укрыжаванняў», апроч фігур Дзевы Марыі і Іаана Хрысціцеля, пачалі ўводзіць архітэктурны пейзаж, выявы вернікаў, адлюстраванне Марыі Магдаліны, якая кленчыць пад Крыжам, абдымаючы ногі Збавіцеля. Так уражліва, праз пачуцці адбывалася мастацкая адаптацыя евангельскага сюжэта да свядомасці сучаснікаў.

Пра звыклае распаўсюджанне пісанага слова і бытаванне друкаванай кнігі апавядаюць іканапісныя дэталі. У XVII ст. на абразах Маці Божай Адзігітрыі архаічны скрутак Запавету ў руках маленькага Хрыста ўсё часцей змяняецца кнігай, якая ў пазнейшыя часы можа нават ляжаць на каленях («Маці Божая Адзігітрыя» (1740) з царквы св. Міхаіла (1892) у Аброве Пінскага раёна[68]) або разгорнутай у руцэ (Ю. Камінскі. «Маці Божая з Немаўлём» (1836) з Драгічынскага раёна[69]), прыціскаць да грудзей («Маці Божая Адзігітрыя» (канец XVII — пачатак XVIII ст.) з царквы св. Міхаіла (1816) у Такарах Камянецкага раёна[70]), да жывата або нават

66 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков… Ил. 180.
67 Гісторыя беларускай кнігі... С. 267.
68 Сакральная живопись Беларуси XV–XVIII веков… Ил. 110.
69 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 142.
70 Там жа. С. 52.

узяць пад паху («Маці Божая Пачаеўская» (1791), «Маці Божая Снежная» (канец XVIII ст.) з царквы св. Параскевы (1794) у Мясяцічах Пінскага раёна[71]). Традыцыйнай іканаграфічнай схемай не прадугледжваецца абавязковае адлюстраванне разгорнутых кніг перад апосталамі на абразе «Сашэсце Св. Духа» (другая палова XVIII ст.[72]) з царквы Св. Тройцы (1842) у Зёлаве Драгічынскага раёна або на абразе мастака Заблоцкага «Маці Божая Ляснянская» (1852) з Брэсцкай вобласці[73], дзе маленькі Хрыстос трымае закрытае Евангелле, у руках Багародзіцы — разгорнутая Біблія, над якой лунае Св. Дух. Такія інтэрпрэтацыі, безумоўна, сведчаць, што кніга стала неад'емным атрыбутам быту.

Новай прыкметай часу і сведчаннем большай адукаванасці стала вылучэнне творцаў з безасабовага асяроддзя вернікаў і манахаў.

У 1682 г. іярэй Кобрынскага манастыра Св. Спаса Павел Дубоўскі запісаў: «Сию книгу глаголемую ірмолой списал и надал коштом и трудолюбием своим ...Павел Дубовский ...композитор и авдитор» [6, с. 294]. У першай палове XVIII ст. на абразах Заходняга Палесся з'явіліся запісы пра аўтараў, час даравання абразоў у святыню і імёны ахвярадаўцаў. Напрыклад, абраз «Узнясенне» мастака Томаша Міхальскага з царквы св. Параскевы (1740) у Дывіне Кобрынскага раёна мае надпіс: «Ten obraz sporządził Paweł Kłoczkowicz. Roku 1751. ...». На вынасным алтарыку «Цуд Юр'я са змеем — Маці Божая з Немаўлём» паведамляецца, што ён спраўлены брацтвам варанілавіцкай царквы 13 мая 1807 г.[74]. Замаўленне абраза, як і заказ перапісу Евангелля [75], стала выказам стараннай пабожнасці і хрысціянскай годнасці. Усведамленне эсхаталагічнасці зямнога існавання дало разуменне, што дабрадзейныя ўчынкі патрабуюць фіксацыі — пра данатараў і час складзеных імі ахвяр вядома паводле старанных надпісаў, зробленых у адпаведнасці з гісторыяграфіяй новага часу.

Распачатае ў XV–XVI стст. засваенне заходнепалескім іканапісам прыёмаў еўрапейскага мастацтва ў наступныя стагоддзі давяло да паступовай замены вытанчанага візантыйскага спірытуалізму і глыбокай «сафійнасці» на грунтоўны павучальны аповяд, арыентаваны больш на разумовае, чым на эмацыйнае ўспрыняцце сакральнай інфармацыі. З пачаткам Рэфармацыі эзатэрычнае адзінства цёплай веры, спакой-

71 Там жа. С. 123–124.
72 Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў... Іл. 126.
73 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 144.
74 Там жа. С. 70, 130.
75 Гісторыя беларускай кнігі... С. 285.

нага ісіхазму і багаслоўскай глыбіні, характэрнае для візантыйскай традыцыі, не магло пазбегнуць трансфармацый згодна з новымі сацыяльнымі працэсамі, зменамі ў светапоглядзе грамадства і ў свядомасці вернікаў. Гэта абумовіла паступовае ўзрастанне ў іканапісе маральнай экстравертнасці, што функцыянальна супадала са зместам разнастайных твораў, якія выходзілі з базыліянскіх і каталіцкіх ордэнскіх друкарняў.

У асобных творах XVII–XVIII стст. сустракаецца аб'яднанне некалькіх евангельскіх сюжэтаў, па сваім змесце адрознае ад раней вядомых абразоў «з жыціямі», прысвечаных аднаму біблейскаму персанажу. На абразе Маларыцкага майстра сюжэт «Цалаванне Іакіма і Ганны» (1648–1650) спалучаны з апакрыфічным «Дабравешчаннем св. Ганне», укленчанай у малітве перад анёлам на фоне пейзажа з гарой[76]. На верхняй палове цудадзейнага абраза (да 1725) з Чарнякова (Бярозаўскі раён), апроч св. Мікалая, адлюстравана Багародзіца з Немаўлём, у ніжняй частцы — тры невядомыя епіскапы са св. Мікалаем (?) і св. Параскевай (твор захоўваецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь). Што гэта — паўтор традыцыйных схем без разумення іх рэлігійнага зместу[77] ці багаслоўская творчасць народных «богамысленікаў» як вынік пераадолення глухой да знешніх уплываў артадаксальнасці і атрымання большай асабістай, у т.л. разумовай, свабоды?

Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у іканапісе Заходняга Палесся працягваліся мясцовыя мастацкія традыцыі XVIII ст., што добра заўважна ў інтэр'еры царквы св. Ільі (1815) у Дубку (Брэсцкі раён) і ў шматлікіх творах XIX ст.[78].

Распачатая на пачатку XIX ст. рэлігійна-палітычная трансфармацыя грамадства ў сувязі з падрыхтоўкай да ліквідацыі Уніі стала моцным абмежавальным фактарам для развіцця мясцовага іканапісу. У 1833–1834 гг. быў пакладзены пачатак сапраўднай вайне супраць спадчыны ўніяцкай царквы. Пазней нішчылася ўсякая мясцовая даўніна[79].

У 30-я гады XIX ст. былі зроблены іканастасы для ўніяцкіх святынь у Опалі, Дружылавічах, Ляхавічах (Іванаўскі раён); Вавулічах, Папіне, Зёлаве, Валавелі, Ліпніках, Дзеткавічах (Драгічынскі раён); Стрыгіні (Бярозаўскі раён); Гарадцы, Дывіне (Кобрынскі раён); Сцяпанках,

76 Іканапіс Беларусі XV–XVIII стагоддзяў... Іл. 32.
77 Высоцкая Н. Ф. Искусство Беларуси XII–XVIII вв... С. 35.
78 Музей старажытнабеларускай культуры... С. 129–137, 139, 141–144.
79 Марозава С. Лёс культурнай спадчыны ўніяцкай царквы ў Беларусі // Спадчына. 1996. № 6. С. 100–118.

Здзітаве, Хмелеве (Жабінкаўскі раён); Ляхаўцах, Чарнянах, Хаціславе, Олтушы (Маларыцкі раён); Чэрску, Чарнаўчыцах (Брэсцкі раён); Вайской, Дзмітровічах (Камянецкі раён); Гошчаве, Яглевічах (Івацэвіцкі раён)[80] і ў іншых помніках. У жывапісных творах іканастасаў, выкананых на добрым мастацкім узроўні і большай часткай напісаных алеем на палатне, водгукі барочнай экспрэсіі стрымліваюцца класіцыстычнай разважлівасцю. Усталяванне іканастасаў не стала станоўчым фактарам у развіцці традыцыйнага мясцовага іканапісу, мела на мэце спрыяць духоўнай і культурнай каланізацыі краю з ўдзелам праваслаўнай царквы Расійскай імперыі. Аднак духоўныя традыцыі папярэдняй эпохі ўсё роўна адлюстраваліся ў асаблівасцях канструкцыі, мастацкай кампазіцыі і дэкаратыўных элементах уніяцкіх алтарных перашкод, якія замаўляліся грэка-каталіцкімі святарамі пад прымусам схільнага да ліквідацыі уніі зверхніка ўніяцкай царквы русафіла І. Сямашкі з аднадумцамі-паплечнікамі, але сталі новай арыгінальнай з'явай уніяцкага мастацтва.

Пасля ліквідацыі Уніі (1839) развіццё мясцовай мастацкай творчасці было абмежавана, замаруджана шырокім расійскім імпартам і знішчэннем культурных набыткаў уніяцкай эпохі — на кастрышчах палалі кнігі і абразы, вынасныя алтарыкі, працэсійныя крыжы, арганы, старажытнае літургічнае адзенне, знішчаліся іншыя мастацкія творы, выдаленыя з былых грэка-каталіцкіх святынь. У такіх умовах мясцовыя мастакі звыкла звяртаюцца да вобраза Хрыста, духоўны аўтарытэт якога ў меншай ступені залежаў ад міжканфесійных дачыненняў. Яго высокамастацкія адлюстраванні — ужо жывапісныя, а не іканапісныя (першая палова — сярэдзіна XIX ст., палатно, алей), захаваліся да нашага часу ў царкве св. Параскевы (1822) у Сычах (Брэсцкі раён) і ў іншых старажытных святынях Палесся. Мастацкія спробы стварыць ідэальны вобраз Збаўцы сведчаць, што імкненне захаваць уласны творчы голас у выказе духоўнага зместу не перарвалася і мела несумненны поспех.

На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ад часоў ліквідацыі уніі адбывалася паступовае занядбанне драўляных святынь, скарачаліся патрэбы ў іх аздабленні новымі іканапіснымі творамі. Даведзеныя да абсалютнай пакоры, вернікі страцілі жаданне захоўваць свае забраныя ў праваслаўе цэрквы.



80 Якімовіч Ю. А. Драўлянае дойлідства Беларускага Палесся: XVII–XIX стст. Мінск, 1978. С. 88.

Пасля залагоджвання ўсіх палітычных пытанняў у сувязі з ліквідацыяй уніі вастрыня рэлігійных дачыненняў паступова аціхла, а з ёю знікла і цікавасць да стану сакральных аб'ектаў, пакінутых увагай улад і пазбаўленых жывога, сардэчнага клопату вернікаў пра іх аднаўленне і рамонт. У 1862 г. царкоўны гісторык М. Каяловіч заклапочана пісаў пра цяжкую сітуацыю ў Паўночна-Заходнім краі[81]. Сярод іншага чытаем: «Я бачыў цяпер яшчэ цэлыя дзясяткі цэркваў, якія застаюцца зачыненымі за нястачай сродкаў для іх аднаўлення, і яшчэ болей такіх, дзе хоць і правіцца богаслужба, але сярод такой беднасці і з такімі цяжкасцямі, што, бадай, калі б не бачыў гэтага сам, то не даў бы веры».

Цяжкі маральны стан былых уніятаў пасля навяртання ў праваслаўе і адсутнасць прыстойнай душпастырскай апекі з боку прысланага з Расіі духавенства давялі ў другой палове XIX ст. да паніжэння рэлігійнасці беларускай вёскі і пашырэння скептычнасці сялянскага насельніцтва да праваслаўных святароў[82]. Красамоўныя ўражанні відавочцаў тагачасных падзей: «Шчаслівыя… людзі, калі ў гэтым пераходзе яны атрымліваюць годнага Пастыра, але, на жаль, гэта амаль ніколі не адбываецца. Хуткае распаўсюджанне Праваслаўя пазбаўляе магчымасці нованабытыя прыходы замяніць сумленнымі і не абцяжаранымі карыслівасцю духоўнымі і такіх здольнасцей, якімі б яны маглі прыцягнуць да сябе сэрцы новай паствы, і што бывае гэтаму следствам? Незадаволенасць, недаверлівасць і неахвотнае наведванне храма»[83].

Вынікам гэтых працэсаў, а таксама следствам ліквідацыі ўсіх уніяцкіх і большасці каталіцкіх манастыроў, стаў пачатак паступовага заняпаду багаслоўскай культуры і заходнепалескага іканапісу. Прыкметы гэтага знаходзім, напрыклад, у адлюстраванні Збаўцы (першая палова XIX ст.) з царквы Св. Тройцы (1827) у Песках Бярозаўскага раёна[84]. Пры несумненнай блізкасці да іканаграфічнага канону і мясцовай іканапіснай традыцыі выява Хрыста выканана ў спрошчанай, некалькі інсітнай манеры, адпаведнай мастацкаму густу сацыяльных нізоў. Напісаны малапісьменнай рукой фрагмент евангельскага тэксту «Рече

81 Коялович М. О. Записки Иосифа, митрополита Литовского, изданные Императорскою Академиею наук по завещанию автора. СПб., 1883. 23 с.

82 Токць С. Беларуская вёска ў эпоху зменаў: другая палова XIX — першая траціна XX ст. Мінск, 2007. С. 81.

83 Уния в документах : сб. / сост. В. А. Теплова, З. І. Зуева. Минск, 1997. С. 478.

84 Музей старажытнабеларускай культуры… С. 134.

Господь своим ученикам...» не адпавядае ні адной са строф з падобнымі пачаткамі ў Евангеллі ад Мацвея.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы, у XIX ст. мастацтва заходнепалескага іканапісу захоўвала своеадметнасць[85].

Яго плённае развіццё не было магчымым на пачатку XX ст. з прычыны катастрафічных гістарычных падзей Першай сусветнай вайны, у часы Другой Рэчы Паспалітай, калі працавалі іканапісныя майстэрні толькі ў асобных найбуйнейшых манастырах, і ў перыяд савецкага атэістычнага панавання.

Адроджаны сучасны іканапіс Заходняга Палесся абапіраецца на мастацкія рэмінісцэнцыі старажытных балгарскага, беларускага, візантыйскага, грэчаскага, рускага, украінскага іканапісу, ствараюцца спісы праслаўленых старажытных абразоў. Мастакі С. Герасімук (в. Хацíслаў Маларыцкага раёна), А. Вакуліч (г. Баранавічы), С. Каркатадзэ, Г. Панаётаў, П. Саладоўнікаў (г. Брэст) і інш. ступаюць на ўжо пройдзены шлях дзеля вобразнага выказу духоўных пастулатаў Біблії, якія цяжка чытаюцца ў тэхнагенную эпоху, небяспечную апакаліптычнымі пагрозамі чалавецтву. Магчыма, праз колькі дзесяцігоддзяў іканапіс, пазбаўлены філасофска-багаслоўскай глыбіні, перастане быць патрэбны як форма адлюстравання сучаснай хрысціянскай свядомасці або захаваецца як даніна старажытнай традыцыі, вабнай толькі сваёй архаікай?

Без дасканалага мастацкага таленту, павялічанага багаслоўскімі ведамі, без натхнёнага святарскага служэння біблейская далячынь блякне. Ці здатны іканапісцы ў эпоху постмадэрнізма надаць сваім творам былую «сафійнасць», якая сувымерыць маральна-філасофскія рэфлексіі сучаснасці — «не столькі развіцця сацыяльнай рэальнасці, колькі свядомасці» (З. Бауман), засведчыць прыклады найвышэйшай хрысціянскай маралі паводле фактаў найноўшай гісторыі і іх адпаведнасць універсальным агульначалавечым каштоўнасцям? Пошук матывуецца жаданнем пазбегнуць паўторнага адмаўлення ад хрысціянскага спосабу светабачання. У кароткім XX стагоддзі гэта давяло да рэвалюцый, вынаходжання індустрыяльных і высоканавуковых тэхналогій знішчэння чалавека.

85 Шматаў В. Ф. Іканапіс XIX ст. // Іканапіс Заходняга Палесся XVI–XIX стст. Мінск, 2005. С. 265–314.

*Неклюдова Т.А.*

# Культурно-просветительная деятельность женских общественных организаций Полесского воеводства (1921–1939 гг.)



В межвоенный период (1921–1939 гг.) наблюдается рост социальной активности женщин Полесского воеводства. Для идеологии Польского государства была характерна высокая оценка значения женщин в жизни народа и государства. Большое внимание уделялось гражданско-просветительной работе среди женщин, воспитанию сознательной гражданки Польши в духе преданности Польскому государству и его идеалам, способной эффективно работать на её благо. Эти принципы нашли своё отражение в содействии участию женщин в многочисленных женских общественных организациях.

Женские организации Полесского воеводства вели активную работу в области просвещения: они организовывали лекции, беседы, курсы повышения квалификации, являлись инициаторами создания учебных заведений, клубов, библиотек.

Одной из наиболее влиятельных и многочисленных женских организаций Полесского воеводства был «Союз женщин гражданского труда», принадлежащий так называемому «санационному лагерю». Днём основания Союза считается 25 марта 1928 г., когда в Варшаве на съезде Демократического Избирательного Комитета женщин был создан Союз государственно-созидающей работы женщин (Związek Państwowo-Twórczej Pracy Kobiet), который позже сменил название на «Союз женщин гражданского труда» (Związek Pracy Obywatelskiej Kobiet). Товари-

щество, которое возглавила Зофья Морачевска, было организовано с целью включения женщин в кампанию Беспартийного блока сотрудничества с правительством перед выборами в парламент.

Центральный орган Союза в Варшаве выдавал еженедельник «Prosta Droga». Журнал содержал материалы по домашнему хозяйству, садоводству, животноводству, воспитанию детей. Кроме того, в нём помещалась информация о политических событиях в Польше и мире, рассказы, стихи, отчёты отделов «Союза женщин гражданского труда». Главное правление обращалось ко всем отделам, в том числе и Полесского воеводства, с просьбой к женщинам присылать корреспонденцию и фотографии о работе их отделов, которые могут быть напечатаны в журнале[1].

«Союз женщин гражданского труда» активно занимался гражданско-политическим воспитанием и в целом культурно-просветительной деятельностью среди женщин. Например, в поветовом объединении «Союза женщин гражданского труда» в Пинске (основано 12 декабря 1932 г.) в период подготовки к выборам в органы самоуправления были организованы лекции на темы «Что такое территориальное самоуправление» и «Женщина и самоуправление» (Мария Колендо и Ядвига Чарноцка), а делегат главного управления А. Подгурская прочитала лекцию «Выборы в органы самоуправления». Был организован курс из трёх циклов о современной Польше. Секция самообразования «Союза женщин гражданского труда» организовывала читальни в помещении общества «Семья чиновника». На одном из заседаний заслушивался реферат пани Суловской «Обозрение литературы новой Польши»[2].

В октябре 1934 г. в Пинске был организован клуб для девочек, окончивших начальную школу. Клубом сначала руководила пани Дренгевичева, потом пани Трояновска. Здесь учили чтению, письму, счёту, рукоделию, шитью руками и на машинке, уделяли внимание физическому воспитанию и отдыху.

Для женщин, работающих в сельских, городских и сезонных детских садах, а также в летних лагерях, организовывались курсы подготовки. Они проходили в г. Бресте-над-Бугом в течение месяца и были рассчитаны на тех, кто уже работает в этих заведениях. Курс содержал заня-

---

1 Государственный архив Брестской области (ГАБО). Ф. 390. Оп. 1. Д. 10. Переписка с Брестским поветовым Союзом женщин гражданского труда, протоколы общих собраний членов отдела союза, финансовый отчет и списки членов отдела за 1938 год. Л. 91.

2 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 9. Отчёт о деятельности Союза женщин гражданского труда за 1932–1935 гг. Л. 1–6.

тия по административно-хозяйственной тематике, вопросам воспитания и гигиены. На курсы принимались женщины в возрасте до 30 лет, имеющие образование не ниже среднего или закончившие учительскую семинарию[3].

Активно работал Дрогичинский поветовый «Союз женщин гражданского труда». В нём был стабильный состав, в котором выделялось несколько активисток. Его неизменным руководителем была Каролина Хитрыйова. В рамках отдела традиционно существовали секции гражданско-политического воспитания и прессы. Последнюю возглавляли Мария Хмелевска, Магдалена Филонова, Хелена Хабалова. В планах работ кружка имеются сведения об организации вечеров дискуссий, главной целью которых было самообразование членов Союза с помощью читаемых лекций, рефератов, касающихся женщин и их дел, а также политических и общественных вопросов[4].

Другой женской общественной организацией была «Семья чиновника». Товарищество было организовано по инициативе супруги премьера Польши Янины Присторовой в декабре 1932 г. Полесский округ «Семьи чиновника» был создан 22 ноября 1933 г. по инициативе центральных властей «Семьи чиновника» и супруги воеводы Анны Бернацкой, которая и стала его главой[5]. Главной целью общества признавалось объединение всех чиновников и их семей. Кружкам этой организации предписывалось концентрировать деятельность в рамках опеки над матерью и ребёнком в направлении организации курсов повышения квалификации для домохозяек (курсы кулинарии, кройки и шитья), а в рамках культурно-просветительной сферы в организации курсов повышения квалификации для членов товарищества (например, курсы иностранных языков), лекций и вечеров дискуссий, краеведческих экскурсий, расширении моральной и материальной опеки над бедной сельской начальной школой.

По состоянию на 1935 г. в Полесском воеводстве было 9 кружков «Семьи чиновника», в которых насчитывалось 1065 членов. Кружки

---

3 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 10. Переписка с Брестским поветовым Союзом женщин гражданского труда, протоколы общих собраний членов отдела союза, финансовый отчет и списки членов отдела за 1938 год. Л. 94.

4 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 4. Протоколы заседания правления Союза женщин гражданского труда (16 октября 1936 г. — 7 декабря 1938 г.). Л. 1–3.

5 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 61. Отчёты пинского кружка и переписка с окружным правлением товарищества «Семья чиновника» о деятельности. Л. 12–28.

имели в том числе 5 клубов (в Бресте-над-Бугом, Дрогичине, Камень-Каширском, Лунинце, Пинске).

Кружок товарищества в г. Бресте-над-Бугом выпускал свой журнал. Кроме того, в городе для членов «Семьи чиновника» была открыта бесплатная библиотека-читальня. Библиотека вызывала большой интерес членов кружка. Отмечался постоянный рост числа её пользователей. 2 раза в неделю эту библиотеку посещали 130 человек. В 1936 г. кружок в г. Бресте-над-Бугом организовывал вечера дискуссий по актуальным общественно-политическим темам. Планировалось также учредить лекции по изучению иностранных языков (английский и французский).

Пинский кружок товарищества «Семья чиновника» был основан на организационном собрании 9 декабря 1933 г.[6]. В 1936 г. в г. Пинске культурно-просветительная секция «Семьи чиновника» приступила к созданию единой библиотеки, которая объединила бы библиотеку «Семьи чиновника» с библиотеками других организаций. Кроме того, секция провела 5 собраний, на которых заслушивались 2 доклада: «Идейные основы новой Конституции» и «Борьба с проявлениями хозяйственного кризиса»[7]. В 1937 г. в рамках кружка также действовали 2 секции: культурно-просветительная и развлекательная. В рамках культурно-просветительной секции было организовано 16 лекций на различные темы, которые проходили в здании гимназии и в собственном помещении товарищества. Кроме того, руководством кружка проводились ежедневные открытые клубы, где занимались чтением газет, журналов, игрой в бильярд, шахматы, бридж[8].



Похожей по целям и задачам была деятельность организации «Полицейская семья». Членами товарищества могли быть совершеннолетние лица: жёны, матери, дочери, сёстры действительных и бывших служащих полиции, а также их вдовы, сироты и женщины-служащие. Из устава товарищества, утверждённого 23 апреля 1931 г. на общем собрании в Варшаве, следовало, что одной из целей организации является создание идейных связей и культурной, товарищеской, спортивной совместной жизни среди семей полицейских. Для достижения этих целей

6 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 60. Протоколы общих собраний членов кружка и заседания ревизионной комиссии (9 декабря 1933 — 26 июля 1939 гг.). Л. 1.

7 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 61. Отчёты пинского кружка и переписка с окружным правлением товарищества «Семья чиновника» о деятельности. Л. 21.

8 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 59. Указания центрального и окружного правлений товарищества «Семья чиновника» и переписка с ними. Л. 17.

предполагалось в том числе организовывать профессиональные курсы; давать бесплатные юридические консультации; организовывать библиотеки, клубы, собрания, лекции, концерты, драмкружки и т.д.; организовывать краеведческие экскурсии[9]. Например, Дрогичинский кружок товарищества «Полицейская семья» был организован в 1929 г., на март 1939 г. насчитывал 67 членов. Однако этот кружок не отличался особой активностью. У кружка не было своей библиотеки (члены пользовались услугами библиотеки при полицейском спортивном клубе), не было также и своего клуба. Деятельность кружка сводилась к организации помощи бедным детям (раздача одежды, обуви), проведении различных немногочисленных мероприятий (новогодние ёлки для детей, танцевальные вечера, лекции, экскурсии)[10].

Проводила культурно-просветительную работу и организация «Семья лесника». Например, кружок «Семья лесника» при надлесничестве «Пинск» (организован 16 декабря 1934 г.) имел свою передвижную библиотеку, которой активно пользовались члены кружка. Кроме того, руководство кружка занималось организацией индивидуальной подписки на различные специализированные издания: «Echa leśne», «Niwa», «Moja przyjaciółka». Эти журналы всегда давали почитать менее богатым членам кружка, которые не могли их выписывать самостоятельно[11].

Молодые девушки являлись членами нескольких организаций, работающих на селе: это Союз сельской молодёжи (Związek Młodzieży Wiejskiej) и Союз молодой деревни (Związek Młodej Wsi). Члены этих организаций традиционно участвовали в конкурсах на лучшее чтение книг. Работа кружков также предполагала наличие культурно-просветительной секции, которая существовала во всех структурных подразделениях. Практически каждый кружок имел свою небольшую библиотеку. Например, кружок сельской молодёжи в д. Домбек гмины Домачево в 1939 г. имел библиотеку, насчитывавшую 20 книг; кружок д. Страдеч гмины Медно — 32 книги (1938 г.). Интересно, что даже в тех кружках, где представительство девушек было значительным, от-

9 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 11. Устав товарищества «Полицейская семья», утвержденный 23 апреля 1931 г. на общем собрании в Варшаве. Л. 2–12.

10 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 18. Отчёты о деятельности дрогичинского кружка товарищества «Полицейская семья» за 1939 год. Л. 1–2.

11 ГАБО. Ф. 390. Оп. 1. Д. 48. Инструкции и указания центрального правления и окружного комитета товарищества «Семья лесника» и переписка с ними (16 апреля 1934 — 22 июня 1939 гг.). Л. 62.

сутствовала секция подружек (koleżanek). Тем не менее, такая секция работала в колонии Сучки Верховицкой гмины Брестского повета. Этот кружок насчитывал в 1937 г. 44 члена, из них 11 девушек. У кружка также была своя библиотека; более того, в ней находились 2 книги, посвященные именно женским вопросам[12].

В сельской местности на территории Польского государства также активно работала организация «Кружок сельских хозяек» (Koła gospodyń wiejskich). На 29 ноября 1938 г. в Полесском воеводстве насчитывалось 152 кружка. В комиссии «Кружков сельских хозяек» при Полесской сельскохозяйственной палате действовало несколько отделов. Существовал и отдел просвещения, который в 1938 г. организовал экскурсии в Варшаву, Гдыню, Познань; в них приняли участие 220 членов кружков. Отдел организовал экскурсию в Пинск на «Полесскую ярмарку», поездки в сельскохозяйственные школы, соседние кружки и образцовые хозяйства. В целом деятельность организации «Кружок сельских хозяек» носила скорее практический характер. Это было в первую очередь оказание различной помощи сельской женщине — от присмотра за ребёнком до организации различных практических курсов (птицеводство, ткачество, кулинария и т.д.)[13].

Тем не менее руководство Польского государства добивалось повышения культурного уровня домохозяек. Например, в Варшаве были организованы сельскохозяйственные курсы имени Станислава Сташица, которыми руководила Марья Карчевска. Целевой аудиторией курсов были сельские женщины, занимающиеся ведением хозяйства. В программу по проведению занятий от 28 марта 1929 г. входили следующие лекции: «Принципы работы в домашнем хозяйстве» (автор — Ирена Шумляковска; курс содержал расписание занятий для хозяйки на день, неделю, месяц и сезон), «Внутреннее убранство дома» (Хелена Бычиньска), «Дом и двор» (Марья Карчевска), «Материнство» (доктор М. Касперовичева; курс содержал сведения по анатомии женщины, беременности и родам, об основах гигиены женщины, о венерических заболеваниях), «Гражданские и общественные обязанности сельской хозяйки» (Паулина Ресторффова; в курсе объяснялись понятие гражданских прав, принципы работы органов самоуправления, чем должны за-

12 ГАБО. Ф. 115. Оп. 1. Д. 11. Планы работы союза сельской молодежи и отчеты о деятельности союза и кружков сельской молодежи за 1934–1938 гг. Л. 18–22, 44–46, 157–158.

13 ГАБО. Ф. 1. Оп. 7. Д. 251. Протоколы съездов и заседаний экономической бюджетно-финансовой комиссии Полесской сельскохозяйственной палаты. Л. 33.

ниматься женщины в органах самоуправления) и другие[14]. Безусловно, эти курсы, составленные грамотными специалистами, способствовали повышению культурного и образовательного уровня, укреплению гражданского самосознания женщин, давали им практические сведения по ведению хозяйства.

Таким образом, культурно-просветительная деятельность была одним из основных направлений работы женских общественных организаций Полесского воеводства в 1921–1939 гг. В её рамках осуществлялась организация различных курсов, лекций, бесед, открывались школы, клубы, библиотеки, выпускались периодические издания.

14 ГАБО. Ф. 1. Оп. 7. Д. 260. Программы и другие материалы по проведению занятий с домохозяйками. Л. 2, 22, 179, 187, 209.

*Марозава С.В.*

# Лёс уніяцкай кнігі ў Беларусі ў XIX ст.



Сёння ўніяцкая кніга — вялікая рэдкасць у бібліятэках і музеях Беларусі. Як частка культава-абрадавага комплексу ўніяцкай царквы яна была страчана не толькі натуральным шляхам, але і ў выніку мэтанакіраванага сістэматычнага знішчэння, якім суправаджалася рэфармаванне і ліквідацыя самой царквы.

Афіцыйная Расія падазрона ставілася да помнікаў уніяцкай кніжнай культуры як да крыніцы іншавер'я і іншадумства. Пачалі з абмежаванняў для распаўсюджання ўніяцкай кнігі. Узяўшы ў 1794 г. курс на скасаванне уніі, імператрыца Кацярына II запатрабавала ўніфікаваць выданні Пачаеўскай базыльянскай друкарні паводле маскоўска-кіеўскіх нормаў з захаваннем, аднак, імя папы рымскага, месяцаслова з імёнамі шанаваных царквой святых і сімвала веры «по униатскому их умствованию»[1]. У XIX ст. пачаеўскія друкі зусім забаранілі купляць для прыходскіх цэркваў[2]. Наклалі забарону на спеўнік выдання 1824 г. з падманнымі выхаднымі дадзенымі (Вільня), бо яго царкоўнаславянскія песні былі «противны греко-российскому исповеданию». Шукаючы спеўнік,

1 Расійскі дзяржаўны архіў старажытных актаў (РДАСА). Ф. 18. Спр. 321. Арк. 3–4.

2 Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове. Ф. 201. Воп. 4. Спр. 1878. Арк. 1–2 адв.

пратрэслі манастырскія і царкоўныя кнігасховішчы, бібліятэкі навучальных устаноў Беларусі, Віленшчыны[3].

Малітоўнікі і іншага роду ўніяцкія кнігі на царкоўнаславянскай мове, прададзеныя ў вялікай колькасці на кірмашах, сталі разносіцца па ўсёй Расіі. Па непаразуменні іх пачалі выкарыстоўваць у праваслаўным набажэнстве — «к соблазну православных». Каб зменшыць абарачэнне на публіцы гэтых кніг, Сенат указам ад 27 чэрвеня 1826 г. забараніў іх продаж на кірмашах і наогул у тых месцах, дзе няма ўніяцкіх цэркваў[4]. У 1828 г. усе выдавецтвы падпарадкавалі духоўнай цэнзуры. У 1833 г. быў асуджаны да канфіскацыі надрукаваны ў 1826 г. у Мінску польскамоўны малітоўнік «Набожныя песні на ўрачыстыя святы, на цэлы год сабраныя, з дадаткам новых песень», бо яны маглі служыць «к возбуждению и усилению мятежа». Сярод новых былі песні, папулярныя ва ўніяцкім асяроддзі[5].

Другім бокам гэтых абмежаванняў было інтэнсіўнае цэнтралізаванае насычэнне беларускіх зямель з канца XVIII ст. кніжнай прадукцыяй расійскіх друкарняў, забеспячэнне сінадальнымі выданнямі, якія пачынаюць выцясняць уніяцкую кнігу. Пастановай ад 7 лютага 1834 г. уніяцкае духавенства абавязалі карыстацца толькі служэбнікамі і кнігамі малітоўных спеваў, надрукаванымі ў маскоўскай сінадальнай друкарні адпаведна ў 1831 і 1828 гадах, каб замяніць «ошибочные, разной печати церковные книги, в которых давно искажён славянский язык». 2800 асобнікаў меркавалася накіраваць у Беларусь па памяркоўнай цане[6].

Канфіскацыя ўніяцкіях кніг і замена іх маскоўскімі служэбнікамі, змест якіх разыходзіўся з традыцыйнымі выданнямі, збянтэжыла народ, выклікала супраціў духавенства[7]. Устрывожаныя мэтай такой рэформы, святары пачалі заяўляць калектыўныя пратэсты.

2 красавіка 1834 г. 57 святароў з Наваградка падалі пратэст супраць прымусу ўжываць маскоўскі Літургікон і патрабавалі дазволу па-

3 Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. СПб., 1907. Т. 2 : 1701–1839. С. 783–784.

4 Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў (РДГА). Ф. 797. Воп. 6. Спр. 22600. Арк. 2, 4, 7–7 адв.

5 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (НГАБ). Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 6888. Арк. 1, 7, 21, 24 адв., 31 адв., 45 адв.–46.

6 Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі Расіі. Ф. 52. Спр. 25. Арк. 9–9 адв.

7 Мартос А. Беларусь в исторической государственной и церковной жизни. Буэнос-Айрес, 1966 ; Минск, 1990. С. 222. Репринт.

ранейшаму карыстацца віленскім выданнем. Усе падпісанты паводле загаду цара былі пакараны годам манастырскай турмы[8].

У канцы 1835 г. себежскае (17 чалавек), лепельскае (18 чалавек), чашніцкае, бешанковіцкае і дрысенскае духавенства адмовілася прыняць прысланыя кнігі і заявіла пісьмовыя пратэсты. Паколькі большая частка святароў ігнаравала новыя кнігі, а некаторыя і «совсем не умеют читать по книгах московской славянской печати», міністэрства ўнутраных спраў запатрабавала «положить конец беспорядкам». Выконваючы гэта патрабаванне, магілёўскі губернатар зразумеў: «Нет возможности искоренить это злоупотребление без решительной конфискации из униатских церквей старых книг». Беларускай кансісторыі прапанавалі канфіскаваць усе ўніяцкія служэбнікі і іншыя кнігі, «чтобы совсем нигде старых не было». Іх загадалі звозіць у Полацк[9].

Аднак, падчас чарговай рэвізіі аршанскі епіскап Васілій (Лужынскі), наведаўшы 16 цэркваў, ні ў адной не знайшоў пасланых туды маскоўскіх служэбнікаў. Ён пераканаўся, што ўсе святары так і не развіталіся са старадрукамі, а новыя кнігі байкатуюць. З яго слоў, многія з іх тады «дерзко обращались с несуразными заявлениями в Белорусскую консисторию против этих служебников»[10].



Каб прымусіць духавенства падпарадкавацца, В. Лужынскі асабіста рэвізаваў цэрквы і, знаходзячы непарадкі ў дакументах, фінансавых справаздачах, кнігазборах, пагражаў прыходскаму святару адлучэннем ад прыхода, а то і судом кансісторыі. Ён настаўляў іх на розум, што выкарыстаннем старых кніг робіцца злачынства. У такой сітуацыі, як успамінаў сам епіскап, ім нельга было доўга стаяць за унію[11].

Святар Соржыцкай царквы (Сенненскі павет Магілёўскай губерні) новага служэбніка не прыняў. Сваім прыхаджанам ён растлумачыў далёка ідучыя наступствы замены богаслужэбных кніг і заклікаў цвёрда трымацца сваёй веры. З-за гэтага, як небеспадстаўна ацэньваліся настроі ў вёсцы ў сакрэтнай афіцыйнай перапісцы паміж Магілёвам, Вільняй і Пецярбургам, «может родиться в бездумной толпе простолю-

---

8 НГАБ. Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 7815. Арк. 117 ; Lencyk W. The Eastern Catholic Church and Czar Nicholas I. Romae ; New York, 1966. P. 62, 65–66.

9 НГАБ. Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 7815. Арк. 137–137 адв., 147–149, 163 адв., 167–168 адв., 199 адв., 202 адв.–203, 212 адв., 222.

10 РДГА. Ф. 797. Воп. 6. Спр. 23015. Арк. 21 адв.

11 Записки Василия Лужинского, архиепископа полоцкого. Казань, 1885. С. 109, 111, 118, 120, 122–123, 125–126, 147.

динов нарекание, а пры наименшем намеке на изменение их веры — и волнение»[12]. Так яно і здарылася летам 1838 г.

Соржыцкі святар правіў у царкве літургію па старым служэбніку. Пасля службы ўніяцкі благачынны Васютовіч, выконваючы волю начальства, у прысутнасці прыхаджан выразаў з кнігі 48 лістоў, «содержание которых не соответствовало духу восточной церкви». «Это вызвало гомон и уныние в народе».

Сабраўшыся ў храме на наступны дзень, сяляне разглядзелі знявечаны служэбнік і заключылі: «Нас дабру не навучаць». Яны завязалі званы, каб тыя не клікалі вяскоўцаў на набажэнства, зачынілі царкву і забралі ад яе ключы. Пяць дзён духавенства беспаспяхова ўгаворвала адчыніць храм. Калі ў вёску выклікалі паліцыю, сяляне сталі больш згаворлівымі: аддалі земскаму спраўніку ключы, 2 старыя ўніяцкія служэбнікі, а таксама падпісаную 167 чалавекамі просьбу, каб літургію ім служылі па ранейшых кнігах, каб вярнулі вырваныя са служэбніка лісты. 40 дзён працягвалася супрацьстаянне. Вынік быў звычайны: соржыцкіх «бунтаўшчыкоў» аддалі пад суд[13].

Восенню 1838 г. 111 святароў Беларускай епархіі звярнуліся з прашэннем да цара пра захаванне уніі і ўладкаванне друкарняў для выдання ўніяцкіх богаслужэбных кніг. Яны прапаноўвалі самі выдаткаваць грошы на гэтыя патрэбы[14].

Шэраговае духавенства Літоўскай епархіі таксама масава не жадала развітвацца са сваімі кнігамі, таму ў 1834 г. у прыходы паступіў загад: адабраць з цэркваў усе старыя кнігі пачаеўскага, віленскага і супрасльскага друку і выслаць у кансісторыю ў Жыровічы. На неслухаў абрынуліся пакаранні: эпітымія, паніжэнне ў пасадзе. Паліцыі было даручана сачыць, каб папы прытрымліваліся новых кніжак і ад іх не адступалі. Толькі старым святарам, няздольным асвоіць новыя псалтыры і малітоўнікі (некаторыя гэтым прыкрываліся), часова пакінулі ранейшыя кнігі[15].

18 чэрвеня 1839 г. Літоўская кансісторыя выдала пастанову аб зняцці служэбнікаў мінулага друку з ужытку. Іх звозілі ў Жыровічы. Ужо ў жніўні ўзнікла праблема: што з імі рабіць? Вырашылі: спаліць,

12 РДГА. Ф. 797. Воп. 7. Спр. 23410. Арк. 7–7 адв.

13 РДГА. Ф. 797. Воп. 7. Спр. 23410. Арк. 18.

14 Шавельский Г. Последнее воссоединение с православной церковью униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.). СПб., 1910. С. 285.

15 Смалянец А. Да стацьці В–ста «Аб паленьні кніг на Беларусі» // Крывіч. 1924. № 2. С. 32–33.

*Бабкова В.У.*

# Тастаменты (завяшчанні) жыхароў Берасцейшчыны другой паловы XVI стагоддзя



У апошняе дзесяцігоддзе беларускія гісторыкі актыўна выкарыстоўваць тастаменты як унікальную гістарычную крыніцу[1]. Цікавасць да гэтага віду дакументаў існуе і ў супрацоўнікаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі. У аддзеле старажытных актаў

1 Галенчанка Г.Я. «Ложка серебреная сыну моему Василию...» // Шляхам гадоў : гіст.-літ. зб. Мінск, 1990. [Вып. 2]. С. 334—337 ; Сліж Н. Шляхецкія тэстаменты 16—пачатку 18 ст. / Н. Сліж, М. Гардзееў // Гістарычны альманах. Мінск, 2000. Т. 3. С. 90—110 ; Барсукова Н. Тэстамент капітана каралеўскіх драбантаў Юрыя Караля Шэлпаха фон Штэтэнберга // Архіварыус. Мінск, 2001. Вып. 1. С. 71—72 ; Залівака А. Сфальсіфікаваны тэстамент пана Мікалая Канстантынавіча Залівакі // Архіварыус. Мн., 2005. Вып. 3. С. 64—66 ; Бабкова В. Тэстаменты з актавых кніг Менскага гродскага суда XVI—XVII стст. // Архіварыус. Мінск, 2005. Вып. 3. С. 104—119 ; Śliż N. Testament Piotra Kochlewskiego, skdziego ziemskiego brzeskiego z 1649 roku // Zapiski historyczne. T. LXXII. 2007. Zeszyt 1. S. 97—109 ; Корсак В. Публікацыя тэстамента Мікалая Більдзюкевіча, падкаморага парнаўскага // Архіварыус. Мінск, 2008. Вып. 6. С. 59—65 ; Яшчолт Т. Крыштаф Весялоўскі гербу Агеньчык і яго тэстамент / Т. Яшчолт, Г. Рыжэўскі // Архіварыус. Мінск, 2008. Вып. 6. С. 86—109 ; Корсак В. Публікацыя тэстамента Яна Серакоўскага, стольніка гастыньскага // Архіварыус. Мінск, 2009. Вып. 7. С. 39—44 ; Грыб А. Тастамент гарадзенскага мешчаніна Барталамея Галоўчыца 1639 г. як крыніца па гісторыі беларускага мяшчанства / А. Грыб, З. Яцкевіч // Гарадзенскі палімпсест XI—XX стст. Гародня; Беласток 2008. С. 214—220, 334—337; Пазнякоў В. Тэстамент Гальшкі Яўфіміі Радзівіл з князёў Вішнявецкіх (1569—1596) // БАШ. Мінск, 2007. Вып. 8. С. 207—221 ; Бабкова В. Свет пачуццяў і свет рэчаў: шляхецкія тэстаменты другой паловы XVI ст. // HOMO HISTORIKUS. Гадавік антрапалагічнай гісторыі. Вільня, 2008. С. 57—77.

гістарычнага архіва падрыхтаваны і перададзены ў друк зборнік дакументаў «Тастаменты шляхты і мяшчанаў зямель Беларусі др. паловы XVI ст. па матэрыялах актавых кніг НГАБ». Сярод 116 дакументаў зборніка, якія звязаны з рознымі тэрыторыямі ВКЛ, 33 тастаменты напісаныя жыхарамі Берасцейскага ваяводства. Усе яны былі ўпісаныя ў актавыя кнігі Берасцейскіх судоў на працягу амаль 30 гадоў (1568—1597 гг.).

Корпус актавых кніг Берасцейскіх судоў перыяду ВКЛ і РП займае значнае месца ў фондах архіва. Напрыклад, у нашых сховішчах захоўваецца 560 актавых кніг гродскіх і земскіх судоў Берасцейскага ваяводства. На 11 з іх за перыяд XVI ст. складзены ўнутраныя вопісы. Гэта значыць, што змест дадзеных судовых кніг становіцца даступным шырокаму колу даследчыкаў старажытнасці.

Менавіта пры распрацоўцы актавых кніг другой паловы XVI ст. былі выяўлены 40 шляхецкіх тастаментаў (7 з іх значна пашкоджаныя). Сярод іх завяшчанні такіх асобаў як першая жонка канцлера Льва Сапегі Дарота Фірлееўна, берасцейская ваяводзіная Барбара Гаўрылавая Гарнастаевая, князь Манойла Шуйскі, пан Міхайла Багавіцін Казярадскі, маці княжны Соф'і Слуцкай, гомельская старосціная Барбара Сапежыная, астрынскі староста Крыштаф Садоўскі, васількаўскі войт Васіль Здзітавецкі ды шмат іншых.

Некаторыя тастаменты пісаліся тастатарамі ў самім Берасці, некаторыя ў розных маёнтках Берасцейскага ваяводства (Ваўковічах, Кобрыні, Беразоі, Раеўшчыне, Дзягцярне, Пяшчачы, Ількавічах, Церабуні, Босечы, Івачэвічах, Здзітаўцах, Галенчычах, Ботках, Такарах) ды інш. А таксама ў Варшаве, Любліне, Калішы. Пасля чаго тастаменты актыкаваліся ў канцылярыях пэўных судоў ці пераносіліся з кніг аднаго суда ў іншы, пераважна з «гроду ў земства» (г.з. «выпісы»), бо менавіта актыкацыя тастамента ў земскім судзе надавала дакументу права вечнасці. Такім чынам, тастаменты, пра якія ідзе гаворка, актыкаваліся пераважна ў кнігах Берасцейскага земскага суда ці пераносіліся туды з гродскіх кніг (Берасцейскага, Кобрынскага, Луцкага судоў), а таксама з кніг Пяшчацкага магістрата.

Дык у чым асаблівасць і ўнікальнасць гэтых дакументаў? Найперш у тым, што тастаменты належаць да той катэгорыі гістарычных крыніц, у якіх выразна гучыць голас самога чалавека. Нават з улікам стандартнага фармуляра дакумента, памер тэксту ў якім часам залежаў ад аплаты пісару і ўжывання ў ім канцылярскай мовы, у тастаменце магчыма разглядзець асобу аўтара, яго індывідуальныя рысы,

часам ягоныя эмоцыі. Некаторыя даследчыкі справядліва адносяць тэксты тастаментаў да пэўнага літаратурнага жанру і прапаноўваюць разглядаць іх як факт гісторыі культуры[2].

Тастаменты захоўваліся ў сем'ях разам з іншымі важнымі маёмаснымі дакументамі, што дазваляла нашчадкам карыстацца імі на працягу жыцця наступных пакаленняў. Адной з галоўных мэтаў напісання тастаментаў было распараджэнне асабістай маёмасцю на выпадак смерці іх складальнікаў. Каб забяспечыць спакой паміж сваякамі і тым самым як бы працягнуць сваё існаванне на зямлі праз рэчы і нерухомасць, пакінутыя нашчадкам. Як сведчаць дакументы, тастамент складаўся заўсёды «*по доброй воли; з доброй памятью а з достаточным а сталым розмышленнем; ни з чыего прымушення, намовы и парады*», а толькі каб «*у неведомости не змер; абы маетность марне вниевеч оборачона не была*»[3].

У другой палове XVI ст. тастаменты ў крыніцах называліся па-рознаму: «*тастамент*», «*дастамент*», «*дэстамент*», «*тэстамент*», *і зрэдку «духовница»*. Жыхары Берасцейшчыны найчасцей ужывалі тэрмін «тэстамент», зямянін Іван Касцюшкавіч Барсоба акт сваёй апошняй волі назваў «дестаментам»[4].

Аўтарамі 19 шляхецкіх тастаментаў жыхароў Берасцейшчыны былі мужчыны, 14 — жанчыны. Пераважная большасць тастатараў сыходзілі з гэтага свету ў выніку «*обложной хворобы*», значная частка — у сталым узросце; будучы ўжо ўдовамі і ўдаўцамі, маючы па чацвёра-шасцёра дзяцей, два шляхцічы — у выніку гвалтоўнага нападу ці то двубою. Пані Аксіння Цяляціцкая склала тастамент падчас цяжарнасці («*будучы обвезана плодом*»)[5]. А маладзенькая панна Ганна Грыгораўна Мажэйкаўна Каранеўская не мела яшчэ нават сваёй пячаткі, каб зацвердзіць свой тастамент, дый прасіла «*о приложене печатеи людеи добрых земян воеводства Берестейского*»[6].

Сустракаюцца тастаменты, напісаныя абачліва загадзя, без прычынаў, звязаных са стратай здароўя, верагодна, з разуменнем небяспечнасці і хуткаплыннасці жыцця, раптоўнасці прыходу «*злодея панского*» — смерці, якая, паводле слоў зямяніна Менскага ваяводы Фёдара Плашчынскага (1641 г.), «*...заўсёды за намі як злодзей ходзіць, спакваля дом*

2 Арьес Ф. Человек перед лицом смерти. М., 1992. С. 14.
3 Тут і далей цытаты прыводзяцца з апублікаваных у зборніку дакументаў.
4 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 278—280.
5 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 216.
6 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 1348.

*мізэрнага цела нашага подкопвае і разбурае, і яго з маёмасцю, то бок з душой нашай разлучае»*[7].

Тастамент даслоўна ўпісваўся ў судовыя кнігі пасля смерці яго аўтара на мове арыгінальнага дакумента. Запіс тастамента з'яўляўся гарантам яго юрыдычнага зацверджання, а таксама страхавым варыянтам на выпадак страты арыгіналу.

Пасля ўпісання тэксту тастамента ў актавую кнігу зацікаўленыя асобы мелі магчымасць узяць адтуль выпіс з копіяй занатаванага дакумента. Выпісы (vidymusy) тастаментаў другой паловы XVI ст. браліся ў судовых канцылярыях нават у XIX ст., пра што сведчаць пазнейшыя паметкі на палях дакументаў.

З'яўляючыся прыватна-прававым дакументам, тастамент, безумоўна быў таксама актам рэлігійным, які здаўна ўкараняўся царквой і меў распаўсюджанне нават сярод самых незаможных. Пісалі тастаменты і сяляне, аднак мне пакуль што не давялося сустрэць такі дакумент у фондах нашага архіва.

Сведчаннем канфесійнай прыналежнасці ў тастаментах найчасцей выступае тая частка тэксту, дзе гаворка ідзе пра распараджэнні, якія стасуюцца «душы і цела». Тут агаворвалася месца апошняга спачыну ў звязку з хрысціянскай святыняй: царквой або касцёлам. Сведчаннем магла таксама выступаць згадка прысутнасці сярод сведкаў тастамента святара пэўнай царквы, ксяндза або плябана.



Паводле веравызнання выяўленыя тастаменты падзяляюцца наступным чынам: праваслаўных — 12, католікаў — 8, 13 тастаментаў зборніка маюць нявызначаную рэлігійную прыналежнасць з просьбай пахаваць «*водлуг обычаю хрестианского*». У некаторых тастаментах запісаная просьба хаваць «*без помпы паганскае*», каб «*цела доўга не лежала*», «*без порожное утраты и накладов*», «*без жадных церемоний светских*», каб «*елмужная гайная убогим была дана*».

Большасць тастатараў выбралі месцам свайго апошняга спачыну цэрквы: у Кобрыні, Рэчыцы, маёнтку Расна, перад царквой Волмаўскай, Кругельскай, Такароўскай. Таксама касцёлы: Цеханавецкі, Церабуньскі, Боткаўскі, «*костелак Садовски*» ды іншыя. Увогуле, жаданне быць пахаваным побач з рэліквіямі святых і храмаў з'яўляецца выразнай рысай хрысціянскай цывілізацыі[8].

---

7 НГАБ. Ф. 1727. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 195—196 адв.

8 Арьес Ф. Человек перед лицом смерти. М., 1992. С. 69.

Часта гучала просьба тастатараў быць пахаванымі побач з продкамі і сямейнікамі («*...подле родичов звычаем хрестиянским*», «*на радзіме мужа, у склепе яго бацькоў*», «*на грунце моем на горе где дочка Марухна*», «*во имению отчизном.. у гробе отцов*», «*где предки мои лежат*»).

Згадваюцца таксама і іншыя месцы пахавання: гэтак зямянін Берасцейскага ваяводства Аляксандр Тхарніцкі прасіў свайго айчыма пахаваць яго «*на горцы недалеко Демешовщизны и над могилою ..зрубом учинившы, мает побить драничками*»[9], Пан Ян Лазавіцкі завяшчаў пахаваць яго звычаем хрысціянскім «*на полю властном под грушаю, подле дороги, которая идет с Кобрыня до Городца и ниде индей*»[10].

Амаль не сустракаецца ў разгледжаных дакументах просьбаў аб чыненні памінальных набажэнстваў, а таксама інфармацыі пра ахвяраванні і дарэнні на карысць храмаў, што вылучае іх ад аналагічных тастаментаў ранейшага і пазнейшага часу.

Будучы першапачаткова рэлігійным актам, навязаным царквой, тастамент на мяжы Новага часу ўсё больш рабіўся актам дабраахвотным, які сведчыў пра розныя моманты індывідуальнай гісторыі чалавека. Пра стан ягонай заможнасці, склад сям'і, адносіны ў межах сям'і, стан здароўя, ступень адукаванасці. А таксама сведчыў пра тое, што было ўласціва ўсім аўтарам сваёй апошняй волі: адказнасць за лёс сям'і, права самому распарадзіцца сваёй маёмасцю, сваім целам і сваёй душой.

Тэкст тастамента можна ўмоўна падзяліць па змесце на дзве часткі: духоўную і матэрыяльную. Першая звязана з праявамі ўласна канфесійнымі, развагамі пра хуткаплыннасць і нетрываласць гэтага свету, непазбежнасць надыходу смерці і важнасць памяці, якую захоўвае пісьмо, пра выбар месца апошняга прытулку. Другая частка ўтрымлівае інфармацыю пра рухомую і нерухомую маёмасць, яе падзел паміж сваякамі, размеркаванне грошай, вяртанне пазык. Абедзве гэтыя часткі месцяцца ў адмысловых раздзелах фармуляра — дыспазіцыі і нарацыі, парадак якіх заставаўся традыцыйным і непарушным практычна з часоў Антычнасці да XVIII ст.

Калі мы гаворым пра тэкст тастамента як узор літаратуры, то маем на ўвазе, што менавіта ў гэтым прыватна-натарыяльным дакуменце, які звыкла ўпісваўся ў канцылярскія кнігі, можна сустрэць цэлыя абзацы развагаў, якія чалавек лічыў неабходным пакінуць на паперы, развітваючыся з гэтым светам, будучы на «божай дарозе» і разумеючы,

9 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 703.
10 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 4. Арк. 396.

што «*памяць чалавечая вельмі кароткая, калі б пісьмом падпірана не была*». Гэтыя развагі сведчаць на карысць глыбокага ўсведамлення важнасці падзеі, якая мусіла непазбежна адбыцца. Нават калі меркаваць, што частка тэкстаў пісалася пісарам па прынятым шаблоне, змест развагаў агулам сведчыць пра высокі ўзровень тагачаснага мыслення.

Свет, які чалавек быў вымушаны пакідаць, вызнаецца як — «мізэрны», «аблудны», «нерозны», «нендзны», гэта значыць няпэўны, прывідны, недаўгавечны, пакутны… Развагі пра марнасць і мізэрнасць, пра неабходнасцы пачуцця пагарды да гэтага свету адпавядалі даўняй традыцыі, зафіксаванай яшчэ ў сярэдневечнай літаратуры, яны дажылі да часоў Асветніцтва[11].

Але адначасна ў апошнім прыжыццёвым дакуменце згадваюцца «раскошы і радасці» гэтага свету, «верная міласць», «зычлівасць» ды «дабрадзействы», звыклыя ў свеце людзей. Апроч таго, трывалай была вера ў хуткае «змёртвыхустанне», калі справядлівы Бог-Суддзя на Страшным Судзе «*косці збудзіўшы*» верне памерлага да новага жыцця. Шмат хто быў перакананы, што ўваскрэснуць толькі тыя, хто быў пахаваны прыстойным чынам і магілы якіх не будуць патурбаваныя. Французскі гісторык Філіп Ар'ес лічыць, што ў людзей пачатку Новага часу існаваў культ магіл, цесна звязаны з верай ва ўваскрашэнне[12].



У тэкстах тастаментаў развагі пра непазбежнасць прыходу смерці гучаць наступным чынам: «*..ижъ што кольвекъ живо родится, то умерети мусить, а до кресу замероного прудко бежить…*» — напісаў пан Іван Бялеўскі ў 1568 г. у маёнтку Ваўковічы[13]; «*...не ведаючи певного часу, которого Пан Бог на мене час смертный послати маетъ… прото не хотечи в том сумненя и души своее затрудняти перед маестатом Божим, абы по смерти моей жона и дети мои не нарекали…*» — пісаў зямянін Берасцейскага ваяводства Касцюк Барсобіч у Беразоі[14].

Зямянка Ганна Стакорская пакінула наступныя словы, запісаныя ў Берасці ў 1579 г.: «*Кгды ж вси речы на свете с часом с памети людское сплывают а в забытье приходят, прото бачные люде, такъ у добром здоровъю, яко и с часом хоробы звыкли то писмом обваровывати,*

11 Арьес Ф. Человек перед лицом смерти. М., 1992. С. 125. На Беларусі найбольш вядомая «танатаічная» кніга выйшла ў другой палове XVIII ст. — гэта было ананімна выдадзенае сачыненне іезуіта Юзэфа Бакі «Разважанні пра смерць, непазбежную для ўсіх» (Вільня, 1788).

12 Там жа. С. 61.

13 НГАБ. Ф. 1705. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 12.

14 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 183.

*абы по их жывотех, хто зь якою волею з сего света одходит, объяснено было»*[15]. Гэта «фармулярная» сентэнцыя выкарыстоўвалася і ў іншых дакументах. Адзін з больш ранніх яе варыянтаў быў ужыты на пачатку прывілея Жыгімонта Аўгуста аб зраўнанні ў правах літоўскай і рускай праваслаўнай шляхты са шляхтай каталіцкай, дадзенага на віленскім сойме 7 чэрвеня 1563 г.: «*Гдыжъ вси справы съ часомъ съ памяти людское сплываютъ и въ забытье приходятъ, а для того есть вынайдено, абы письмомъ объяснены были, къ ведомости потомъ будучим*»[16].

Тым часам астрынскі староста Крыштаф Садоўскі ў сваім маёнтку Сялец разважаў такім чынам: «*Иж на томъ облудномъ свете не маемо ничого певнеишого над смерть, которая дедичънымъ правомъ на сыны Адамовы для проступъства его пришла, а иж тежъ, яко нас Збавитель наш перестерегает, не ведаемо часу ани години*»[17].

Паводле слоў французскага гісторыка Філіпа Ар'еса, смерць з'яўляецца эталонам, індыкатарам характару цывілізацыі. Ва ўспрыманні смерці праяўляюцца таямніцы чалавечай асобы[18].

Распісваючы маёмасць паміж сваякамі, тастатар найперш жадаў пазбавіць сямейнікаў у будучым «нязгоды», «пасвары», «шарпаніны», «вархолу», «бурды», «спору», «зайстя», «трудносці», «ненавісці», «клопоту», «розруху», «фрасунку», «замяшання», якія былі частымі праявамі паміж сваякамі пры падзеле маёмасці. Вялізная колькасць тагачасных словаў, якія выражалі стан нязгоды, сведчыць пра існаванне такой праблемы ў грамадстве. Тастатары ж імкнуліся пакінуць па сваім сыходзе ў сям'і «міласць і згоду».

Нерухомасцю найперш надзялялася жонка і дзеці з забаронай іншым сваякам чыніць ім крыўды і «перsucceedingказы». Асабліва ад сваякоў баранілася будучая ўдава. Тастатар надзяляў сваю жонку маёмасцю, «*отдаляючы от того всих близкіх, кревных и повиноватых мужского и женского стану*». Пасля смерці жонкі нерухомасць у некаторых выпадках пераходзіла дзецям. Звычайна маёнтак дзяліўся паміж сынамі на роўныя часткі. Сыны павінны былі клапаціцца па смерці бацькі пра вена сваім сёстрам. Часам дзеці ад першага шлюбу рабіліся апекунамі другой жонкі і яе дзяцей.

Рухомыя рэчы пералічаліся ў некаторых тастаментах падрабязна, а часам згадваліся даволі сцісла. Умоўны рэестр рухомасці, завешча-

15 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 29 адв.

16 Акты, относящиеся к истории Западной России. Т. 3. СПб., 1848. С. 118.

17 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 63. Арк. 180 адв.

18 Арьес Ф. Человек перед лицом смерти. М., 1992. С. 6.

най нашчадкам, сапраўды стварае каштоўную карціну тагачаснага побыту: тузіны срэбных лыжак, кубкі гладкія, кубкі на ножках, кубкі «келіхаватыя», каўшы, цынкавыя талеркі, місы, конвы, кварты, фляшы, кацялкі, медзяныя панвы і іншае начынне, шаблі, апраўленыя срэбрам, мячы, корды, мультаны, ручніцы, а таксама гарматы, гакаўніцы, бляхавыя панцыры, шышакі... Велізарная размаітая колькасць жаночага адзення: перловыя тканіцы (галаўныя ўборы), ядвабныя чапцы, калпакі, аксамітныя паясы з срэбнымі спражкамі, лісы, куны, бабровыя футры, размаітыя сукенкі, белыя хусты, а таксама пасцель, пярыны верхнія і споднія, пуховыя падушкі, кілімы вялікія да сцен, кілімы нідэрланскія і турэцкія...

Выключным па колькасці пералічаных упрыгожанняў, жаночага гардэробу, іншай рухомай маёмасці з'яўляецца тастамент жонкі Льва Сапегі Дароты Ферлеевай. Уражвае колькасць гатункаў тканін, палітра колераў размаітых убораў, кляйнотаў, начыння[19].

Больш сціслы ў пераліку маёмасці акт апошняй волі гомельскай старосціны Барбары Мікалаеўны Сапежынай, былой жонкі Юрыя Юравіча Алелькавіча, князя Слуцкага, маці апошняй з роду Алелькавічаў княгіні Соф'і Слуцкай. Узяўшы другі шлюб пасля смерці мужа з гомельскім старостам Андрэям Сапегам, кабета ўсю сваю маёмасць па смерці пакінула выключна яму аднаму, пазбавіўшы спадчыны (дакладна агаварыўшы гэта ў тастаменце) сваю 11-гадовую дачку, маці, сястру і брата[20].



Усе тастаменты зямянаў Берасцейскага ваяводства, незалежна ад месца напісання, актыкаваліся ў Берасці, чатыры ж былі напісаныя непасрэдна ў самім горадзе. Гэта тастаменты зямянкі Ганны Стакорскай, пана Міхайлы Багавіціна Казярадскага, зямяніна Адама Зглічынскага ды берасцейскага мешчаніна Марціна Сарокі. Апроч рознай інфармацыі, якую ўвогуле ўтрымліваюць тастаменты, мы знаходзім у іх ускосныя звесткі пра сам горад, пра яго тагачасных жыхароў.

Пані Ганна Стакорская, застаўшыся ўдавой і не маючы гатовых грошай, валодала нерухомасцю ў Берасці, якую і завяшчала нашчадкам, а менавіта: агарод на Лозках з садком Касцюкоўскім і дзве крамніцы, у якіх сядзелі жыдове берасцейскія Машэевая Ліпчыная з сынам; пляц за Мухаўцом, які трымаў у арэндзе Іван Стаціўка.., «*огороды два за Мухавцом, врочищом на Осинкахъ, сеножать на Головску, там же за Мухав-*

19 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 6—13.
20 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 63. Арк. 342 адв.—345 адв.

*цом, а другая Вариводинская за Бугом, ... пляц на Гнилой улицы, на Песках, а другий там же на Песках, противъ церкви Светого Михайла»*[21].

Пан Міхайла Багавіцін Казярадскі пісаў свой тастамент перад выправай «*до чужое зямли до Немец*» у Цепліцы для «*поратованя*» свайго здароў'я. Апроч безлічы маёмасці ў Берасцейскім павеце ды на Валыні, у самім Берасці меў двор на прадмесці «*врочыщам На Песках*» з дзвюма сенажацямі за Бугам «*до Люблина з места Берестья едучы, по левой стороне за Болотковом*»[22].

Берасцейскі мешчанін Марцін Сарока пісаў тастамент ва ўласным доме на вуліцы Плябанскай, куды да яго прыйшлі члены берасцейскага магістрата. А таксама меў два дамы ў Берасці, рэзніцкую лаўку, клетку з таварам і безліч даўжнікоў-берасцейцаў, прозвішча якіх пералічыў у дакуменце: Адама, лазебніка, Захара, жыда-гарадняніна, Рамана Гуру, Івашку каваля, Каліха каваля, Хільку кушнера, Барташа рэзніка, ды іншых[23].

Зямянін Берасцейскага ваяводства Адам Зглічынскі не быў жыхаром Берасця, але быў смяротна паранены ў горадзе слугой пана Міхайла Багавіціна Казярадскага Шчасным Слабкоўскім і яго жонкай Барбарай, і таму акт сваёй апошняй волі пісаў менавіта тут. Здарылася зраненне падчас земскіх рокаў (пасяджэнняў земскага суда) і праз вознага Берасцейскага ваяводства пана Грабоўскага ў прысутнасці сведкаў тастамент быў перададзены ў судовую канцылярыю[24].

Згадваюцца ў тастаментах назвы вуліц і ў некаторых іншых населеных пунктах. Напрыклад, у Дзягцярні, дзе пісала сваю апошнюю волю пані Аўдоцця Ленкавая: вуліцы Перкаўская («*з улицы Перковское*»), Парабацкая («*з улицы Паробоцкое*»), Патрыкаўская («*з улицы Патриковское*»), дзе жылі яе даўжнікі[25].

У месце Пяшчача (Пяшчатка) напрыканцы XVI ст. былі вуліцы Лукаўская, Дамброўская, млын на рацэ Галублі, уездны дом з двума пляцамі, мост над месцкім ставам, Пятніцкая царква[26].

Актавыя матэрыялы Берасцейскіх судоў утрымліваюць багатую інфармацыю пра аўтараў актаў апошняй волі, пра абставіны іх жыцця і смерці. Гэтак, у фондзе «Берасцейскі гродскі суд», дзе быў зафіксаваны

21 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 30 адв., 31.
22 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 185 адв.
23 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 5. Арк. 215—216.
24 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 402—402 адв.
25 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 95 адв.—97.
26 НГАБ. Ф. 1741. Воп. 1. Спр. 3. Арк. 155 адв.—157.

тастамент пана Івана Бялеўскага, заактыкаваныя сазнанне і квіт вознага пра абвяшчэнне тастаменту і ліквідацыю сыгнету нябожчыка пад час яго пахавання[27].

Кожны са згаданых тастаментаў у арыгінале меў ад 4 да 6 прыціснутых пячатак, а таксама ўласнаручных подпісаў прадстаўнікоў урада, прыяцеляў-сведкаў, часам святара, самаго тастатара. Аднак тастаменты-арыгіналы — даволі рэдкія дакументы. Мы ж маем справу менавіта з актыкацыяй тастаментаў у судовых кнігах таго самага часу, што дазваляе ўявіць маштаб распаўсюджвання гэтай традыцыі на тэрыторыі ВКЛ напрыканцы XVI ст. Гэта сведчаць пра існаванне на нашых землях даўняй культуры напісання тастаментаў, страчанай у пазнейшыя часы ў выніку розных палітычных трансфармацый найноўшага часу.

Захавальнікам і прадаўжальнікам традыцыі напісання тастаментаў з'яўлялася пануючае шляхецкае саслоўе. Тарадыцыі, якая апроч іншага сведчыла пра трываласць сямейных повязяў.

Будучы ўнікальнай па інфарматыўнасці гістарычнай крыніцай эканамічнага і рэлігійнага характару, тастаменты прадстаўляюць даследчыкам таксама матэрыял для вывучэння гісторыі ментальнасцяў, генеалогіі, дэмаграфіі, мовазнаўства, гісторыі права, штодзённасці. А ў больш шырокім кантэксце набываюць значэнне гісторыка-культурнай з'явы.



27 НГАБ. Ф. 1705. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 7 адв.—8.

*Walecki W.*

# W oczekiwaniu na jubileusz Biblii Brzeskiej



Mówi się po polsku, że nie należy wozić drewna do lasu, a po rosyjsku, że nie wozi się samowara do Tuły, co jest oczywiście reminiscencją starożytnej greckiej mądrości, iż nie należy przywozić sowy do Aten, choć bezpośrednie źródło polskiego powiedzenia jest u Horacego:

> In silvam non ligna feras insanius ac si
> Magnas Graecorum malis inplere catervas.
> *Satirae*, lib. 1 poem. 10 v. 34-35

po polsku:

> Jak do lasu drwa nosić, szaleństwu się równa
> Bogactwo greckich wierszy ubóstwem pomnażać.
> przeł. Stefan Gołębiowski.

Sądzę jednak, iż okoliczności dziejowe, dawne i nowe, zezwalają, a nawet zmuszają, by tu, w Brześciu, nie podporządkować się tej pradawnej dyrektywie naszych przodków i powiedzieć parę słów o randze i niewątpliwym wybitnym charakterze tego zabytku, jaki stanowi kalwiński przekład Pisma św. na język polski z 1563 roku, czyli tzw. Biblia Brzeska albo Radziwiłłowska w dziejach europejskiej myśli teologicznej, wyrosłej na podłożu naszych dyskusyj konfesyjnych w XVI wieku, w kontekście kultury polskiej, języka polskiego i ogólnie polemik religijnych tamtych czasów. Sprawa jest zatem o

tyle uzasadniona, że oto stoimy w przededniu 450-ej rocznicy tego istotnego wydarzenia, jakim było opublikowanie owego nie-katolickiego przekładu Pisma św., że ilość zachowanych egzemplarzy oryginału spadła po drugiej wojnie światowej radykalnie, że nawet tu, w miejscu jej narodzin (czyli druku jednego z najważniejszych zabytków piśmienniczych kultury staropolskiej) nie ma tego cimelium (proszę popatrzeć na parę zdjęć kopii jednego z egzemplarzy), a na ostatniej aukcji antykwarycznej w Krakowie przed kilkoma tygodniami zabytek, starodruk, sprzedany został za 92'000 zł (ok. 30'000 USD). To są również okoliczności, które leżą u podłoża planowanej przeze mnie w Krakowie na jesień 2013 roku konferencji naukowej poświęconej temu pomnikowi kultury polskiej i języka polskiego. Rozpatrzymy piękno jego języka i tajniki nieocenionych komentarzy na marginesach, które pozwolą lepiej zrozumieć trud translatorów.

Cóż więc jest w nim takiego, że mimo tak sędziwego jego wieku (piętnaście pokoleń go czytało) patrzymy współcześnie nań z nieukrywanym podziwem nie tylko z powodu jego szacowności, lecz (szczególnie!) z powodu jego przystawalności do dzisiejszej mentalności, do tego, że jego język jest dla nas ze wszech miar zrozumiały, że czytamy go właściwie bez zbędnego komentarza semantycznego, że rozumiemy ten język, że słowa tłumacza (tłumaczów) mają własność ponadczasową, że przez to odbieramy dzieło jako przejaw nie wypowiedzi archaicznej, lecz sformułowań nam wewnętrznie najbliższych, czyli widzimy w tym szczególnym przekładzie Pisma św., choć tak dawnym, nie nakaz nam narzucony, lecz głęboką naszą własną myśl, własną identyfikację (jeśli oczywiście jesteśmy wierzący). I wcale nie ma tu znaczenia kalwińska konfesyjność tego tekstu: on jest, jak wspomniano, ponadczasowy i w naszej rozmowie z Bogiem ponadwyznaniowy, a w odniesieniu do Starego Testamentu może nawet i ponadchrześcijański.



Biblia Brzeska nie jest oczywiście ani pierwszym ani jedynym polskim przekładem całości Pisma św. powstałym w XVI wieku. Poprzedziła ją wersja katolicka, tzw. Biblia Leopolity (czyli Lwowianina Jana Nicza, 1561), a po niej nastąpiła tzw. Biblia Nieświeska (Szymona Budnego, 1572) wreszcie również kompletna katolicka tzw. Biblia Wujka (ostatecznie 1599). Biblia Brzeska ma jednak tę przewagę, że już w XVI wieku była wielokrotnie przedrukowywana (ponownie w 1563 roku i następnie w 1568, oba w Nieświeżu, w roku 1566 znowu w Brześciu, w roku 1565 w Toruniu, w 1593 roku w Wilnie, wreszcie w roku 1599 w Norymberdze), co świadczy o jej popularności, a więc przystawalności do oczekiwań, właśnie poprzez wspaniały, zrozumiały, przemawiający język. W dalszym ciągu tego wystąpienia powiem o języku Biblii Brzeskiej konkretnie na przykładzie jednego z psalmów, dlatego może

warto w tym miejscu wskazać, że i ta księga Starego Testamentu — Psałterz cieszyła się wśród szesnastowiecznych translatorów w Polsce szczególnym uprzywilejowaniem. Psalmy Dawidowe były przekładane prozą i poetycko przez całe stulecie coraz to na nowo w liczbie przekraczającej kilkanaście wersji, żeby wspomnieć tylko (poza wymienionymi opracowaniami w ramach całości Pisma św.) prace bezimiennego twórcy w tzw. Psałterzu Krakowskim (1532), Walentego Wróbla (1539), Mikołaja Reja (1546), bezimiennego translatora (1558), Jakuba Lubelczyka (1558), Jana Kochanowskiego (1579), Pawła Milejewskiego (1587). Posłużę sie także nowoczesnymi przekładami: Biblii Tysiąclecia, translacji Czesława Miłosza, tzw. Biblii św. Pawła. Bo, jak pisała swego czasu prof. Ewa Ostrowska, ówczesna walka o «piękne słowo psałterzowe» to wielka sprawa.

*

Psalm 129/130 jest tekstem szczególnie przejmującym, często traktowanym jako tekst modlitwy, zwłaszcza modlitwy umierającego (znam takie konkretne przypadki z czasów nam współczesnych), dlatego ekspresja tego tekstu, zarówno łacińskiej Wulgaty jak i wersji polskojęzycznej jest tu szczególnie przejmująca. Popatrzmy zatem najpierw na wersję wulgatową jako swego rodzaju dla nas dzisiaj uchodzącą za kanoniczną:

**129**

canticum graduum de profundis clamavi ad te Domine

Domine exaudi vocem meam fiant aures tuae intendentes ad vocem deprecationis meae

si iniquitates observabis Domine Domine quis sustinebit

quia tecum est propitiatio cum terribilis sis sustinui Dominum sustinuit anima mea et verbum eius expectavi

anima mea ad Dominum

a vigilia matutina usque ad vigiliam matutinam expectet Israhel Dominum

quia apud Dominum misericordia et multa apud eum redemptio

et ipse redimet Israhel ex omnibus iniquitatibus eius

A oto reprodukcja ze starodruku Biblii Brzeskiej:



błogosławiemy wam w imię Pań-
skie.

Psalm. 130.

1. Chutliwa modlitwa człowieka vciśnionego grzechy swemi/ Ktorych prosi o opuszczenia y wyodawienia 5. Abowiem vfa w dobrotliwości y w obietnicach Bożych. 6. Skąd wierni służą iemu z ochotą.

Pieśń Maahaloth.

1. O Panie wołam ku tobie z glębokości.
2. Wysłuchayże Pánie głosu moiego/ á nákłoń vszu twoich ku głosowi prośby moiey.
3. O Pánie/ iesliż będziesz miał ná pieczy złości y/ ktoż sie ostoi Pánie?
4. Abowiemći iest v ciebie odpuszczenie/ á przetoż sie ciebie boią.
5. Oczekawałem Paná/ á oczekawáłá go duszá má/ á w słowie ie[illegible] vfałem.
6. Duszá moiá oczekawáłá Páná pilniey niż straż ná świtániu/ á wie

Брэсцкая Біблія. 1563 г. Старонка з пачаткам Псалма 130.

I transkrypcja:

^A To jest, z wielkie-
go niebezpieczeń-
stwa.

**Psalm 130**

1. Chutliwa[1] modlitwa człowieka uciśnionego grzechy swemi, ktorych prosi odpuszczenia i wybawienia. 5. Abowiem ufa w dobrotliwości i w obietnicach Bożych. 6. Skąd wierni służą jemu z ochotą.

1. PIEŚŃ ADAHALOTH[2].
O Panie, wołam
ku tobie z^A głębo-
kości.
2. Wysłuchajże Pa-
nie głosu mojego,
a nakłoń uszu two-
ich ku głosowi prośby mojej.
3. O Panie, jeśli będziesz miał na
pieczy złości i, ktoż się ostoi Panie?
4. Abowiemci jest u ciebie odpusz-
czenie, a przetoż się ciebie boją.
5. Oczekawałem Pana, a oczekawała
go dusza ma, a w słowie je° ufałem.
6. Dusza moja oczekawała Pana
pilniej niż straż na świtaniu, a wię-
cej niźli straż z zaranka.
7. Niechajżeć Izrael oczekawa Pa-
na, abowiemci u niego jest miłosier-
dzie, a obfite odkupienie.
8. Onci sam odkupi Izraela ze w-
szytkich nieprawości jego.

Ta niewątpliwie natchniona szesnastowieczna polszczyzna w modlitwie tej brzmi prosto, ale jednocześnie pięknie, niepospolicie. Nieznany nam z

1 Żarliwa
2 Pieśń (modlitwa) wstępowania (stopni), podczas zbliżania się pielgrzymów do schodów Świątyni (Psalmy 120—134)

imienia i nazwiska tłumacz Biblii Brzeskiej posłużył się tutaj językiem prozy artystycznej starannie dobranym. Trudne miejsce wersetu 6 rozwiązał po mistrzowsku:

*Dusza moja oczekawała Pana pilniej niż straż na świtaniu,*
*a więcej niźli straż z zaranka.*

Wulgata:
*a vigilia matutina usque ad vigiliam matutinam expectet Israhel Dominum*

Prozatorski przekład poety, Czesława Miłosza, idzie tu zdecydowanie w kierunku właśnie wypowiedzi poetyckiej i odchodzi od ducha oryginału, posługując się swego rodzaju prozatorskim refrenem:

*Dusza moja czeka na Pana bardziej niż nocne straże na przyjście poranka, niż nocne straże na przyjście poranka.*

Tak samo postąpiono w Biblii Tysiąclecia, powtarzając dwukrotnie *bardziej niż strażnicy świtu.*

Najnowsze tłumaczenie tego miejsca w tzw. edycji św. Pawła najbardziej odbiega, wydaje się, od ducha oryginału, przypisując w sensie logicznym drugą część tego wersetu do kolejnego:



*Wyczekuję Pana bardziej niż straże poranka.*
*[7]Bardziej niż straże poranka· niech Izrael oczekuje Pana.*

To jedynie kilka przykładów, w świetle których brzeskie
*Dusza moja oczekawała Pana pilniej niż straż na świtaniu, a więcej niźli straż z zaranka*

wydaje sie najtrafniejszym ujęciem, bowiem nie ma wątpliwości, że chodzi o straże oczekujące poranka i straże od poranka oczekujące nowego poranka.

Albo inne miejsce z wersetu 5.: *w słowie jego ufałem*, czyli *ufałem jego słowu*, czyli *wierzyłem jego słowu* — to przecież z punktu widzenia prozy artystycznej wcale nie to samo, co Miłoszowe *czekam na jego słowo*, albo *oczekuję na twe słowo* (Biblia Tysiąclecia). Trafnie natomiast w edycji św. Pawła:
*pokładam nadzieję w jego słowie.*

Dalej:
*a nakłoń uszu twoich ku głosowi prośby mojej.*

Jakże nie-modlitewnie brzmi wobec tych słów sformułowanie z Biblii Tysiąclecia:

*nakłoń swoich uszu ku głośnemu mojemu błaganiu.*

I tak dalej, i tak dalej...

I jeszcze problem najtrudniejszy: werset 1. W Brzeskiej:

*O Panie, wołam ku tobie z głębokości.*

Werset ten, Mimaamakim keraticha — dosłownie przekazuje myśl: Z głębin (pluralis) wołałem (a właściwie: wołam) do Ciebie. Bowiem forma czasownika keraticha to złożenie perfectum z odpowiednim sufiksem . Ale w biblijnej hebrajszczyźnie przy dodawaniu cząstek do rdzenia, aby stworzyć nową formę, nie mówimy o czasach w łacińskim rozumieniu: czas teraźniejszy, czas przeszły, czas przyszły, a bardziej o aspekcie dokonanym dla perfectum i niedokonanym dla imperfectum. Tutaj mamy jakby perfectum, ale co ważniejsze, formę dokonaną, zatem w pełni uzasadniającą zrozumienie tekstu jako dzisiejsze praesens. Stosowanie w Wulgacie i w innych przekładach formy imperfectum nie odpowiada duchowi przekazu hebrajskiego, bowiem kieruje naszą myśl w stronę czynności niedokonanej, podczas gdy mamy do czynienia z pseudo-perfectum, czyli, co najważniejsze, z czynnością dokonaną, oddaną dobrze przez polski czas teraźniejszy: «wołam» — właśnie tak jak w Biblii Brzeskiej, która tym drobiazgiem, tą dogłębną znajomością hebrajszczyzny bije na głowę wszystkie inne tłumaczenia, z Wulgatą włącznie.

Ale starczy chyba tych przykładów, by powiedzieć jedno: tekst tego psalmu w wersji Biblii Brzeskiej ma zalety zarówno wierności oryginałowi jak i polszczyzny pięknej, delikatnej, miękkiej, modlitewnej, czyli po prostu natchnionej. Dlatego przetrwał te piętnaście pokoleń i dalej jest piękny, dlatego sięgają do niego różne konfesje, bo znajdują w nim to, co najważniejsze: ducha wiary, Boga, tak jak w Kochanowskiego parafrazie psalmów z muzyką Mikołaja Gomółki, które śpiewa do dziś, uważając je za swoją poetycką modlitwę ku glorii Stwórcy wiele wyznań w Polsce (a może i nie tylko w Polsce, lecz wszędzie tam, gdzie się chwali Pana po polsku).

*Валецкі В.*

# У чаканні юбілею Брэсцкай Біблii

Гаворацьпа-польску, што не варта насіць дровы ў лес, а па-руску — не трэба ехаць у Тулу са сваім самаварам, што відавочна ёсць рэмінісцэнцыяй старажытнай грэцкай мудрасці — не варта прывозіць у Афіны саву.

Мяркую, аднак, што даўнія і новыя гістарычныя акалічнасці дазваляюць і нават змушаюць каб тут, у Брэсце, не падпарадкоўвацца гэтай праўдзівай дырэктыве нашых продкаў і сказаць некалькі слоў пра ранг і несумненна выдатны характар таго помніка 1563 г., якім з'яўляецца кальвінскі пераклад Св. Пісьма на польскую мову, так званую Брэсцкую ці Радзівілаўскую Біблію, якая вырасла як феномен еўрапейскай тэалагічнай думкі на фоне нашых канфесійных дыскусій XVI-га стагоддзя і ў кантэксце польскай культуры, мовы і рэлігійнай палемікі тых часоў.



Мы знаходзімся напярэдадні 450-й гадавіны тае істотнае падзеі, якой было апублікаванне гэтага не-каталіцкага перакладу Св. Пісьма, колькасць захаваных экзэмпляраў арыгіналу якога зменшылася пасля Другой Сусветнай вайны радыкальна, і нават тут, у горадзе яго нараджэння (друкавання) няма гэтага рарытэту, а на апошнім антыкварным аўкцыёне ў Кракаве гэты старадрук быў прададзены за 92'000 zł (каля 30'000 USD).

Нешта ж ёсць у ім такое, калі ня гледзячы на сівы век (пятнаццаць пакаленняў яго чыталі) сёння глядзім на яго з непрыхаваным здзіўленнем не толькі з прычыны ягонай каштоўнасці, але (асабліва!) з прычыны дапасавання да сучаснай ментальнасці, да таго, што яго мова для нас зразумелая, што чытаем яго без непатрэбнага семантычнага каментарыя, што словы перакладчыка (перакладчыкаў) маюць надчасавую вартасць. Праз тую мову чытаем тэкст не як архаічнае казанне, але як сцвярджанні ўнутрана нам вельмі блізкія, і бачым у гэтым асаблівым перакладзе Св. Пісьма, хай сабе такім старым, не навязаны наказ, але глыбокую нашу ўласную думку, уласную ідэнтыфікацыю (вядома, калі мы вернікі). І ўвогуле не мае тут значэння кальвінская канфесійнасць гэтага тэксту: ён, як успаміналася, надчасовы і ў нашай размове з Богам надканфесійны, а ў дачыненні да Старога Запавету можа нават і надхрысціянскі.

Брэсцкая Біблія не першы і не адзіны пераклад усяго Св. Пісьма, што з'явіліся ў XVI ст. Апярэдзіла яе каталіцкая версія, так званая Біблія Леапаліты (ці львавяніна Яна Ніча, 1561), а пасля яе была т.зв. Нясвіжская Біблія (Сымона Буднага, 1572), нарэшце таксама поўная каталіцкая т.зв. Біблія Вуйка (1599). Брэсцкая Біблія мае, аднак, тую перавагу, што ўжо ў XVI ст. была шмат разоў перадрукавана (яшчэ раз у 1563 г. і потым у 1568 — у Нясвіжы, у 1566 г. зноў у Брэсце, у 1565 г. у Таруні, у 1593 г. у Вільні, урэшце ў 1599 г. у Нюрэнбергу), што сведчыць пра яе папулярнасць, а таксама адпаведнасць чаканням, прынамсі з-за добра зразумелай, пераканаўчай мовы.

У далейшым я буду гаварыць пра мову Брэсцкай Біблії канкрэтна на прыкладзе аднаго з псальмоў. Тэкст псальма 129/130 асабліва пранізлівы, яго часта трактуюць як тэкст малітвы, прынамсі малітвы таго, хто памірае (ведаю такія канкрэтныя выпадкі з часоў нам блізкіх). У сувязі з гэтым варта прыгадаць, што тая кніга Старога Запавету — Псалтыр — была для транслятараў XVI стагоддзя значным прыярытэтам. Псальмы Давіда перакладалі прозай і паэтычна цягам усяго стагоддзя, існуе некалькі дзясяткаў варыянтаў, з якіх варта ўспомніць (па-за тымі, што рабіліся ў межах поўных перакладаў) працу безыменнага творцы ў так званым Кракаўскім Псалтыры (1532), Валента Врубля (1539), Мікалая Рэя (1546), безыменнага транслятара (1558), Якуба Любельчыка (1558), Яна Каханоўскага (1579), Паўла Мілееўскага (1587). Карыстаемся таксама сучаснымі перакладамі: Біблій Тысячагоддзя, трансляцыі Чэслава Мілаша, так званай Біблій Св. Паўла, бо, як пісала праф. Ева Астроўская, тагачасная бойка за «прыгожае слова Псалтыра» — вялікая справа.

Прыводжу прыклады, каб сцвердзіць адно: тэкст псальма 129/130 у версіі Брэсцкай Біблії каштоўны тым, што ён адпаведны арыгіналу і гучыць па-польску прыгожа і далікатна, мякка і малітоўна, натхнёна. Таму і перажыў ён пятнаццаць пакаленняў, таму і звяртаюцца да яго розныя канфесіі, знаходзяць у ім найважнейшае: дух веры, Бога. Гэтак гучаць псальмы Каханоўскага з музыкай Гамулкі, іх спяваюць, лічаць сваёй паэтычнай малітвай да глорыі Творцы шмат вызнанняў у Польшчы (а можа і не толькі ў Польшчы, але ўсюды, дзе хваляць Госпада па- польску).

*Варабей А.В., Нікітчык А.Д., Нікалаеў М.В.*

# Пінская публікацыя тэксту Брэсцкай уніі 1596 г.



Рыхтаваць гэты матэрыял аўтары пачалі пасля знаёмства са старадрукам у адным з прыватных кнігазбораў Брэста[1]. «Жыццёвы шлях» яго дастаткова цікавы сам па сабе: кніга была выратавана з напаўразваленай вясковай хаты, прызначанай на знос. Перажыўшы войны і рэвалюцыі XX ст., ёй было наканавана дажываць свой век разам са старым жытлом, гаспадары якога альбо памёрлі, альбо з'ехалі ў горад — шукаючы «лепшай долі», назаўсёды парваўшы са сваімі каранямі.

Кніга захавалася добра, аднак страчаныя тытульны аркуш і некалькі наступных старонак не адразу дазволілі вызначыць яе назву і выдаўца. Па загалоўках асобных частак адразу відаць, што гэта выданне некалькіх твораў першага рэктара Віленскага універсітэта, славутага на свой час тэолага, прапаведніка, таленавітага пісьменніка і палеміста, іезуіта Пятра Скаргі. Захаваная частка кнігі складаецца з 2 частак і 4-х главаў, с несуцэльнай (паглаўнай) нумарацыяй. Не выклікае сумнення, што першыя 3 главы былі надрукаваны ў 1734 г. у Пінску, фарматам «у аркуш» — «in folio». Іезуіцкі калегіюм у Пінску быў заснаваны ў 1638 г., пачатак дзейнасці пры ім друкарні прыпадае на першую чвэрць XVIII стаг. Да прадукцыі пінскай друкарні з упэўненасцю можна залічыць толькі 4

---

1 Выказваем падзяку І. Бараноўскаму за дапамогу ў пошуках і ўдакладненне прынцыпова важных акалічнасцяў.

выданні, апошнім (найбольш познім) сярод іх было: *Piotr Skarga, Kazania na niedziele y święta całego roku* (Нядзельныя і святочныя казанні на цэлы год, 1734; 1735), добра захаваныя яго экзэмпляры маюць на тытульным аркушы дакладныя выходныя звесткі: *Pińsk, druk. Coll. S. I., 1735.*

Пасля выхаду казанняў Скаргі ў 1735 г. выдавецкая дзейнасць у Пінску спынілася, а іезуіты падрыхтавалі наступнае выданне П. Скаргі «Казанні пра сем таямніц святога Каталіцкага касцёла» (*Kazania o siedmiu sakramentach Kosciola Swiętego Katolickiego*) ужо ў Вільні, у друкарні Віленскай акадэміі ў 1737 г. Тэкст набіралі паводле кракаўскага выдання 1618 г.[2]. Была нават працягнута пагінацыя — яна пачынаецца з тых нумароў старонак, якімі заканчваюцца пінскія выданні 1734 і 1735 гг.

Злучэнне двух частак збору казанняў П. Скаргі ўтварае арыгінальны «пінска—віленскі» канвалют, да якога, па ўсёй верагоднасці, і належыць захаваны ў Брэсце асобнік. Падобны выдавецкі канвалют маецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі — у яго ўваходзяць абедзьве кнігі Скаргі — пінскае выданне 1735 г. і віленскае 1737 г.[3]

Наш экзэмпляр у другой палове XVIII ст. знаходзіўся ў бібліятэцы Нясвіжскіх дамініканцаў, пра што сведчыць пячатка з надпісам: «SIGILLUM BIBLIOTHICA CONVENTUS NESVISIENSIS ORDINIS PREDICATORUM» — «Пячатка бібліятэкі нясвіжскага канвенту ордэну прапаведнікаў». Асобныя кнігі з гэтай бібліятэкі ўспамінае беларускі музыказнавец Тамара Ліхач[4]. Надпіс на захаваным левым форзацы верхняй крышкі: «Applicatur Bibliotheca Conventus Nesvisiensis Anno 1807. Septembris 22 die», паказывае на тое, што, як найменш, у верасні 1807 г. кніга яшчэ была ў бібліятэцы канвента ў Нясвіжы. Надпіс на апошнім форзацы паказвае, што ў 1900 г. яна трапіла ў прыватны кнігазбор.

Акрамя іншых твораў Пятра Скаргі ў расшуканым намі паасобніку маюцца публікацыі тэкстаў, якія прадстаўляюць асаблівую цікавасць для Брэста. У другой главе кнігі (на С. 80—105) змешчаны матэрыялы, датычныя Берасцейскай уніі 1596 г. Гэта ліст Кірыла Лукарыса[5], экзарха Александрыйскага патрыярха (С. 80—83). Скарга меў гутарку з экзархам

2 Estrejcher K. Bibliografia Polska. Kraków, 1930. Cz. 3. T. XVII. S. 145.

3 Самайлюк Т. А. Друкарня езуітаў у Пінску // Спадчына. 2005. № 4/5. С. 96—99; **гл. таксама:** Нарбутене Д. Издания пинской типографии в фондах библиотеки им. Врублевских Литовской Академии Наук — у гэтым выданні «Берасцейскіх кнігазбораў».

4 Ордэн дамініканцаў і развіццё музычнай культуры Беларусі [Электронны рэсурс]. URL: http://media.catholic.by/nv/n12/art5.htm (дата доступу: 25.05.2012).

5 Cyril-Lucaris [Электронны рэсурс]. URL: http://upload.wikimedia.org/wikipedia/commons/4/43/ Cyril-Lucaris.jpg (дата доступу: 25.05.2012).

Кірылам пад час падрыхтоўкі тэксту Акта уніі. Далей змешчаны матэрыялы з апісаннем эпахальных падзей, што адбыліся на пачатку кастрычніка 1596 г. Каралеўскі прапаведнік Пётр Скарга[6] прысутнічаў у Брэсце ў тыя векапомныя дні. Пад час работы Сабору і хутка пасля прыняцця царкоўнай уніі ён удзельнічаў у абмяркаванні і напісанні чатырох надрукаваных у нашым экзэмпляры тэкстаў:

1. «Берасцейскі Сінод» (С. 84—85).

2. «Зварот паслоў Караля Яго Міласці да адлучыўшыхся ў Бярэсці, якія Сабор Святы раздзяляць хацелі» (С. 85—88).

3. «Акт святой Уніі» (С. 88—90).

4. «Абарона Берасцейскага Сабору» (С. 90—105) — канцэптуальны палемічны твор, які складаецца з 12 раздзелаў.

Пётр Скарга ўспамянуты ў апошнім абзацы Акта уніі як «каралеўскі прапаведнік», які гаварыў казанне ў самым канцы ўрачыстага сходу ў саборы святога Мікалая, ужо грэка-каталіцкім, 10 кастрычніка 1596 г. Тэкст самога казання не прыведзены.

У наш час арыгінал акта Берасцейскай царкоўнай уніі (рукапіс на пергамене) знаходзіцца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве Украіны ў Львове. Нажаль брэсцкія бібліятэкі не маюць добрай лічбавай копіі гэтага дакумента[7], так важнага для гісторыі горада.

Ужо пры жыцці Скаргі акт уніі друкавалі двойчы: у 1596 г. і 1597 г. у Кракаве. Чатыры выданні было зроблена ў XIX ст.: у 1851 г. «Акты, относящиеся к истории Западной России» Т. 4, № 103 (па спісу са збораў князя Абаленскага); у 1862 г. Міхаіл Харасевіч у лацінскамоўным выданні «Annales ecclesiae Ruthenae»; у 1882 г., у Пецярбургу дакумент надрукаваны ў 7 томе «Рускай гістарычнай бібліятэкі», у «Памятниках полемической литературы»; нарэшце ў 1896 г., у Познані, Эдвард Лікоўскі ў працы «Unia Brzeska» дадаў да дакумента свае разважанні, чым істотна ўскладніў чытанне арыгіналу — адсутнасць двухкоссяў пры цытаванні першакрыніцы змяшала матэрыялы. Апошняя навуковая публікацыя гэтага тэксту была зроблена ў 1970 г. у Рыме[8].

Карыстаючыся знойдзеным пінскім старадрукам, ніжэй мы друкуем тэкст уніі паводле выдання пінскіх іезуітаў з перакладам на рускую

---

6 Краіна Беларусь / аўт. тэксту У. Арлоў ; маст. Д. Герасімовіч ; рэд. Д. Санько. Мінск, 2003. С. 177.

7 Нездавальняючы па якасці: Акт Брэсцкай уніі [Электронны рэсурс]. URL: http://zapadrus.su/bibli/istfbid/ 2011-02-14-11-39-35/283--1596-.html (дата доступу: 26.09.2011).

8 Documenta unionis Berestensis eiusque auctorum : (1590—1600) / collegit, paravit, adnotavit editionemque curavit Athanasius G. Welykyj. Published : Romae : PP. Basiliani, 1970.

мову. Пераклад з польскай зроблены аўтарамі з захаваннем пунктуацыі, арфаграфіі і стылю арыгіналу. Гэта датычыць напісання ўласных імёнаў, тапонімаў, пасадаў духавенства абодвух абрадаў.

Беларускі пераклад зроблены паводле выдання: Соборная грамота Кіевского митрополита Михаила Рагозы и Литовскорусскихъ епископовъ, Владиміро-Волынскаго, Луцкаго, Полоцкаго, Хелмскаго и Пинскаго съ низшими духовными властями, о вступленіи ихъ въ союзъ съ Римскою церковію и признаніи надъ собою верховной власти Папы Климента VIII и его преемниковъ// Акты, относящиеся к истории Западной России, собранные и изданные археографическою комиссиею. Т. 4. 1588—1632. Подготовленъ къ изданію и напечатанъ подъ наблюденіемъ Члена и Главнаго Редактора Археографической Комиссіи, Собственнаго Его Императорскаго Величества Дворца Протоіерея Іоанна Григоровича. СПб., 1851. С.139—141[9].

## «LIST UNIEY SWIĘTEY.

W Imie BOGA w Troycy jedynego, na cześć y S. chwałę jego, y ludzkiego zbawienia a wiary S. Chrześćiańskiey Katholickiey wzmocnienie y podwyższenie, wszytkim ktorym to wiedźieć będźie należało, my w BOGU na Synodźie porządnym w Brześciu Litewskim, Roku Pańskiego 1596. dnia 9 [s. 88] miesiąca Octobra, wedle starego Kalendarza, w Cerkwi S. Mikołaja zebrani, Metropolit y Władykowie obrzędu Grieckiego, niżey podpisani, oznaymujem na wieczną pamiątkę: Iż my bacząc jako Monarchia Kośćioła Bożego w Ewangeliey, y usty Pana y BOGA naszego JEZUSA Chrystusa fundowana jest: aby na jednym Pietrze, jako opoce, Kośćioł Chrystusow mocnie stojąc, od jednego rządzony y sprawowany był: aby u jednego ćiała jedna głowa, w jednym domu jeden gospodarz y szafarz obrokow Bożych nad czeladką postawiony, rząd y dobre szytkich obmyślał; y tak ten rząd Kośćioła Bożego od czasow Apostolskich zaczęty trwał po wszytkie wieki: iż wszytkie Patryarchie do jednego się potomka Piotra S. Papy Rzymskiego, zawżdy w nauce wiary, y w braniu mocy duchowney, y w sądach Biskupich; y appellacyach uciekali. Jako się to z Soborow y Kanonow abo prawidł Oycow Swiętych pokazuje, y nasze Słowieńskie pisma z Greckich zstarodawna przełożone, dostatecznie to w prawidłach Oycow Swiętych oznajmuja; y starzy Swięći Oycowie wschodney Cerkwie to świadcza, ktorzy tę Piotra S. Stolicę y zwierzchność a władza jey nad Biskupy wszytkiego świata, znają.

9 Пераклад М. Нікалаева. Заўважная розніца паміж гэтым тэкстам і выданнем пінскіх езуітаў дае падставу і матэрыял для далейшых даследаванняў.

Nie mniey też Carogrodzcy Patryarchowie, od ktorych ta strona Ruska wiarę święta wzięła, tę zwierzchność Stolice Rzymskiey Piotra S. długo znali, y jey podlegali, y od niey błogosławieństwo brali. Od ktorey wielekroć odstępowali: ale się zaś z nią jednali; y do posłuszeństwa jey wracali: a ostatnie na Concylium abo Soborze Florenckim Roku P. 1439. przez Jozefa Patryarchę y Cesarza Carogrodzkiego Jana Paleologa, zupełnie się do tego posłuszeństwa wrocili, wyznawając iż Rzymski Papa Oycem jest y Mistrzem, y sprawcą wszytkiego Chrześcianstwa; y prawym Piotra S. następnikiem. Na ktorym też Florenckim Soborze był nasz Kijowski y wszey Ruśi Metropolit Isidorus, ktorzy to zjednoczenie Patryarchiey Carogrodzkiey y wszytkich Kośćiołow do niey należących przyniosł, y te kraje Ruskie w tymże posłuszeństwie y zwierzchnośći Kośćioła Rzymskiego utwierdził. Dla czego Krolowie Polscy, a mianowićie Władysław Krol Polski y Węgierski, y inni dali przywiley Duchowieństwu obrządku Greckiego; ktorym na walnym Seymie wolnośći im Kośćioła Katholickiego Rzymskiego nadali. Od ktorego zjednoczenia Kośćielnego gdy Carogrodzcy Patryarchowie zaś odstąpili, a za taki srogi grzech odszczepieństwa y rozerwania jednośći Kośćielney, w moc pogańska y Turecką wpadli, zaczym wiele blędow y złych postępkow ich, y zaniechania dozoru prawego tych krajow Ruskich, y wiele brzydkiego świętokupstwa nastąpiło, iż się herezye rozsialy, y prawie wszytkę Ruś opanowały, Cerkwie pustosząc, y chwałę Bożą psując. My niechcąc być uczestnicy grzechu tak wielkiego, y niewolstwa pogańskiego ktore zatym przyszło, Carogrodzkich Patryarchow, y niechcąc im odszczepienstwa y rozerwania Kośćielney świętey jednośći pomagać: y zabiegając spustoszeniu Kośćiołow, y zgubie dusz ludzkich przez herezye, ktore się teraz podniosły, mając o to sumnienie y niebiespieczęstwo zbawienia swego, y trzody nam od Pana B O G A poruczoney: Roku przeszłego wyprawiliśmy do Oyca S. Klemensa osmego Papy Rzymskiego posły nasze Przewielebne, Hipatego Prototrona Władykę Włodźimierskiego, Brzeskiego y Cyriłła Terleckiego Władykę Łuckiego y Ostrowskiego wiadomością y pozwoleniem y przyczyną K.J.M. Polskiego Zygmunta Trzeciego Pana pobożnego, ktoremu day Boże szczęśliwie y wiecznie krolowanie: prosząc aby nas do swego posłuszeństwa, jako naywyższy Pasterz Kośćioła powszechnego Katholickiego przyjał, y od zwierzchnośći Patryarchow Carogrodzkich wyzwolił y rozgrzeszył, zachowując nam obrządki y Ceremonie Kośćiołow wschodnych Greckich, a żadney odmiany w Cerkwiach naszych nie czyniąc. Co iż uczynił; y na to swoje przywileje y pisma posłał; rozkazując abyśmy się na Synod zwoławszy wyznanie wiary S. uczynili, y posłuszeństwo Stolicy Rzymskiey Piotra S. Klemensowi VIII. y jego potomkom oddali. Tośmy dźiś na tym Synodźie

Австро-итало-французская война завершилась, как известно, Вилафранкским перемирием между Францией и Австрией (Виктора Эммануила даже не пригласили на переговоры). В выигрыше оказался Наполеон III, заполучивший вожделенные Савойю и Ниццу. Россия же, оказав Франции обещанную дипломатическую поддержку, не увидела никаких ответных шагов со стороны французского императора. Русско-французское сближение зашло в тупик. Нужно было искать другие пути выхода из международной изоляции.

В такой обстановке и состоялась царская охота в Беловежской пуще, ставшая подготовкой к встрече русского императора с австрийским монархом и прусским принцем-регентом в Варшаве 10—14 октября 1860 г. Как известно, охота «на высшем уровне» и дипломатия тесно связаны между собой с древнейших времён.

Охота с участием высоких гостей из Германии — герцога Саксен-Веймарского, принцев Карла и Альберта Прусских, Августа Вюртембергского и Фридриха Гессен-Кассельского, планировалась на сентябрь. Но вмешались обстоятельства: рождение великого князя Павла Александровича и болезнь императрицы сдвинули охоту на начало октября.



Почти за месяц до назначенного срока офицеры Корпуса лесничих, объездчики, стражники, полесовщики, «осочники» (облавщики) и около двух тысяч местных крестьян начали сгонять зубров и прочее зверьё в заранее отгороженное лесное пространство. Для охотников было оборудовано двенадцать «номеров», тщательно замаскированных огневых точек-галерей.

На рассвете 6 октября августейшие охотники заняли свои места, а загонщики погнали будущие трофеи на линию огня. Охота продолжалась до четырёх часов пополудни и была весьма удачной: убито 44 зверя, в том числе 16 зубров и 4 кабана. Вечер был ознаменован великолепным обедом, который проходил под музыку оркестра Великолуцкого пехотного полка. 7 октября охота продолжалась до двух часов: полегло 52 зверя; добычей императора стали 6 зубров... Эта встреча представителей августейших фамилий Европы — «без галстуков», но с нарезными штуцерами — обошлась российской казне в 18 тысяч рублей серебром[7].

Александр II, известный своей страстью к подобным забавам, охотился в пуще единственный раз. Вероятно, ему очень нужно было про-

7 Кутепов Н. Императорская охота на Руси. Конец XVIII и XIX век : исторический очерк. Т. IV. СПб., 1911. 289 с.

извести впечатление на потенциальных союзников. И Беловежская пуща превзошла все ожидания: первозданная природа, изобилие охотничьих трофеев, реликтовые зубры, о которых в благоустроенной Европе невозможно и помыслить… В общем, дорога к «Варшавскому свиданию» была выстлана сотнями шкур красного зверя.

Едва развеялся дым от выстрелов, 8 октября император Александр II уже находился в Варшаве, куда прибыл также Фридрих Прусский, а затем пожаловал и австрийский император Франц Иосиф. Намечающаяся перестановка сил в Европе не могла не вызвать серьёзные опасения Франции и Англии. Обеспокоенный Наполеон III направил русскому императору предложение об оборонительном союзе. Александр II начертал на этом документе всего два слова: «Против кого?»

Нельзя забывать, что Пруссию, Австрию и Россию объединяла общая проблема — польский вопрос. «…Обуревающие Европу мечты о возрождении начала отдельных национальностей… небезопасны для Российской империи по разнородности составляющих её племён. …Современная политика Запада даёт этим мечтам более значения, особенно в отношении к подданным польского происхождения, на привязанность коих российскому престолу и прежде нельзя было положиться», — писал руководивший в то время политической полицией империи князь В.А. Долгоруков[8]. Никаких соглашений по общеевропейским вопросам в Варшаве достигнуто не было. Но стало очевидно, что Россия вновь завоёвывает утраченное влияние. Так, новый альянс скреплялся свободой поляков и кровью зубров. Могучему зверю в память об этой охоте был создан памятник. Чугунного зубра в натуральную величину изготовили на заводе одного из участников охоты — генерал-лейтенанта Н.А. Огарёва. На мраморном постаменте красовались имена участников охоты, и указывалось количество их трофеев.

Через 10 лет, в октябре 1870 г. российское правительство в одностороннем порядке объявило об отказе от нейтрализации Чёрного моря. Это решение получило международное признание согласно Лондонской конвенции 1871 г. Отмене ограничительных статей Парижского мира 1856 г. предшествовала Франко-прусская война. Но началось всё в Пуще. Так залпы штуцеров на беловежских тропах отозвались эхом в Берлине и Санкт-Петербурге, в Лондоне и Вене, в Париже и на берегах Босфора.

8 Россия под надзором. Отчёты III отделения. 1827—1869 / сост. : М. В. Сидорова, Е. И. Щербакова. М. 2006.. С. 528.

*Зверава І.С.*

# «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага ў пецярбургскім выданні 1855 года



Пра паэта-лацініста эпохі Адраджэння Мікалая Гусоўскага (каля 1480 — пасля 1553), яго творчасць і асабліва эпічную паэму, якая ўвайшла ў літаратурны ўжытак пад назвай «Песня пра зубра», напісана шмат. Сам твор «Carmen de statura, feritate, ac venatione Bisontis» перакладзены на беларускую, літоўскую, польскую, рускую і ўкраінскую мовы[1]. Сёння мы маем навукова выверанья, каментаваныя выданні паэмы, а імя Мікалая Гусоўскага ўнесена ў энцыклапедычныя слоўнікі і даведнікі. Коратка нагадаем асноўныя звесткі, датычныя тэмы.

Мікалай Гусоўскі стварыў «Песню пра зубра» ў 1522 г. у Рыме, будучы там з пасольскай місіяй Вялікага Княства Літоўскага. Выдадзена паэма была ў наступным, 1523 годзе, у Кракаве ў складзе зборніка, якому яна і дала назву[2].

---

1 Бібліяграфію выданняў твораў М. Гусоўскага і літаратуру пра яго гл. у прыкніжнай бібліяграфіі: Гусоўскі М. Песня пра зубра : на лац., беларус, рус. мовах / пер. Я. Семяжона, Я. Парэцкага. Мінск, 1980. С. [189—190] ; Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу. Мінск, 2010. С. 339, 341, 345—362.

2 Hussovianus N. Carmen Nicolai Hussoviani de statura, feritate, ac venatione Bisontis. Impr. Cracoviae per Hieronymum Vietorem. Anno Domini MDXXIII. Падрабязнае апісанне зборніка гл.: Estreicher K. Bibliografia Polska. Kraków, 1901. T. XVIII.

У 1855 г., праз больш чым тры стагоддзі, «Carmen de statura, feritate, ac venatione Bisontis» зноў легла на варштат[3] — гэта было першае перавыданне паэмы, падрыхтаване Імператарскай Публічнай бібліятэкай у Санкт-Пецярбургу (ІПБ)[4].

Выдавецкая дзейнасць была адной з пастаянных функцый Бібліятэкі, аднак рэпертуар яе друкаванай прадукцыі напачатку быў небагаты і абмяжоўваўся, галоўным чынам, выданнямі службовага характару: справаздачы пра дзейнасці, правілы карыстання, пакеты статутных дакументаў[5].

Барон Мадэст Корф[6], які ўзначаліў ІПБ у 1849 г., імкнуўся пашырыць і развіць гэты накірунак дзейнасці Бібліятэкі, надаць яму навуковае і шырокае агульнакультурнае гучанне. Спецыяльна для гэтага ў штат ІПБ была ўведзена пасада рэдактара навуковых прац, якую заняў ураджэнец г. Полацка Каэтан Касовіч[7]. У ліку іншага, новы дырэктар планаваў выпускаць у выглядзе публікацый, перавыданняў, факсіміле рукапісныя помнікі і старадрукі з фондаў Бібліятэкі. У поўнай меры гэтыя планы не былі рэалізаваны, тым не менш, выдавецкі рэпертуар ІПБ значна ўзбагаціўся. Для публікацыі кніжных рэдкасцяў была абрана форма падарункавых выданняў, прымеркаваных да розных юбілейных датаў. Выдаваліся падарункавыя выданні малым тыражом і апрыёры мелі статус бібліяграфічных рэдкасцяў. Так, да 100-годдзя Маскоўскага ўніверсітэта (1855) быў надрукаваны поўны камплект першай рускай газеты «Ведомости» за 1703 г.[8] Гэта было «вельмі дакладнае перавыданне, забяспечанае падрабязным <...> уступам»[9], падрыхтаванае загадчыкам Аддзялення рукапісаў ІПБ, ар-

3 Hussovianus Nicolaus. Carmen Nicolai Hussoviani de statura, feritate ac venatione bisontis. Cracoviae MDXXIII. Denuo excusum. Petropoli : Typ. Acad. Scient. Imper., MDCCCLV. XII, 37 p.

4 Імператарская Публічная бібліятэка (ІПБ), заснавана ў 1795 г., адчынена ў 1814 г., зараз — Расійская Нацыянальная бібліятэка (РНБ).

5 Пералік выданяў ІПБ гл.: Императорская Публичная библиотека за сто лет. 1814—1914. СПб., 1914. С. XV—XXII.

6 Корф Мадэст Андрэевіч, барон, з 1872 граф (1800—1876) — дырэктар ІПБ в 1849—1861. **Пра яго гл.**: Голубева О. Д. М. А. Корф. СПб., 1995. 168 с. ; История Библиотеки в биографиях ее директоров. 1795—2005. СПб., 2006. С. 94—135.

7 Касовіч Каэтан Андрэевіч (1815—1883) — усходазнаўца, у ІПБ з 1850 па 1883 гг. **Пра яго гл.**: Даўгяла Г. І. К. А. Касовіч: вядомы і незнаёмы. Мінск, 1994 ; Сотрудники Российской национальной библиотеки — деятели науки и культуры. СПб., 1995. Т. 1. С. 282—288.

8 Первые русские ведомости, печатавшиеся в Москве в 1703 году. Новое тиснение по двум экземплярам, хранящимся в Императорской Публичной Библиотеке. СПБ., 1855.

9 Императорская Публичная библиотека за сто лет. 1814—1914. СПб., 1914. С. 311.

хеографам, гісторыкам А. Ф. Бычковым. «Песня пра зубра» Мікалая Гусоўскага належыць да гэтага ж тыпу выданняў. Кніга выйшла да 50-гадовага юбілею Імператарскага Маскоўскага таварыства даследчыкаў прыроды[10], з якім Бібліятэка падтрымлівала навукова-культурныя сувязі ўжо на працягу некалькіх гадоў.

Ініцыятарам гэтых сувязяў быў віцэ-прэзідэнт і дырэктар Таварыства, вядомы вучоны-натураліст Фішэр фон Вальдгейм[11]. Немец Готхельф Фішэр (другая, «шляхетная» частка яго прозвішча «фон Вальдгейм» з'явілася пазней) быў запрошаны расійскім урадам для загадвання кафедрай натуральнай гісторыі Маскоўскага ўніверсітэта. У 1804 г. ён прыбыў у Маскву і застаўся тут назаўсёды. У Расіі Г. Фішэра сталі называць Грыгорыем Іванавічам, хаця, як і шмат хто з яго землякоў, рускай мовай ён не авалодаў, для выкладання выкарыстоўваў лацінскую, а мовамі камунікацыі былі для яго нямецкая і французская. Прафесар Шчуроўскі[12] назваў Г. Фішэра «рухавіком агульнага прыродазнаўства»[13] ў Расіі. У гэтым амплуа Грыгорый Іванавіч быў шырока вядомы. Слава прыродазнаўцы і арганізатара навукі перакрыла і амаль не выкрэсліла адну са старонак яго прафесійнай біяграфіі. У



10 Московское общество испытателей природы (да 1917 Императорское Московское общество испытателей природы). Заснавана ў 1805 г. пры Маскоўскім імператарскім універсітэце. Статут Таварыства, зацверджаны імп. Аляксандрам І у ліпені 1805, падрыхтаваў Г. Фішэр фон Вальдгейм. Пра гісторыю Таварыства і яго дейнасць гл.: сайт Таварыства: http://www.moipros.ru/.

11 Фішэр фон Вальдгейм Грыгорый Іванавіч (Ficher Gotthelf, пасля атрымання дваранства — Ficher von Waldheim Gotthelf) (1771, Вальдгейм, Германія — 1853, Масква) — віцэ-прэзідэнт і дырэктар Таварыства ў 1805—1853, сапраўдны стацкі саветнік, д-р філасофіі і медыцыны, заслужаны прафесар Маскоўскага ўніверсітэта, ганаровы сябра Імператарскай Акадэміі навук, Санкт-Пецярбургскай і Маскоўскай медыка-хірургічных акадэмій і іншых навуковых таварыстваў. **Пра яго гл.**: Рихтер В. М. История медицины в России. М., 1820. Ч. 3. С. 381—392 ; Фишер фон Вальдгейм А. Краткий отчет о трудах Императорского Московского Общества Испытателей Природы, читанный в торжественном заседании Общества по случаю пятидесятилетнего юбилея, 28 декабря 1855 года, вице-президентом оного Александром Фишером фон Вальдгеймом. М., 1855. 20 с. ; Щуровский Г. Е. Готтг. Фишер фон Вальдгейм относительно его заслуг по минералогии, геологии и палеонтологии : Речь, произнесенная по случаю празднования столетней годовщины его, 1771—1871 г., в торжественном собрании Имп. Московского Общества Испытателей Природы. Октября 3-го дня. М., 1871. 45 с. ; Житков Б. М. Г. И. Фишер фон Вальдгейм (1771—1853). М., 1940. 27 с. ; Büttner J. W. Fischer von Waldheim. Berlin, 1956 і інш.

12 Шчуроўскі Грыгорый Яфімавіч (1808—1884) — геолаг і папулярызатар навукі, першы прафесар кафедры геалогіі і мінералогіі Маскоўскага ўніверсітэта.

13 Щуровский Г. Е. Готтг. Фишер фон Вальдгейм относительно его заслуг по минералогии, геологии и палеонтологии... С. 7.

1799 г. Г. Фішэра запрасілі ва ўніверсітэт («Галоўная школа») г. Майнца на пасаду прафесара натуральнай гісторыі і адначасова прызначылі бібліятэкарам універсітэцкай бібліятэкі. Тут, акрамя даследаванняў па сваёй асноўнай спецыяльнасці, ён заняўся вывучэннем гісторыі вынаходства кнігадрукавання і дзейнасці першадрукароў, надрукаваў шэраг артыкулаў па гэтай тэматыцы ў перыядычных выданнях[14]. У 1800 г. пачала выходзіць шматтомавая праца Г. Фішэра пад загалоўкам «Beschreibung typographischer Seltenheiten und merkwürdiger Handschriften nebst Beyträgen zur Erfindungsgeschichte der Buchdruckerkunst»[15], прысвечаная дзейнасці Гутэнберга, Фуста і Шэфера з апісаннем іх выданняў. У 1802 г. убачыла святло яго сачыненне пра Гутэнберга — «Essai sur les monuments typographiques de Jean Gutenberg, mayençais inventeur de l'imprimerie»[16]. Акрамя гістарычнага нарыса ў кнізе прыведзены апісанні інкунабулаў, надрукаваных Гутэнбергам, у дадатках падаюцца храналагічны спіс выданняў друкарні Фуста і Шэфера і спіс вучоных Майнца за 1360 — 1790 гады. Працы Г. Фішэра па гісторыі ранняга кнігадрукавання былі вядомыя кнігазнаўцам XIX ст. Па словах Б. М. Жыткова, яны атрымалі «сапраўдную і прытым еўрапейскую адзнаку <...> у вялікай працы Бернара (M. Aug. Bernard — De l'origine de l'Imprimerie en Europe, V, I et II, Paris 1853)», які прысвяціў Г. Фішэру сваю кнігу[17]. Гісторыка-кніжныя зацікаўленні Грыгорыя Іванавіча засталіся яго пажыццёвым хобі і праявіліся, між іншым, у стварэнні пры Таварыстве адной з самых вялікіх у Расіі прыродазнаўчых бібліятэк, у аснову якой быў пакладзены яго ўласны кнігазбор, што складаўся з некалькіх тысяч тамоў[18].

У 1850 годзе, калі ў Імператарскай Публічнай бібліятэцы быў створаны інстытут ганаровых сяброў і ганаровых карэспандэнтаў, Гот-



14 Спіс кнігазнаўчых публікацый Г. Фішэра **гл., напр.**: Рихтер В. М. История медицины в России... С. 386.

15 Fischer G. Beschreibung typographischer Seltenheiten und merkwürdiger Handschriften nebst Beyträgen zur Erfindungsgeschichte der Buchdruckerkunst. Mainz, Nürnberg, 1800—1804. Lfg. 1—6. Загл. Lfg. 1: Beschreibung einiger typographischen Seltenheiten nebst Beyträgen zur Erfindungsgeschichte der Buchdruckerkunst.

16 Fischer G. Essai sur les monuments typographiques de Jean Gutenberg, mayençais inventeur de l'imprimerie. Mayence, [1802]. 102 p.

17 Житков Б. М. Г. И. Фишер фон Вальдгейм (1771—1853) ... С. 21.

18 Фишер фон Вальдгейм А. Краткий отчет о трудах Императорского Московского Общества Испытателей Природы, читанный в торжественном заседании Общества по случаю пятидесятилетнего юбилея, 28 декабря 1855 года, вице-президентом оного Александром Фишером фон Вальдгеймом. М., 1855. С. 10.

хельф Фішэр фон Вальдгейм прасіў баранета Якава Віллiе[19] хадайнічаць перад дырэктарам Бібліятэкі аб абранні яго ганаровым сябрам ІПБ[20]. У тым жа годзе Г. Фішэр атрымаў гэтае званне і падарыў Бібліятэцы свае кнігазнаўчыя працы, а дырэктар ІПБ М. А. Корф быў, у сваю чаргу, абраны ганаровым сябрам Таварыства. У лісце да М. А. Корфа Г. Фішэр, прынамсі, пісаў, што дорыць свой «уласны экзэмпляр «Essai sur les monuments typoraphiques de Jean Gutenberg», які змяшчае некаторыя, — як ён выказаўся — больш ці менш карысныя, мае рукапісныя нататкі»[21]. Экзэмпляр са шматлікімі рукапіснымі паметкамі (выпраўленнямі, дадаткамі, каментарыямі) быў ва ўладальніцкім пераплёце, на спінцы якога золатам адціснута: «Fischer sur Gutenberg». У кнігу, акрамя «Essai...», уплецены яго невялікія друкаваныя працы «Notice du premier monument typographique...»[22], «Note d'une gravure sur metal de 1422», лісты з ілюстрацыямі ўзораў шрыфтоў, гравюр і факсіміле старонак з выданняў Гуттэнберга, а таксама рукапіс на 102 нумараваных і двух ненумараваных аркушах з бібліяграфічнымі нататкамі і замалёўкамі. Гэты канвалют, які сам па сабе з'яўляецца унікам, захоўваецца сёння ў Аддзеле рэдкіх кніг Расійскай нацыянальнай бібліятэкі. Пазней Г. Фішэр неаднойчы дарыў Бібліятэцы свае працы і выданні Таварыства[23].



У кастрычніку 1855 г. дырэктар Бібліятэкі, як ганаровы сябра Таварыства, атрымаў запрашэнне на ўрачыстасці, прысвечаныя 50-годдзю з дня яго заснавання. Тады і было вырашана перадрукаваць у падарунак Таварыству паэму Гусоўскага[24]. Канечне, выдаўцы цудоўна разумелі, што «Песня пра зубра» не мае нічога агульнага з заалагічным трактатам, пра што і напісалі ў прадмове: «Не беручыся судзіць пра тое, ці шмат прыродазнаўцы знойдуць для сябе новай веды ў нашым прынашэнні, мы смеем па крайняй меры спадзявацца, што яны ўшануюць сваёй

19 Віллiе Якаў Васільевіч, баранет (1765—1854) — ваенны ўрач, галоўны ваен.-мед. інспектар у 1806—1854, прэзідэнт Пецярб. Медыка-хірургічнай акадэміі ў 1809—1838.

20 РНБ, Аддзел архіўных дакументаў (ААД), Ф. 1. Воп. 1, 1850. Спр. 10. Арк. 165—166.

21 Там жа. Арк. 181. «Mon proper exemplaire de l'Essai sur les monuments typographiques de Jean Gutenberg. Il contient outre quelques notes plus ou moins utiles, écrites de ma vain». Падкрэсліванне ў арыгінале.

22 Fischer G. Notice du premier monument typographique en caractères mobiles avec date connu jusqu'à ce jour. Mayence, [1804]. [12 л.]. У гэтай працы, па ўласнаму прызнанню Г. Фішэра, ён памылкова прыпісаў Гуттэнбергу выданне, адзіны экзэмпляр якога захаваўся толькі ў Нацыянальнай бібліятэцы Францыі, «Almanac» альбо «Annuaire de l'an 1457, in folio oblongo patent». Гл.: ААД РНБ. Ф. 1. Воп. 1, 1850. Спр. 10. Арк. 181 адв.

23 Отчет Императорской Публичной Библиотеки за 1852 год. СПб., 1851. С. 107. Тое ж за 1853. СПб., 1854. С. 72.

24 Отчет императорской Публичной библиотеки за 1855 год. СПб., 1856. С. 73—74.

увагай казанні Новалацінскай музы, вынутыя намі цяпер з забыцця, і спрыяльна выслухаюць песнапенне яе пра гіганта Еўрапейскіх чацвераногіх»[25].

Падрыхтоўка паэмы да друку рабілася па экзэмпляры кракаўскага выдання 1523 г., атрыманага Бібліятэкай у дар двума гадамі раней (1853) ад свайго актыўнага прыватнага пастаўшчыка ў 50-я—60-я гады XIX ст., магістра багаслоўя, ксяндза Іосіфа Мікалаевіча Малышэвіча, які быў настаяцелем Брэсцкага, а затым Невадніцкага прыходаў[26]. Кніга знаходзілася ў канвалюце, які складаўся з пяці лацінамоўных выданняў XVI ст. (in 8°), заключаных, як пісаў Іосіф Малышэвіч, у суправаджальным лісце, «у адным старажытным пераплёце»[27]. Пачынаўся канвалют з сачыненняў Лукіяна, а зборнік М. Гусоўскага быў апошні. У рэестры ІПБ «для запісу кніг, гравюр і рукапісаў, што паступілі ў дар Бібліятэцы за 1853 год» гэты канвалют запісаны па першым алігаце: «Opera Luciani Philosophi...»[28] і перададзены на захаванне ў «Аддзяленне мовазнаўства, грэчаскіх і рымскіх класікаў». Пры бібліятэчна-бібліяграфічнай апрацоўцы кракаўскае выданне твораў М. Гусоўскага было ўзята з канвалюта і перанакіравана па прызначэнні ў аддзяленне «Rossica». На рукапіснай каталожнай картачцы таго часу з апісаннем гэтай кнігі на месцы шыфра пазначана: «12/vitrine», значыць яна знаходзілася на выставе ў 12-й вітрыне. Такія пастаянныя выставы былі арганізаваны ў Бібліятэцы ў 50-я гады XIX стагоддзя[29]. На іх былі прадстаўлены для ўсеагульнага знаёмства найбольш каштоўныя, рэдкія альбо заўважныя ў якіх-небудзь адносінах рукапісныя і друкаваныя помнікі ўсіх часоў і народаў. У прыватнасці, у вітрынах пад шклом ляжалі Астрамірава Евангелле, «Глас астатні да Бога» Сімяона Полацкага, пражскае выданне «Бібліі» (1517—1519) Францыска Скарыны, «Апостал» (1564) Івана Фёдарава і Пятра Цімафеева Мсціслаўца, выданні вандроўных друкарняў, інкунабулы Ёгана Гутэнберга, прадукцыя друкарняў Альдаў, Эльзевіраў і шмат што іншае. Кракаўскае выданне М. Гусоўскага «Carmen de stat-

25 Hussovianus Nicolaus. Carmen Nicolai Hussoviani de statura, feritate ac venatione bisontis. Cracoviae MDXXIII. Denuo excusum. Petropoli : Typ. Acad. Scient. Imper., MDCCCLV. C. VIII.

26 Пра яго і яго дзейнасць у якасці мецэната ІПБ гл.: Ткачэнка М. І. Дарыцель Імператарскай Публічнай бібліятэкі Іосіф Малышэвіч // Белорусский сборник : статьи и материалы по истории и культуре Белоруссии. СПб., 2002. Вып. 2. С. 174—179.

27 ААД РНБ. Ф. 1. Воп. 1, 1853. Спр. 6. Арк. 112.

28 Там жа. Воп. 4. Спр. 45. Арк. 10.

29 Пра выставы ў ІПБ гл.: Императорская Публичная библиотека за сто лет. 1814—1917. СПб., 1914. С. 302—308.

ura, feritate, ac venatione Bisontis» (1523) заняло сваё пачэснае месца сярод каштоўнасцяў Бібліятэкі.

Падрыхтаваў паэму Гусоўскага да друку Георг Беркхольц[30], які працаваў у аддзяленні «Rossica» ІПБ з 1852 г. да 1861 г. Ён вядомы як вучоны—філолаг (друкаваўся пад псеўданімам Юрый Летгола), гісторык, журналіст, рэдактар перыядычных выданняў «Baltische Monatsschrift» (1862—1869) і «Rigasche Zeitung» (1879—?), прэзідэнт Таварыства гісторыі і старажытнасцяў Прыбалтыйскіх губерняў (1875—1885). М. А. Корф высока ацэньваў эрудыцыю гэтага чалавека. У лісце да свайго памочніка князя Уладзіміра Адоеўскага[31] ён выказаўся так: «Асабліва рэкамендую Вашай увазе вольнапрацуючых Гена і Беркхольца. Гэта людзі настолькі вучоныя і разумныя, наколькі старанныя і добрасумленныя. Ce sont les perles de la Bibliothèque [Гэта пярліны Бібліятэкі. — І. З.]»[32]. Пра патрэбу выдання і прынцыпы падрыхтоўкі передруку паэмы М. Гусоўскага падрабязна сказана ў Прадмове: «Начальству Імператарскай Публічнай Бібліятэкі прадставілася не бескарысным выдаць зноў у свет знайдзенае паміж друкаванымі яе скарбамі старажытнае сачыненне пра зубра — кнігу, амаль зусім зніклую, пра пароду жывёл, амаль зусім вымерлую, астаткі якой захоўваюцца яшчэ толькі ў нашай айчыне, і то ў адной толькі яе мясцовасці. Паэма Гуссавіяна пра зубра, якая прапануецца цяпер у новым выданні, даўно ўжо лічыцца найвялікшай рэдкасцю. З навейшых пісьменнікаў па прыродазнаўству некаторыя хаця і ўспамінаюць пра яе «па паданні», аднак ніхто яе не бачыў. Так Брынкен, галоўны ляснічы казённых лясоў Царства Польскага, кажа, што ўсе яго намаганні дастаць дзе-небудзь твор Гуссавіяна засталіся безвыніковымі. (Гл. Mémoire descriptif sur la forêt Impérial de Bialowieza, Varsovie 1828, стр. 89). Вучоны бібліятэкар Залускіх Яноцкі ў 1776 годзе пісаў (Janociana. Tom. I, p. 125 і Tom. III, p. XXXV), што адзіны экзэмпляр успамянутай паэмы, які быў у іх бібліятэцы, «каварна скрадзены адтуль кніжным злодзеем, які сам быў імянітым паэтам». Адсюль відаць, што яшчэ за сто год таму назад



30 Беркгольц, (Беркхольц, Berkholz) Ягор Ягоравіч (Георг) (1817—1885), за падрыхтоўку выдання «Песня пра зубра» атрымаў 45 рублёў срэбрам (ААД РНБ. Ф. 1. Воп. 2 а, 1856. Спр. 4. Арк. 413). **Пра яго гл.**: Сотрудники Российской национальной библиотеки — деятели науки и культуры. СПб., 1995. С. 87—89.

31 Адоеўскі Уладзімір Фёдаравіч, князь (1804—1869) — памочнік дырэктара ІПБ у 1846—1861. **Пра яго гл.**: Сотрудники Российской национальной библиотеки — деятели науки и культуры. СПб., 1995. С. 384—390.

32 История Императорской Публичной библиотеки за сто лет. 1814—1914. СПб., 1914. С. 213.

і ў самой нават Польшчы, дзе гэта кніжка была выдадзена, яна належала да ліку тых бібліяграфічных рэдкасцяў, якія граф Іосіф Залускі называў белымі варонамі. Іначай, калі б існавала магчымасць купіць кніжку Гуссавіяна за грошы, то не было б за што асобе вядомай ісці на крадзёж, які яго зняславіў, як з другога боку і Залускі не абмінуў бы выпадку ізноў яе набыць. <…>. Невялікая гэта кніжка была надрукавана ў Кракаве, у Іераніма Віетара, у 1523 годзе, у м.<алую> 8—ю д.<олю> л.<іста> і прысвечана аўтарам каралеве Боне, жонцы Польскага караля Жыгімонта І. З нашай перадрукоўкі, выдаваемай усяго ў ліку ста экзэмпляраў, выключаны некаторыя дадаткі да арыгіналу, якія не маюць непасрэднай сувязі са зместам паэмы, а менавіта: выява на адвароце загалоўнага аркуша гербу герцагаў Міланскіх, з фаміліі якіх паходзіла каралева Бона, невялікія пры ім двухрадоўі ў праслаўленне саюзу дома Сфорцаў з Каралеўска-Польскім, прысвячэнне каралеве — і, нарэшце, некалькі дробных вершаў рознага зместу, якімі кніга заканчваецца. Астатняя, істотная яе частка, г. зн. самая паэма перадаецца тут цалкам, з магчымай далікатнасцю і дакладнасцю»[33].

Твор рыхтавалі да друку ў тэрміновым парадку, бо запрашэнне Таварыства датавана 17 кастрычніка, а ўрачыстасці былі прызначаны на 28 снежня. Кніга была надрукавана ў друкарні Імператарскай Акадэміі навук у снежні 1855 г. у колькасці 110 экзэмпляраў, за што Бібліятэка заплаціла друкарні 54 р. 58 к.[34]. З рахунку, што выставіла друкарня, высвятляецца, што 6 экзэмпляраў кнігі былі надрукаваны на веленевай паперы, астатнія 104 — на звычайнай, маркі «Роял», і што кошт веленевай паперы быў у пяць разоў большы, чым звычайнай. М. А. Корф быў задаволены якасцю друку. Адпраўляючы экзэмпляр новага выдання «Песні пра зубра» міністру Народнай асветы Аўрааму Нораву[35], ён пісаў: «Не магу не звярнуць добразычлівай увагі Вашай на далікатнае і, можна сказаць, мастацкае выкананне гэтай перадрукоўкі ў Друкарні Імператарскай Акадэміі Навук. Па высокай вартасці яе работ, якія з кожным годам больш і больш дасканалыя, гэта Друкарня хутка імкнецца заняць адно з ганаровых месцаў паміж першараднымі аффіцынамі [ад ням. Offizin — друкарня. — І. З.] Еўропы, і я абавязкам

33 Hussovianus Nicolaus. Carmen Nicolai Hussoviani de statura, feritate, ac venatione bisontis. Cracoviae MDXXIII. Denuo excusum. Petropoli : Typ. Acad. Scient. Imper., MDCCCLV. C. VII.

34 Там жа. Воп. 1, 1856. Спр. 8. Арк. 26—26 адв.; Воп. 2 а, 1856. Спр. 4. Арк. 149—150.

35 Нораў Аўраам Сяргеевіч (1795—1869) — дзяржаўны дзеяч і пісьменнік, міністр Народнай асветы ў 1854—1858.

лічу голасна выразіць перад Вамі тую ўдзячнасць, якую яна атрымала сабе ад начальства Публічнай бібліятэкі за бліскучае спрыянне ў прадпрынятым ёй выданні»[36].

Пераплёў надрукаваны тыраж пецярбургскі майстар Якаў Агац. З яго рахунку, выстаўленага Бібліятэцы, мы даведваемся, што 5 кніг ён пераплёў «у саф'ян па 4 р. [за штуку] — 20 руб., 1 «получше» — 6 р., 10 у тоўстай брашуроўцы па 40 кап. — 4 р., 94 у брашуры [мяккім пераплёце] па 10 кап. — 9 р. 40 к. Усяго: 39 р. 40 к. [срэбрам]»[37].

Экзэмплярам, што пераплецены «получше», быў, верагодна, паднасны для імператара. Сабе Бібліятэка пакінула тры кнігі. Дзве з іх, у мяккай вокладцы, былі накіраваныя ў фонд аддзялення Rossica, адна ў чырвоным саф'янавым пераплёце, — у калекцыю ўласных выданняў ІПБ. Гэтая калекцыя была створана ў 50—я гады XIX ст. Спецыяльна для яе адзін экзэмпляр кожнага выдання бібліятэкі, надрукаваны на веленевай паперы, заключаўся ў саф'янавы пераплёт з залатым цісненнем, меў муаравы форзац і залаты абрэз. Колеры пераплёту адрозніваліся паміж сабой і адпавядалі перыядам кіравання Бібліятэкай таго ці іншага дырэктара. У часы дырэктарства М. А. Корфа быў прыняты чырвоны саф'янавы пераплёт. Усе тры экзэмпляры кнігі і сёння захоўваюцца ў названых падраздзяленнях фонду Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі.



Пецярбургскае выданне «Carmen de statura, feritate, ac venatione Bisontis» мае фармат «у вялікую 4-ю долю аркуша» (26,5 см. х 34 см.), матэрыял у ім размешчаны ў наступным парадку: пасля тытульнага аркуша ідзе асобны аркуш з прысвячэннем Імператарскаму Маскоўскаму таварыству даследчыкаў прыроды, за ім ідуць прадмовы на рускай і лацінскай мовах, далей — тэкст паэмы, размешчаны на сярэдзіне старонкі з вялікімі палямі, якія, разам з арнаментаванымі ініцыяламі, надаюць выданню асаблівую прыгажосць. Як вядома, у тыя часы выданні з шырокімі палямі (édition sur grand papier) адносілі да паліграфічных ізыскаў, яны мелі асаблівую каштоўнасць сярод бібліяфілаў і кнігагандляроў. У ІПБ дзейнічала спецыяльная выстава такіх выданняў[38].

Перавыданне «Carmen de statura, feritate, ac venatione Bisontis» М. Гусоўскага ў продаж не паступала. Акрамя юбіляра, якому прызначалася гэта кніга, яна была разаслана ў дар універсітэтам, таварыствам, акадэміям, бібліятэкам, ганаровым сябрам і карэспандэнтам ІПБ у Расіі і за мяжой. Сярод прыватных асоб адным з першых новае выданне

36 ААД РНБ. Ф. 1. Воп. 1, 1856. Сп. 8. Арк. 9—9 адв.

37 Там жа. Воп. 2 а, 1856. Спр. 4. Арк. 108—109; Воп. 1, 1856. Спр. 8. Арк. 13.

38 Отчет Императорской Публичной библиотеки за 1851 год. СПб., 1852. С. 41.

разам з лістом падзякі ад імя дырэкцыі Бібліятэкі атрымаў ксёндз Іосіф Мікалаевіч Малышэвіч[39]. Падзяка яму выказана і ў прадмове да кнігі.

Водгукі на гэта выданне сучаснікаў, што паступалі на адрас Бібліятэкі, былі выключна станоўчымі. А. С. Нораў, дзякуючы М. А. Корфу за цудоўны экзэмпляр «вершаў Гуссавіяна», назваў яго «дарагім для філолага падарункам»[40]. У Дрэздэне Ю. Петцольд надрукаваў рэцэнзію на кнігу, адзначыўшы, у прыватнасці: «Імператарская бібліятэка зрабіла даступным вялікаму колу чытачоў сачыненне вельмі цікавае як па сваёй паэтычнай форме, так і асабліва па змесце. У гэтым выданні мы ізноў бачым памкненне Бібліятэкі праз публікацыі знаёміць вучоны свет са сваёй гісторыяй, <...>, са сваімі скарбамі, дапускаючы тым самым яго да карыстання гэтымі рэдкасцямі, з такога выпадку магу выказаць толькі самую шчырую ўдзячнасць»[41].

Сучасныя даследчыкі творчасці М. Гусоўскага ацэньваюць пецярбургскае перавыданне 1855 г. «Carmen de statura, feritate, ac venatione Bisontis» крытычна. Віктар Дарашкевіч як на недахоп паказвае, што на тытульным аркушы кнігі не прыведзены поўныя выходныя звесткі кракаўскага арыгіналу (не названа імя друкара), адсутнічаюць прысвячэнне аўтара і навуковы каментарый, не ўнесена праўка выяўленых самім М. Гусоўскім памылак друку ў выданні 1523 г., змешчаная ў канцы зборніка[42]. Апошняя заўвага важная. Не выдаецца за праўду, каб Георг Беркхольц, пры падрыхтоўцы паэмы да друку, не звярнуў увагі на аркуш з паказаннем памылак друку і не ўлічыў іх. Аднак сёння мы не можам сказаць, ці быў экзэмпляр кракаўскага выдання, што захоўваўся ў ІПБ, поўным. Як ужо адзначалася раней, ён паступіў у Бібліятэку пераплецены разам з іншымі чатырма кніжкамі і пасля быў забраны з канвалюта. Ці застаўся ў гэтым экзэмпляры апошні аркуш са спісам памылак друку, якія аўтар выявіў у першым выданні, застаецца невядомым, паколькі сам экзэмпляр у 1920—я гады быў вывезены ў Польшчу. Астатняя крытыка В. Дарашкевіча не зусім слушная. Навуковы каментарый у пецярбургскім выданні прысутнічае, ён знаходзіцца ў «Прадмове» да кнігі, якая змяшчае багаты гістарычны матэрыял, там жа названа і імя кракаўскага друкара. Прысвячэнне М. Гусоўскага каралеве Боне, у якім ён расказаў пра сябе і пра гісторыю стварэння паэмы, таксама

39 ААД РНБ. Ф. 1. Воп. 1, 1856. Спр. 8. Арк. 4—5.
40 АР РНБ. Ф. 380 (Корф). Воп. 1. Спр. 383. Арк. 3.
41 Neuer Anzeiger für Bibliographie und Bibliothekwissenschaft. Dresden, 1856. S. 163. Пер. з ням. В. А. Антонаў, гал. бібліёграф РНБ.
42 Дарашкевич В. Каментарыі // Гусоўскі М. Песня пра зубра. Мінск, 1980. С. [185].

змешчана ў кнізе. Яно працытавана ў «Praefatio» і дадзена ў добрым перакладзе на рускую мову ў «Прадмове». Усё, што выдаўцы не палічылі патрэбным уключыць з першакрыніцы ў перадрукоўку паэмы, спецыяльна абгаворана. Трэба разумець, што ІПБ не капіравала кракаўскі зборнік 1523 г., яна выпусціла новую кнігу, якая адрознівалася ад выдання XVI ст. «Carmen de statura, feritate, ac venatione Bisontis» паводле складу, дапаможнага апарату, фармату, паліграфічнага выканання і, натуральна, мае ўласны тытульны аркуш. Аднак, нягледзячы на свае прэтэнзіі, крытык прызнае, што пецярбургскае перавыданне «Песні пра зубра» 1855 г. было знакавым.

Значэнне гэтага выдання заключаецца перш за ўсё ў тым, што яно вярнула грамадству пасля трох стагоддзяў забыцця імя і творчасць вялікага паэта эпохі Адраджэння Мікалая Гусоўскага, якога сёння называюць «беларускім Гамерам», «самым вядомым паэтам Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесанса», а яго «Песню пра зубра» ставяць у адзін шэраг са «Словам аб палку Ігаравым», «Боскай камедыяй» А. Дантэ, «Панам Тадэвушам» А. Міцкевіча[43].



## Спіс рассылкі[44]

Hussovianus Nicolaus. Carmen Nicolai Hussoviani de statura, feritate ac venatione bisontis. Cracoviae MDXXIII. Denuo excusum. Petropoli : Typ. Acad. Scient. Imper., MDCCCLV. XII, 37 p.

43 Кавалёў С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу ... С. 74.

44 «Спіс рассылкі» адноўлены па чарнавых запісах, захаваных ў архіве РНБ (ААД РНБ. Ф. 1. Воп. 1, 1856. Спр. 8. Арк. 7—8, 12—12 адв., 15—15 адв.). У назвах устаноў Расійскай імперыі прапушчана слова «Імператарская(і,ае). Пры персаналіях названы званія, пасады, месца працы на момант рассылкі кнігі (снеж. 1855 — люты 1856). Адсутнасць ініцыялаў альбо іншых звестак азначае, што яны не знойдзены.

| РАСІЙСКАЯ ІМПЕРЫЯ | ЗА МЯЖУ |
|---|---|
| Імп. Аляксандр II<br><br>**Установы**<br><br>Акадэмія навук.<br><br>**Універсітэты**<br><br>Санкт-Пецярбургскі<br>Маскоўскі<br>Аляксандраўскі. Гельсінгфорс<br>Дэрптскі<br>Казанскі<br>Св. Уладзіміра. Кіеў<br>Харкаўскі<br><br>**Таварыствы, інстытуты, музеі, бібліятэкі**<br><br>Археалагічнае тав-ва.<br>Вольнае эканамічнае тав-ва.<br>Горыгорацкі земляробчы ін-т (м. Горкі, Аршанскі павет, Магілёўскай губ.).<br>Дэрптскае тав-ва даследчыкаў прыроды.<br>Казанскае тав-ва сельскай гаспадаркі.<br>Курляндскі правінцыяльны музеум. Мітава.<br>Ліфляндскае тав-ва сельскай гаспадаркі ў Дэрпце.<br>Маскоўскае тав-ва даследчыкаў прыроды.<br>Маскоўскае тав-ва гісторыі і старажытнасцяў расійскіх.<br>Адэская гарадская публічная бібліятэка.<br>Адэскае тав-ва гісторыі і старажытнасцяў.<br>Рыжскае тав-ва даследчыкаў прыроды.<br>Рускае Геаграфічнае тав-ва.<br>Эстляндскае літаратурнае тав-ва. Рэвель. | **Установы**<br><br>Каралеўская Акадэмія навук у Берліне (Königliche Akademie der Wissenschaften zu Berlin)<br><br>Каралеўская Акадэмія навук у Стакгольме (Académie Royale des sciences de Stockholm)<br><br>Акадэмія прыродазнаўчых навук у Філадэльфіі (Akademie der Naturwissenschaft zu Philadelphia)<br><br>Заолага-батанічнае тав-ва ў Вене (Zoologisch-botanischer Gesellschaft zu Wien)<br><br>Каралеўская і Дзяржаўная бібліятэка (K. Hof – und Staats Bibliothek). Мюнхен<br><br>Таварыства медыцыны і прыродазнаўства (Gesellschaft für Medizin und Naturwissenschaft). Дрэздэн<br><br>**Таварыствы прыродазнаўцаў (Gesellschaften für Naturforschung)**<br><br>у Бамбергу<br>у Галле<br>у Гамбургу<br>у Дрэздэне<br>у Штутгарце<br>у Эмдэне<br>Веттэраўскае … у Ганау (Ханау)<br>Зенкенбергскае у Франкфурце на Майне<br>Нассаўскае у Вейсбадэне<br>Рейнское у Майнцы<br>Швайцарскае у Берне<br>Швейцарскае у Цюрыху |

| Ганаровыя сябры, ганаровыя карэспандэнты, камісіянеры ІПБ, вучоныя, выдаўцы, рэдактары перыядычных выданняў. | Ганаровыя сябры, ганаровыя карэспандэнты, камісіянеры ІПБ, вучоныя, выдаўцы, рэдактары перыядычных выданняў. |
|---|---|
| граф Адлерберг У. Ф., мін. Імп. двара, ган. сябр.<br>фон Берг Э. К. – біб-р Батанічнага саду, ган. сябр.<br>граф Блудов Д. Н. – прэзід. АН, ган. сябр.<br>Булгарын Ф. В. – рэд.-выд. газ. «Северная пчела» і інш.<br>граф Віельгорскі М. Ю. – калекцыянер, мецэнат, ган. сябр.<br>Генадзі Г. Н. – бібліёграф, ган. сябр.<br>Грэч Н. І. – рэд.-выд. газ. «Северная пчела» і інш., ган. сябр.<br>Грыгорый, архіепіскап казанскі, ган. сябр.<br>Грот Я. К. – праф. Александраўскага ліцэя (былы Царскасельскі).<br>Давыдаў І. І. – дыр. Гал. пед. ін-та<br>князь Дземідаў А. Н. – бібліяфіл, мецэнат, ган. сябр.<br>Іваноў П. І. – дыр. маск. архіву М-ва юстіціі<br>Інакенцій, архіепіскап херсонскі і таврыдскі, ган. сябр.<br>Краеўскі А. А.– рэд. час. «Современник», «Отечественные записки» і інш.<br>Кунік А. А. – гісторык, акад., ган. сябр.<br>князь Лабанаў-Растоўскі А. Б. – дзярж. дзеяч, ган. сябр.<br>Макарый, епіскап вінніцкі, ган. сябр.<br>Малышевіч І. М., ксендз, ган. кар.<br>Музаркевіч Н. Н. – дыр. Рышыльеўскага ліцэя. Адэса.<br>Мухлінскі А. О. – выклад. турэц. мов. у Пецярб. ун–це.<br>Ніканор, мітрапаліт санкт-пецярбургскі і ноўгародскі, ган. сябр.<br>Нікіценка А. В – філол., праф. Пецярб. ун-та, сапраўдны член АН<br>Нораў А. С. мін. Народнай асветы, ган. сябр. | Ашэр А. (Asher A.), кнігагандляр, каміс. Берлін<br>Бракгауз Ф. А. (Brockhaus F. A.), выдавец, каміс. Лейпцыг<br>Бэр І. (Baer J.), кнігагандляр, каміс. Франкфурт на Майне<br>Валенберг Г. (Wahlenberg H.), батанік. Стакгольм<br>Вейгель Т. О. (Weigel T. O.), кнігагандляр, выд., ганар. кар. Лейпцыг<br>фон Вурцбах Танненберг К. (von Wurzbach Tannenberg C.), дыр. адм. б-кі пры МУС Аўстрыі, ганар. кар., Вена<br>Ганка В. (Hanka V.), біб-р і архіварыюс Пражскага нац. музея, ган. сябр. Прага<br>Гейсснер Ф. (Heussner F.), выд. «Bulletin du bibliophile belge». Бруссель<br>Гофман (Hoffmann), біб-р, ган. кар. Гамбург<br>Клемм Г. Ф. (Klemm G. F.), біб-р Дрэздэнскай каралеўскай б-кі, ган. кар. Дрэздэн<br>Петцольд Ю. (Petzholdt J.), бібліёграф, рэд. часоп. «Neuer Anzeiger für Bibliographie und Bibliothekwissenschaft», ган. кар. Мюнхен<br>Перц Г. Г. (Pertz G. H.), біб-р Берлінскай Каралеўской бібліятэкі, ган. сябр. Берлін<br>Фебус Ф. (Phoebus Ph.), д-р медыцыны. Гіссэн (Giessen) |

князь Абаленскі М. А., дыр. маск. Гал. архіву МЗС, ган. сябр.
Очкін А. Н. – выд.-рэд. газ. «Санкт-Петербургские ведомости».
граф Панін В. Н. – мін. Юстыцыі, ган. сябр.
Плятнёў П. А. – рэктар Пецярб. ун-та
Пагодзін М. П. – бібліяфіл, калекцыянер, выд. час. «Москвитянин», ган. сябр.
Палтарацкі С. Д. –бібліяфіл, ган. сябр.
граф Сансэ Э. А. – сакр. М-ва імп. двара.
Сідонскі Ф. Ф. – протаіерэй Казанскага сабора.
Сабалеўскі С. А. – бібліёграф, бібліяфіл, ган. сябр.
Сразнеўскі І. І. – філол.-славіст, акад.
Строеў П. М. – гісторык, археограф, ган. сябр.
Струвэ О. В. – пам. дыр. Пулкаўскай абсерваторыі, акад.
Туркул І. Л. – мін. статс-сакратар Царства Польскага.
Ундольскі В. М. – бібліёграф, калекцыянер, ган. сябр.
Ціханраваў Н. С. – гіст. рус. літ., выкл. Маск. ун–та.
Ціханраваў К. Н. – рэд. «Владимирских губ. ведом.».
Чарткоў А. Д. – бібліяфіл, мецэнат, ган. сябр.
Шевыроў С. П. – рэд.-выд. час. «Москвитянин», акад.

**Супрацоўнікі ІПБ**

Беркхольц Г.
Бычкоў А. Ф.
Касовіч К. А.
Мінцлоў Р.
князь Адоеўскі В. Ф.
Сабальшчыкоў В. І.

Рейхенбах Г. Г. (Reichenbach H. G.), д-р філас., прыродазнавец. Дрэздэн

Фрыдлендэр Ю. (Friedländer J), нумізмат, дыр. музея. Берлін

Цухольд Э. (Zuchold E.), ган. кар. Лейпцыг

Шмідт Г. В. (Schmidt H. W.), кнігагандляр, каміс. Галле.

Эрэнберг Х. Г. (Ehrenberg Ch. G.), д-р мед. Берлін

*Pidłypczak-Majerowicz M.*

# Biblioteki bazyliańskie na ziemiach Białorusi



Źródłem dla opracowania tematu są: «Inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej» opracowane przez Urszulę Paszkiewicz z Biura Pełnomocnika Rządu ds. Dziedzictwa Narodowego przy Ministrze Kultury i Dziedzictwa Narodowego, opracowanie P.P. Gacha: «Kasaty zakonów na ziemiach dawnej Rzeczypospolitej i Śląska 1773—1914» i własne badania autorki w Historycznych Archiwach Białorusi i Litwy[1]. Wstępne obliczenia na podstawie powyższych źródeł wskazują, że na Białorusi klasztorów z ujawnionymi inwentarzami bibliotecznymi — rzymsko-katolickich i unickich — było 125, w tym monasterów bazyliańskich było 20 — 19 męskich i 1 monaster żeński. Zdecydowana ich większość, bo 12 była na Ziemi Brzeskiej. Podane tutaj liczby dotyczą klasztorów rozmieszczonych w dawnych województwach — brzeskim, poleskim, białostockim, trockim, nowogródzkim, mińskim oraz guberniach mohylewskiej, mińskiej, grodzieńskiej i witebskiej. Podziały administracyjne zachodnich ziem imperium rosyjskiego w XIX stuleciu były modyfikowane, co utrudnia konkretną administracyjną lokalizację placówek zakonnych bazylianów. Odnotowane przez U. Paszkie-

1 Paszkiewicz U. Inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej (spis za lata 1510—1939). Warszawa, 1998 ; **Taż:** Inwentarze i katalogi bibliotek z ziem wschodnich Rzeczypospolitej do 1939 roku. Suplement 1. Warszawa, 2000 ; **Taż,** toż, Suplement 2. Poznań, 2006 ; Gach P. P. Kasaty zakonów na ziemiach dawnej Rzeczypospolitej i Śląska 1773—1914. Lublin, 1984.

wicz inwentarze potwierdzają ten stan rzeczy wskazując według administracyjnego podziału lokalizację monasteru bazyliańskiego w czasie wizytacji. W województwie brzeskim do lat trzydziestych XIX stulecia funkcjonowało też ponad sto cerkwi unickich znanych z inwentarzy majątkowych aż do likwidacji w 1839 roku. Były pod zarządem diecezjalnym Kościoła unickiego. Zarówno w klasztorach bazyliańskich jak w wymienionych cerkwiach były książki, co potwierdzają inwentarze majątkowe cerkiewne i biblioteczne bazylianów[2]. Większość inwentarzy ujawniona przez U. Paszkiewicz datowana jest na rok 1759, 1784, mało jest inwentarzy z lat 1788, 1799, 1809, 1818, 1820 i 1822, zaledwie po jednym lub dwa z danego klasztoru. Prawie wszystkie inwentarze sporządzone w bibliotekach klasztorów bazyliańskich wykonano już na początku XIX wieku z polecenia biskupa diecezji brzeskiej Józefa Bułhaka. Warto im się uważniej przyjrzeć, informują bowiem nie tylko o ilości ksiąg zapisanych w inwentarzach klasztornych, zawierają także nazwiska opatów, superiorów, wizytatorów oraz powody dokonywanej wizytacji i inwentaryzacji w monasterach i cerkwiach. W klasztorach bazylianów w Kobryniu, Antopolu, Czerlonie i Grodnie spisano posiadane księgi w latach 1747—1800 i później, w XIX wieku. W klasztorze antopolskim bazylianów w latach 1786—1787 odnotowane zostały księgi cerkiewne, księgi po śmierci bazylianina Porębskiego, które weszły do majątku klasztornego oraz księgi kupione za pieniądze. Tak sporządzony inwentarz całego majątku monasterskiego podpisał 5 października 1788 roku ksiądz Teodozjusz Goyżewski, sekretarz prowincji litewskiej bazylianów[3]. W tym samym roku przygotowany został kolejny inwentarz klasztoru z okazji przekazania władzy w klasztorze ks. Ignacemu Baranowskiemu w dniu 5 grudnia. Do inwentarza dodano specyfikację nabytków za rządów ks. Cypriana Czachowskiego datowaną 8 lipca 1787 roku. Nabytki pochodziły od biskupa pińskiego ks. Horbackiego. Powtórzone w tym dokumencie są hasła z poprzedniego inwentarza: «Księgi do biblioteki, Xięgi (!) post fata P. Porębski, Xięgi (!) za pieniądze kupione»[4]. W końcu XVIII wieku biblioteka antopolskich bazylianów liczyła 624 dzieła w układzie działowym[5]. W początkach XIX wieku próbowano policzyć księgi posiadane przez bazylianów w Antopolu. Wizytacja klasztoru nakazana przez biskupa J. Bułhaka i rozpoczęta 28 grudnia 1804 roku wykazała, że w bibliotece klasztornej były też cenne księgi. Wizytator ks. Jan Kórhanowicz zapisał:

2 Paszkiewicz U. Inwentarze... Suplement 1, 2.
3 Op. cit., Suplement 1, poz. 3 ; CPAHLw. rps F 201, op. 4, spr. 388a.
4 Op. cit., Suplement 1, poz. 4 ; CPAHLw. rps F 201, op. 4, spr. 388a.
5 Op. cit., Suplement 1, poz. 5 ; CPAHLw. rps F 201, op. 4, spr. 388a.

«Zrewidowałem klasztorną bibliotekę do pięciuset z górą ksiąg wynoszącą»[6]. Następny inwentarz klasztoru sporządzony 20 grudnia 1828 roku z powodu obrania nowego superiora klasztoru ks. Jozafata Raczyńskiego a zarządzony przez ks. Jozafata Żarskiego, nowo obranego prowincjała prowincji litewskiej zakonu ujawnił, że klasztor posiadał «Xięgi (!) do nabożeństwa i porządku cerkiewnego służące» — 22 dzieła, a biblioteka klasztorna w układzie działowym liczyła co najmniej 380 dzieł. W inwentarzu biblioteki odnotowano także «Dzieła mówców, poetów, gramatykow (!) i dykcjonarze w ilości 23 dzieł. Inwentarz podpisany został przez ks. Nikodema Marcinowskiego, bazylianina, rektora i komisarza»[7].

W Czerlonie monaster bazyliański przechodził w 1799 roku pod rządy ks. Palladiusza Zaffataia i sporządzony wówczas inwentarz monasteru potwierdzał posiadanie przez klasztor ksiąg cerkiewnych a «biblioteka monasterska składała się z niewielu książek, z których większa (!) połowa są cale nieużyteczne. Wszystkich rejestr oddzielnie teraz sporządzony zweryfikowałem i podpisałem zaleciwszy go konserwować przy składzie książek»[8]. Niestety, w zachowanych w wileńskim Archiwum Historycznym dokumentach brakuje tego rejestru. Inwentarzy wykazujących istnienie i majątek monasteru w Czerlonie zachowało się 13, spisane zostały w latach 1706—1811, zachowały się w Bibliotece AN Litwy w zbiorze rękopisow pod sygn. F. 17 — 138[9]. W 1800 roku biskup Jozafat Bułhak zarządził wizytę generalną u bazylianów grodzieńskich oraz spisanie inwentarza monasteru bazylianów w Kobryniu. W Grodnie prowincjał zakonu napisał: «Zrewidowałem ubożuchną bibliotekę do sta (!) książek nie wynoszącą. Znacznieysze między temi (!) [...]», około 10 dzieł, księgi cerkiewne prowincjał też znalazł [10]. W protokole wizyty z 1805 roku odnotowano, że «Biblioteczka szczupła, także podług regestru w szafie iedney (!) cerkiewney iest w swoiey zupełności». Również w protokołach wizyt z 7 lutego i 18 września są skąpe informacje o bibliotece: «Przejrzałem tutejszą niewielką biblioteczkę pięknie uporządkowaną, która w językach polskim i łacińskim liczy ksiąg rozmaitych około dwustu set. Wszystkie są pisane w moralnych, historycznych i innych uczonych przedmiotach. Znalazłem też Xięgi chorowe [...] 16 dzieł w 28 woluminach»[11]. W informacji zbiorczej wizytacji z 1821 roku jest krótka notatka potwierdzająca, że biblio-

6 Op. cit., Suplement 1, poz. 6 ; LPAHWil. rps 567, op. 2, d. 87.
7 Op. cit., Suplement 1, poz. 7 ; LPAHLw. rps 201, op. 4, spr. 388.
8 Op. cit., Suplement 1, poz. 102 ; BANLWil, rps F 17—138.
9 Op. cit., Suplement 1, poz. 91—103.
10 Op. cit., Suplement 1, poz. 177 ; BUWil. rps F 4-35655 (A-2295).
11 Op. cit., Suplement 2, poz. 239 ; BUWil. rps F4-35-558 (A-2298).

teka liczy 200 książek[12]. Natomiast w inwentarzu klasztoru grodzieńskiego z 7 lutego 1829 roku zanotowano: «Księgi do nabożeństwa cerkiewnego służące [...] dzieł 13» oraz «Biblioteka klasztorna i nowa mająca przybądź (!) po śpiącym opacie Bazylim Połońskim umieszczona jest w udzielnych szafach i w udzielnej stancyi klasztoru». Z notatki wizytatorów księży Wiktora Bosiackiego, Michała Owacewicza i administratora opactwa bazyliańskiego ks. Wiktora Buczyńskiego oraz braku spisu książek można wnioskować, że książki po opacie Bazylim Połońskim wraz z książkami bibliotecznymi czekały dopiero na spisanie[13]. W 1853 roku opisana została Cerkiew i Riznica Grodzieńskiego Borysohlebskiego Muzskago Monastyrja, stwierdzona wówczas, że w bibliotece mnichów prawosławnych były także dzieła z dawnej biblioteki bazylianów unitów[14]. Spis sporządzony w 1877 roku ujawniał książki z bibliotek bazyliańskich w Grodnie i Torokaniach. Wykonanie spisu zarządził Litewski Duchowny Konststorz, w spisie zamieszczono wykaz książek z wymienionych monasterów, które należało przenieść do Wileńskiej Biblioteki Publicznej. Wykaz podpisał namiestnik klasztoru grodzieńskiego archimandryta Narkiss[15].

W Kobryniu inwentarz klasztoru z 18 grudnia 1741 roku mieści informację, że ksiąg cerkiewnych było 14 dzieł. Dodana do tej informacji nota zwiększa te dane: «Przy teyże Cerkwi na Bramie Xiąg bibliotecznych na Sali na Wrotach będącey zostających tak Ruskich, Polskich y Łacińskich rożnych autorow małych i wielkich książek In Nro 184. Tamże Xiążek włoskich y Greckich in Nro 36»[16]. Inwentarzy opactwa kobryńskiego zachowało się kilka. Po 1741 roku następne inwentarze klasztoru spisane zostały w latach 1800, 1803, 1804, 1826, 1834 i 1836. W 1800 roku zapisano: «W pierwszey stancyi opackiey od sali we framugach umieszczona biblioteka tymczasowa bez klassifikacyi (!) autorow [...]. W teyże Bibliotece naiduią (!) się wiele panegirykow, książki Russkie y Polskie in Foli (!), in 4to, in 8vo, manuscriptow powiązanych nieoprawnych»[17]. W 1803 roku kommisarz (!) potwierdzał tylko istnienie biblioteki ułożonej według formatów[18]. Wizytator ks. Jan Kórhanowicz w 1804 roku stwierdzał: «Oglądałem takoż bibliotekę [klasztorną — *M. P.-M.*] blisko z czterechset ksiąg w znaczney liczbie pisanych y mniey

12 Op. cit., Suplement 2, poz. 239 ; BUWil. rps F4-35656 (A-2296).
13 Op. cit., Suplement 1, poz. 179 ; BUWil. rps F4 -35660 (A-2300).
14 Op. cit., Suplement 1, poz. 180 ; CPAHLw. rps 201 op. 4, spr.546.
15 Op. cit., Suplement 1, poz. 905 ; BUWil. rps F 3 — 188.
16 Op. cit., Suplement 2, poz. 431 ; CPAHLw. rps F 201, op.4, spr.457a.
17 Op cit., Suplement 1, poz. 271 ; NAHB Grod. rps F 1143, op.1, d. 101.
18 Op. cit., Suplement 1, poz. 272 ; NAHB Grod. rps F 1143, op.1, d.101.

*Нікалаеў М.В.*

# Магнаты Сапегі як феномен беларускай культуры (палеміка з Львом Крыштаповічам)



Увага да Сапегаў на Брэстчыне асаблівая — тут іх радавыя гнёзды. Ружана, Кодань, недалёкі Дзярэчын, ды й сам Брэст з сапегаўскім палацам у старым горадзе (зараз гэта тэрыторыя крэпасці, падмуркі палацу знаходзяцца на незабудаваным месцы за гарнізоннай царквой). Прадуктыўная праца па рэстаўрацыі і кансервацыі гэтай спадчыны працягваецца значны час і ўзнагароджвае сваімі вынікамі як спецыялістаў, так і тысячы турыстаў, якія наведваюць сталую экспазіцыю ў Ружанскім замку альбо часовыя «сапегаўскія» выставы ў Вільні і Кракаве[1]. Не ўсё, аднак, адбываецца пры «бесхмарным небе». 15 сакавіка 2012 г. у Мінску прайшоў круглы стол «Рэлігійны фактар нацыянальнай бяспекі Рэспублікі Беларусь», пра што шмат пісалі мас-медыя[2]. Падчас гэтай канферэнцыі выступаў доктар філасофскіх навук Леў Крыштаповіч: «Мы павінны культываваць і развіваць нашы нацыянальныя традыцыі, — заклікаў вучоны. — Праўда, часам пад імі пачынаюць прапагандаваць такія традыцыі, якія, я лічу, не маюць нічога агульнага з ментальнасцю нашага народа. Калі ў нашу бела-

1 Sapiehowie. Kolekcjonerzy i mecenasi. Katalog wystawy. Kraków, 2011; Kryžiai yra dorybės ženklas, o Strėlė — pergalės... Sapiegos — valstybininkai, meno mecenatai ir kolekcininkai. Tarptautines parodos katalogas. Vilniaus paveikslų galerija 2012 m. vasario 16—gegužės 20 d.

2 Гл., напрыклад: http://forums.tut.by/showthread.php?t=14058198&page=6

рускую культуру цягнуць Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх як прадстаўнікоў беларускіх шляхетных родаў. Гэтыя імёны прыналежаць іншай культуры, іншай ментальнасці». Можна было б не заўважыць гэтага пасажу, пабудаванага на архаічнай сацыялагічнай (нават вульгарна-сацыялагічнай) схеме, паводле якой у даўнія часы Беларусь засяляюць «нашыя» рахманыя беларусы («паны касы і сахі»), а «чужынцы» (іншаземцы-захопнікі) іх усялякімі спосабамі прыгнятаюць. Мы б так і зрабілі, калі б Л. Крыштаповіч не ўспамянуў пра «іншую ментальнасць» беларускага народу адносна Сапегаў (якія прадстаўляюць, па словах Л. Крыштаповіча, «іншую культуру»).

Каб аспрэчыць тэзіс філосафа, мы паспрабуем глянуць на Сапегаў зыходзячы з палажэнняў тэорыі этнічнай рэчаіснасці: «ментальнасць вызначае сабой светаўспрыманне этнасу, а менталітэт — яго светаразуменне. У гэтым сэнсе ментальнасць з'яўляецца перадумовай самаўсведамлення этнасу і першаснай асновай яго самаідэнтыфікацыі, а менталітэт — ядром этнакультурнай самасвядомасці і этнічнай самаідынтэфікацыі. Менавіта адзінства ментальнасці і менталітэта і складаюць "псіхакультурную цэласнасць этнасу"»[3].

Для параўнання ментальнасці магнатаў Сапегаў і «звычайных» гараджанаў-беларусаў, жыхароў Слоніма і Наваградка, Вільны і Мінска прыгадаем падзеі, якія адбыліся на працягу 1629—1631 гг. Беларусь у гэты час з'яўляецца часткай Вялікага Княства Літоўскага, якое, у сваю чаргу, разам з Польшчай складае Рэч Паспалітую —"Panstvo biez stosów" — талерантную адносна Заходняй Еўропы «дзяржаву без кастроў», па вызначэнні Януша Тазбіра (Janusz Tazbir), выдатнага сучаснага польскага гісторыка старэйшага пакалення.

* * *

Пачатак справы: 1629 год. У горадзе Слоніме жыве баба Паўлюковая Кароткая, на якую паскардзіўся ў суд Томаш Кругельскі як на ведзьму-чараўніцу, за счараванне яго жонкі. Па загадзе Слонімскага старасты (ён жа пан маршалак ВКЛ) жанчыну судзілі: прыгавор — смяротны, засудзілі «на горла»[4]. Аднак падчас суда тая Паўлюковая Кароткая пачала казаць, што счараваная пані Кругельская гэта не ўсё — рабілася

3 Чарняўская Ю.В. Ментальнасць і менталітэт у этнічнай рэчаіснасці [Электронны рэсурс]. URL http://be.convdocs.org/docs/index-2063.html (дата доступу 17.02.2013)

4 Археографический сборник документов относящихся к истории Северозападной Руси изданный при управлении Виленского учебного округа. Т. 3. Вильна, 1867. С. 128—165.

чараванне супраць самога пана маршалка. Тады суддзі-асэсары Адам Калантай, гродскі ваўкавыскі суддзя, Мікалай Кандэраўскі, слонімскі падстараста, паны Ян Заранак і Аляксандр Цехановіч «учынілі пільную інквізіцыю» (уважлівае расследаванне).

Шумны судовы працэс супроць жанчыны-чараўніцы ўсхваляваў усё Наваградскае ваяводства, пры гэтым суд засядаў у нязвыклым стане: «без позванья его милости пана судьи земского Новгородского, который вжо съ тое справы у суду головным очевисто зрекъ се».

Найвышэйшы маршалак Вялікага княства Літоўскага (пасада, роўная міністру ўнутраных спраў і міністру двара) — падаў у Трыбунал (вышэйшы суд) Вялікага княства скаргу на жонку папа Марціна Грамыкі — Раіну Мінкоўскую Марцінавую Грамычыну. Яна абвінавачвалася ў здольнасьці *«да розных чараў і гуслаў, якіх умее навучыўшыся не з прыстойных навук, доктарскіх школьных, але з навукі злой, шкадлівай»*: вылівання волава, пакурэння дзяцей, складання розных напояў, шаптання. Акрамя гэтых «звычайных» чараў пападзя абвінавачвалася ў супрацоўніцтве са злымі духамі (таксама як і з добрымі), выкарыстанні для чараў касьцей сьвятых, знішчэнні скаціны, спаленні Слонімскага замку. Самае горшае з абвінавачванняў было ў тым, што яна быццам бы спакушалася на здароўе і сямейнае шчасьце маршалка Сапегі: праз дваровую прыслугу дзеўку Федарыцу хацела атрымаць (без сумневу для чаравання) падкову каня яго міласці, а калі пан Сапега быў у слонімскім доме войскага Андрэя Афанасовіча, *«тады пан Афанасовіч недапіўкі яго міласьці са шкляніц збіраў і Грамычынай пападдзі падаваў, а яна насіла іх у камору і там супраць пана маршалка чаравала»*.

Судовы працэс вёўся амаль паўгода. Абвінаваўцы прадставілі сьведак (цікава, што сярод сьведак выступалі адзін немец і адзін жыд). Сьведкаў абароны не было. Хаця «умоцаваны» (абаронца) Раіны Грамычынай пан Юры Мор гаварыў сваю прамову «гадзіны дзьве зэгаровых часу» і паказваў на невінаватасьць падсуднай, прысуд быў бязьлітасны: *«якобы так шкодлівая і скрытая злосьць паміж людзі не множылася, і каб ад такое нязбожнасьці і чарадейства другія да гэдакай справы ўцягнуты не былі, памяненую Марцінавую Грамычыную, пападдзю высоцкую, пярвей на пакуты, па дасьведчанню і дазнанню і на горло спаленнем.»*

Няшчасны муж Раіны! — просты сьвятар Марцін Грамыка не мог ратаваць сваю жонку перад абвінавачваннямі аднаго з самых уплывовых магнатаў краіны. Грамыка прыехаў у Наваградак, дзе знаходзілася на Замку «у вязені» яго жонка і дзе меў адбыцца суд; аднак супраціўны бок прымяніў сілу і ўсе, што мог зрабіць поп Марцін, гэта далажыць

суду аб уціску; заява ягоная, ад 6 кастрычніка 1631 г., была занатавана і захавалася:

*«...ішоў есмі з дому ад пана Юр'я Мораго* [адваката,-М.Н.] *на вуліцу Дубатоўкскую, не могучы пана Морого з Слоніма дачакацца, наумысна хоцячы старацца пра пленіпотэнта* [падтрымку-М.Н.] *малжонцы маей, каторую яго міласьць пан маршалак вялікі ў вязені сваім мае, нет ведама для чаго; на рочкі* [штогадовае судовае паседжанне - М.Н.] *яе тут да Наваградка прыправодзіў. За чым, толькі мінуў дом яго міласьці пана Шэмета, там жа мяне спаткалі немцы яго міласьці пана маршалка і гайдукоў чатыры; пачалі мне казаць: а ты, попе, для чого се за тою бабою своею тут валочышся, будзе табе з ёй ліха! І пачалі мне пагражаць, гаворачы: Канечне, хлопе, будзеш ты ад нас пад абухамі! А немцы пачалі гаварыць па нямецку і паказваць з бандалетаў, мерачы* [прыцэльваючыся] *і вусна мовячы: пан хлоп, будзеш біты! Так я з вялікага страху мусіў дадому пайсьці і баяўся ісьці на суд жонкі маёй і бараніць яе ў невінаватасьці. Па чыім яны загаду то рабілі я не ведаю. Баючыся на потым аблыгання, прашу, каб гэтае маё апавяданне было запісана для будучага часу.*



*Што есьць запісана. А па запісанню выпіс пад ... урадавымі пячаткамі выданы патрабуючай старане.*

*Пісаны ў Наваградку. Самуэль Маскевіч пісар.»*.

Запіс аб збройным нападзенні на сьвятара мог бы быць разгледжаны ў судзе і як сьведчанне супраць абвінавачваючага боку, бо закон забараняў прыязджаць на судовыя рокі «збройно и з гайдуками або драбы» (Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 году, Раздзел IV. Арт. 52.). Аднак жа з другога боку быў радны пан Ян Сапега, які падпадаў пад іншае вызначэнне таго ж Закону, якое дазваляла панамрадзе мець пры сабе слуг «водлугъ важности достоенъства и потребы своее»!

Пакаранне Раіны Грамыкі адбывалася напрацягу двух дзён. 15 Снежня «на Замку Наваградскім» ей рабілі пытку. У прысутнасьці двух упаўнаважаных («генералаў возных» — Яраша Сянчылы ад Наваградскага ваяводства і Станіслава Шымакоўскага ад Віленскага) і пяці шляхцічаў адбыўся допыт. У пратаколе засьведчана, што пападдзя яшчэ да пыткі (*«яшчэ не наступіўшы на драбіны»*) казала, што не яна чаравала, а рабіла гэта пісарыха пані Афанасовічава. «*Калі ж майстар* [кат - М.Н.] *цягнуў і пытаўся ці сама дазналася тых чараў, якімі многім людзям памагала і шкодзіла, то адказвала: не, не сама, але ведаю, што чаравала пані Афанасовічавая з варажбітам Карпам, які жыве ў маёнтасьці*

*Апанасовічавай у Верабеевічах з баяркай Шыцікавай, — а чаравалі, каб* [пан маршалак Ян Сапега - М.Н.] *не жаніўся і каб мужчынскай сілы не меў; і гэта паўтарала спушчаная з мукаў, стоячы яшчэ вэдле драбіны, гаворачы: бадай той пані Афанасовічавай так было, як мне.*».

Праз два дні *каралі на горла*: «...*дня сямнаццатага сьнежня вывезлі яе да стосу дроў на поле за горад на спаленне; генералы пыталіся, ці не наракла яна на людзей невінных, то казала, што ўсё гаварыла праўду, а толькі тады, калі стаяла на стосе дроў і праз напамінанне розных асобаў, тады толькі памянёную пані Шыцікавую адмовіла, сказаўшы, што гэта ад зайздрасьці да яе ўчыніла, і гэта сказаўшы ў агні памерла*».

Працэсы над чараўніцамі адбываліся ў 16—18 стагоддзях у розных гарадах Вялікага Княства Літоўскага[5]. Прынамсі, у 1668 г. магілёўскі магістрат засудзіў на спаленне мяшчанку Магілёва, якую абвінавацілі ў чараўніцтве. Афіцыйна смяротную кару за чарадзейства адмянілі ў 1776 годзе.

Тым часам паляванне на чараўніц у маёнтках Яна Станіслава Сапегі працягвалася. У 1631 г. два ўраднікі Яна Станіслава Сапегі — Андрэй Кноф (Andrzej Knoff) і не названы па імені Злоцкі (Złocki), намеснік слонімскага падстарасты, праводзілі ў маёнтках маршалка ВКЛ следства ў справе падазравання ў чараванні. На мэце было спраўдзіць, ці не займаўся чарамі адзін з падданых маршалка літоўскага, па прозвішчу Кудравец, разам са сваёй жонкаю, дачкою і чалядніцаю. Падазрэнне зыходзіла ад суседа — не названага па імені Перавалоцкага, які ўжо шмат гадоў прыватна канфліктаваў з Кудраўцом. Калі б чараўніцтва было даведзена, суседская калатня магла мець далёкасяжныя наступствы для Кудраўца і яго сям'і. Ураднікі Яна Станіслава Сапегі выконвалі сваю працу надзвычай скрупулёзна і неангажавана. Распыталі бліжэйшых і далейшых суседзяў сям'і Кудраўцоў. У выніку стварыўся праўдзівы вобраз сітуацыі. Менавіта Перавалоцкі, які меў не найлепшае рэнамэ сярод суседзяў, каб адпомсціць Кудраўцу і яго сям'і, беспадстаўна абвінаваціў яго ў чараўніцтве. Апісанне следства не здымае адназначна віны з Кудраўца і яго сям'і, але выразна паказвае, што іх абгаварыў Перавалоцкі. У поле зроку следства трапілі і іншыя суседзі Кудраўца — Лявон Грынцэвіч і яго жонка. Яны паведамілі адно са здарэнняў, звязаных з жонкай Кудраўца, якая запэўнівала хворую жонку Грынцэвіча ў

5 Raganų teismai Lietuvoje — Судебные процессы над ведьмами в Литве / Ed. K. Jablonskis, R. Jasas. Vilnius, 1987. — 433 p. ; Pilaszek M. Litewskie procesy czarownic w XVI—XVIII w. // Odrodzenie i Reformacja w Polsce. 2002. T. XLVI [46]. S. 7—21.

хуткім выздараўленні, што фактычна і адбылося. Гэта магло быць праявай яе звышнатуральных здольнасцяў, а гэтым самым — яе сувязяў з нячыстай сілай. Хаця паведамленне Лявона Грынцэвіча і яго жонкі не дае адназначнага вырашэння гэтага пытання[6].

Галоўным «заказчыкам» праведзеных следстваў і судовых працэсаў быў бяздзетны старэйшы сын Льва Сапегі ад першай жонкі Дароты Фірлей Ян Станіслаў Сапега. У маладосці ён вучыўся ў Віленскай Акадэміі і ў Браневе, а потым працягваў штудыі ў Вюрцбургу, Франкфурце і Парыжы. У 1593 г. стаў старастам Маркава і Мядзела, а ў 1605 г. — судовым слонімскім старастам. У 1611 г. атрымаў ад Жыгімонта III урад надворнага маршалка літоўскага, а ў 1620 г. — вялікага маршалка літоўскага (на сучасны пералік — міністра ўнутраных спраў). «Тэнскнота» пана маршалка, пра якую ўспамінаюць судовыя дакументы, дае падставу гісторыкам пісаць, што пад канец жыцця ў Яна Станіслава Сапегі з'явіліся сімптомы псіхічнай хваробы, і гэта непасрэдна паўплывала на распачынанне ў яго маёнтках палявання на чараўніц[7]. Як бы там ні было, але пакуль Ян Станіслаў Сапега не памёр (10 красавіка 1635 г.), усе чараўнікі-лекары патэнцыяльна былі пад падазрэннем.



Суды і следства над падазраванымі праводзіліся паводле права — Статута ВКЛ — адным з аўтараў і выдаўцом якога быў жывы яшчэ і паўнамоцны (займаў вышэйшую ў дзяржаве пасаду віленскага ваяводы) бацька Яна Станіслава — Леў Сапега. Сваяком «пацярпелага боку» быў і правадзейны наваградскі ваявода (1618—1638) Мікалай Крыштаф Сапега.

Захаваныя ў пратаколах гэтых судовых працэсаў прамовы падазраваных (і пакараных) чараўніц дазваляюць нам сумнявацца ў шмат якіх момантах следства, але адно бясспрэчна — ні ў суддзяў і следчых, ні ў «пацярпелых», ні ў аскарджаных, сама магчымасць чаравання (у тым ліку чаравання простай жанчыны супраць высокага дзяржаўнага ўрадніка) не выклікала сумневу. А ні Сапегі не адмяжоўваюцца тут ад сваіх падданых, а ні падданыя — ад Сапегаў. А гэта ёсць лепшым доказам існавання таго, што мы называем аднолькавай ментальнасцю.

6 Чволэк А. Як палявалі на чараўніц у маёнтках Яна Станіслава Сапегі // Беларускі Гістарычны Агляд. Т. 16, сш. 1. Мінск, 2009 ; URL: http://www.belhistory.eu/arkadziush-chvolek-yak-palyavali-na-chara%D1%9Enic-u-mayontkax-yana-stanislava-sapegi/ (дата доступу 18.02.2013).

7 Lulewicz H. Jan Stanisław Sapieha h. Lis // Polski Słownik Biograficzny [далей — PSB]. Wrocław ; Warszawa ; Kraków, 1992. T. XXXIV [34]. S. 624—629.

# Аўтары зборніка

**Бразюнене Альма** — доктар гуманітарных навук, лектар Інстытута кнігазнаўства і дакументалістыкі Вільнюскага ўніверсітэта

**Бабкова Вольга Уладзіміраўна** — загадчык аддзела старажытных актаў Нацыянальнага дзяржаўнага архіва Беларусі

**Бярозкіна Наталля Юр'еўна** — кандыдат гістарычных навук, дырэктар ГУ "Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі"

**Вабішчэвіч Алесь Мікалаевіч** — доктар гістарычных навук, загадчык кафедры гісторыі славянскіх народаў Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С. Пушкіна

**Валецкі Вацлаў** — прафесар, доктар габілітованы, кіраўнік кафедры старапольскай літаратуры і Цэнтра даследаванняў Польскай бібліяграфіі Эстрэйхераў Ягелонскага ўніверітэта (Кракаў)

**Варабей Андрэй Уладзіміравіч** — старшы выкладчык кафедры архітэктурнага праектавання і малюнка Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта

**Герасімаў Валерый Мікалаевіч** — загадчык сектара старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусі

**Гладышчук Анатоль Антонавіч** — кандыдат фізіка-матэматычных навук, загадчык кафедры фізікі Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта

**Гурына Валянціна Пятроўна** — вядучы бібліятэкар Ровенскай дзяржаўнай абласной бібліятэкі (Украіна)

**Дзендзелюк Леся Сцяпанаўна** — навуковы супрацоўнік аддзела навуковай рэстаўрацыі і кансервацыі рэдкіх выданняў Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэкі імя У. Стэфаніка Нацыянальнай акадэміі навук Украіны

**Доўнар Ларыса Іосіфаўна** — кандыдат педагагічных навук, дацэнт кафедры гісторыі і тэорыі інфармацыйна-дакументных камунікацый Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў

**Есіпава Валерыя Анатольеўна** — доктар гістарычных навук, загадчык аддзела рукапісаў і кніжных помнікаў Навуковай бібліятэкі Томскага дзяржаўнага ўніверсітэта

**Жылко Вадзім Вітальевіч** — краязнавец, журналіст, карэспандэнт штотыднёвіка "Информ-прогулка" (Лунінец, Брэсцкая вобласць)

**Замзаева Талкын Амангельдыеўна** — кіраўнік аддзела сусветнай літаратуры Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Казахстан (Алматы)

**Зверава Ірына Сяргееўна** — кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела архіўных дакументаў Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург)

**Іванова Алена Вітальеўна** — кандыдат філалагічных навук, дырэктар Нацыянальнай кніжнай палаты Рэспублікі Беларусь

**Іванова Людміла Сяргееўна** — вядучы палеограф Нацыянальнага дзяржаўнага архіва Беларусі

**Іванец Еўгеніуш** — доктар навук (Лодзь)

**Ігнацюк Алена Іванаўна** — кандыдат філалагічных навук, выкладчык Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта (Пінск, Брэсцкая вобласць)

**Ільін Аляксандр Львовіч** — кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацент Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта (Пінск, Брэсцкая вобласць)

**Каламайская-Саід Марыя** — доктар навук, прафесар (Варшава)

**Карапузава Ганна Генадзьеўна** — кандыдат гістарычных навук, дырэктар навукова-метадычнай установы "Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці"

**Кірэева Галіна Уладзіміраўна** — загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Коўкель Лілія Іванаўна** — доктар навук, ад'юнкт Педагагічнай акадэміі (Кракаў)

**Лаўрык Юрый Мікалаевіч** — магістр тэалогіі, вядучы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела пісьмовых і выяўленчых крыніц Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі

**Мамантаў Марк Аляксандравіч** — кандыдат педагагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург)

**Мароз Валерый Вячаслававіч** — краязнавец (Брэст)

**Марозава Святлана Валянцінаўна** — доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы

**Матульскі Раман Сцяпанавіч** — доктар гістарычных навук, прафесар, дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

**Мігань Кшыштаф** — доктар навук, прафесар Вроцлаўскага ўніверсітэта

**Мусевіч Георгій Сцяпанавіч** — краязнавец (Камянец, Брэсцкая вобласць)

**Нарбуцене Дайва** — кандыдат гістарычных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы

**Нікалаеў Мікалай Віктаравіч** — доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рэдкай кнігі Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі (Санкт-Пецярбург)

**Нікітчык Анатоль Данілавіч** — краязнавец, інжынер рэдакцыйна-выдавецкага аддзела Брэсцкага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта

**Няклюдава Таццяна Анатольеўна** — навуковы супрацоўнік Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея

**Пазіхоўская Святлана Уладзіміраўна** —дырэктар Музея кнігі і друку (Астрог, Украіна)

**Підлыпчак-Маеровіч Марыя** — доктар навук, прафесар Педагагічнага ўніверсітэта (Кракаў)

**Сіесс-Кшышкоўскі Станіслаў** — магістр, спецыяліст Цэнтра даследаванняў Польскай бібліяграфіі Эстрайхераў Ягелонскага ўніверсітэта (Кракаў)

**Суша Аляксандр Аляксандравіч** — кандыдат гістарычных навук, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай рабоце

**Туміловіч Васіль Мікалаевіч** — краязнавец (Лунінец, Брэсцкая вобласць)

**Фаменка Ігар Канстанцінавіч** — кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік Дзяржаўнага Гістарычнага Музея (Масква)

**Флікоп Галіна Аляксандраўна — аспірант** Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы НАН Беларусі, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь

**Цібароўская-Рымаровіч Ірына Алегаўна** — кандыдат гістарычных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Нацыянальнай бібліятэкі Украіны імя В.І. Вернадскага

**Ціхарацкі Пётр** — доктар навук, ад'юнкт Інстытута гісторыі Вроцлаўскага ўніверсітэта

**Шчарбакова Кацярына Ігараўна** — кандыдат гістарычных навук, дацэнт, намеснік загадчыка кафедры грамадска-гуманітарных дысцыплін школы эканомікі Маскоўскага дзяржаўнага ўніверітэта імя М.В. Ламаносава

# ЗМЕСТ

## Кніжнасць на Берасцейшчыне ў XVI—XIX стагоддзях

## Кнігазборы Сапегаў

